ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

22 СНЕЖНЯ 1995 г. № 51 (3823) Кошт 2 500 руб.

## КАРДЫЯГРАМА ДЭБЕЛАРУСІЗАЦЫІ

***Леанід ЛЫЧ: "Сакратар ЦК КП (б) Б па прапагандзе Міхаіл Іаўчук на XIV пленуме ЦК КП (б) Беларусі, што праходзіў у чэрвені 1947 г., гаварыў: "Нам неабходна ўсямерна расшыраць друкаваную і вусную прапаганду дасягненняў беларускай культуры, друкаваную і вусную прапаганду на беларускай мове, на якой можа вольна выступаць і пісаць значная большасць інтэлігенцыі нашай рэспублікі". Зараз пра нашую інтэлігенцыю такога не скажа ніводны палітык..."***

**5, 12**

## З МАІХ ЗАПАСНІКОЎ

***Вершы Сяргея ГРАХОЎСКАГА***

**8**

## БАЮ-БАЙ, МОЙ ГЕНЕРАЛ

***Апавяданне Віктара СУПРУНЧУКА***

**9**





Віктар ШНІП

### АКНО

акно самае безабароннае месца ў доме
праз яго як праз рэшата
з неба працякае святло
і працякае цемра ў мой свет
і як просячыся ў неба
якое стварылі людзі
стукаецца аб шкло матыль
нібыта душа засохлай ружы
што ляжыць на маім стале
але ў акна ёсць штосьці д'яблава
і яно прыцягвае
і яно спакушае
і яно палохае
акно гэта мой квадрат
які бывае чорнага колеру
як у Казіміра Малевіча
які бывае
якім бываю я
акно гэта вітрына майго жыцця
дзе суседскія вокны
гэта толькі вокны
з якіх выцякае святло і змрок
знікаючы ў Леце часу
акно гэта зашклёная прорва
у якую можна кінуцца
і на хвілю спазнаць тое
што называецца самагубствам
акно гэта люстэрка
у якое глядзіцца бяроза
што стоячы ля майго акна
пакідае мне ў сваім галлі акно
маё акно ў Еўропу

*Фота А. МАЦЮША*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***А ці не думаеце вы, панове, што выбары расійскія цалкам "накладваюцца" на выбары беларускія? Па агульных выніках, вядома. Камуністы — першыя. ЛДПР (аграры) — другія, прычым і "нашы", і "іхнія" быццам і гатовы супрацоўнічаць з камуністамі і разам з тым прэтэндуюць на самастойнасць. Далей — дэмакраты, якія хоць і прайгралі, але захавалі сякі-такі ўплыў у парламенце, найперш за кошт аўтарытэту лідэраў... Словам, не здарылася нічога нечаканага і непрадказальнага. Нечаканасці ў Расіі могуць быць наперадзе, на прэзідэнцкіх выбарах, зыход якіх, мяркуючы зноў жа па выбарах прэзідэнта на Беларусі, прадказаць няцяжка: дзесятак кандыдатаў, з якіх у другі круг выходзіць двое... Хто? Зразумела, з самых "арганізаваных" Зюганаў і Жырыноўскі. І давядзецца расійцам "из двух зол выбирать лучшее", як нам некалі. Давядзецца, калі дэмакраты не зробяць высноў з гэтых выбараў і на выбарах прэзідэнта не выставяць моцнага, хай і не ўсіх задавальняючага, але аднаго — ад усіх сваіх дробных і дробненькіх партый — кандыдата. Толькі тады змогуць яны сапернічаць з камуністамі і жырыноўцамі. А таму выбары ў Думу сёння можна лічыць толькі генеральнай рэпетыцыяй. Не больш. Сам спектакль — наперадзе.***

## *КЛОПАТ ТЫДНЯ*

Набліжаюцца Новы год і Каляды — любімыя святы дзяцей і дарослых беларусаў. Вырашыў не застацца ў баку ад іх і наш прэзідэнт. Ён накіраваў тэлеграму ў Кабінет Міністраў, міністру гандлю, Белкапсаюзу, старшыням аблвыканкамаў, начальніку службы Кантролю прэзідэнта, у якой запатрабаваў прыняць неадкладныя меры па тэрміновым забеспячэнні належнай арганізацыі работы ганлёвых прадпрыемстваў з адпаведным асартыментам тавараў у сувязі з надыходзячымі наваголнім і калляднымі святамі, паведамляе БЕЛТА. Службе Кантролю даручана пракантраляваць выкананне тэлеграмы і аб выніках далажыць.. да 1 лютага 1996 года. Рынačны сацыялізм, якім яго разумее наш прэзідэнт, у дзеянні!

## *"ЗАПРАШЭННЕ" ТЫДНЯ*

На хвалі эйфарыі, якая паднялася ў Расіі ў сувязі з лідэрствам камуністаў на выбарах у Думу, лідэр КП РФ Г. Зюганаў даслаў народам і парламентам дзяржаў, якія ўваходзілі ў склад СССР, зварот з заклікам "пачаць рэальныя дзеянні для рэальнага збліжэння нашых дзяржаў" і прапанаваў "правесці на працягу 1996 года ўсенародныя апытанні насельніцтва для выяўлення іх адносін да ідэі інтэграцыі ў абноўлены Саюз". Сімптаматычна, што свой зварот Г. Зюганаў накіраваў не ў толькі што абраны парламент Беларусі, а непасрэдна прэзідэнту. Зразумела, зварот гэты ў іншых краінах СНД альбо не заўважаць, альбо адразу ж забудуць. Але толькі не ў нас, дзе ўспрымаецца ён калі і не як ультыматум, дык як загад да дзеяння — дакладна.

## *КАНСІЛІУМ ТЫДНЯ*

Прэзідэнт Беларусі 18 снежня прыняў у сваёй рэзідэнцыі дэпутатаў з фракцыі камуністаў у новым Вярхоўным Савеце. Размова была канфідэнцыяльнай і ні адзін з бакоў са зместам яе журналістаў не азнаёміў. А таму, як вядзецца ў такіх выпадках, без неправераных чутак не абышлося. Сцвярджаюць, што кандыдатура спікера парламента на сустрэчы не абмяркоўвалася, але камуністы запатрабавалі ў прэзідэнта аддаць партфелі двух сілавых міністраў "іх" людзям, а таксама выключыць з "вертыкалі" І. Ціцянкова, Л. Сініцына і М. Мясніковіча... Чуткі чуткамі, аднак 20 снежня прэзідэнт падпісаў указ аб адстаўцы шэфа КДБ У. Ягорава і прызначэнні на ягонае месца У. Мацкевіча, а таксама аб прызначэнні В. Агальца на месца даўно звольненага міністра ўнутраных спраў Ю. Захаранкі.

## *ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Зноў здзівіў нас вядомы публіцыст, прэзідэнт Фонду "Усход-Захад" Анатоль Майсеня. Ягоны артыкул "Густой туман, местами гололедица..." у "Народнай газеце" за 16—18 снежня г.г. — проста бліскучы аналіз сённяшняй палітычнай сітуацыі ў краіне з арганічна-натуральна выцякаючымі з яго высновамі і прагнозамі на будучыню. Але самае галоўнае — гэты артыкул яшчэ і папярэджанне-парада некаторым палітыкам, што пры ўладзе, каб перш чым прымаць рашэнне, сем разоў адмервалі і толькі потым — адразалі, бо мы стаміліся жыць пад "кіраўніцтвам" не розуму і разліку, а пачуццяў і настрою...

## *ПРАГНОЗ ТЫДНЯ*

"У год насельніцтва Беларусі змяншаецца амаль на 90 тысяч чалавек. Калі гэтая тэндэнцыя захаваецца, праз 111 гадоў, да 2105 года, з твару зямлі можа знікнуць апошні жыхар Беларусі, як некалі зніклі скіфы, хазары, сарматы, урартыйцы, кімерыйцы, майя, кічэ, мам, цонталь, чоль, хуастэкі і іншыя народы. Па дадзеных медыкаў кожны другі жыхар Беларусі можа быць хворы на анкалагічныя захворванні. Калі, не дай Бог, гэтыя прагнозы збудуцца, то працэс вымірання беларускага народа, які пачаўся ў 1993 годзе, зменіцца працэсам яго гібелі".

*(З інтэрв'ю прэзідэнта Фонду абароны жыцця, акадэміка М. ЦЯЎЛОЎСКАГА "Народнай газеце", 19 снежня г. г.)*

## *ПАРТРЭТ ТЫДНЯ*

Вось і дачакаліся: вобраз нашага прэзідэнта стаў "достоянием искусства", а сам прэзідэнт героем аповесці пад арыгінальным назовам "Первый президент Республики Беларусь". Аўтар твора — гісторык-публіцыст Уладзімір Якутаў, а эксклюзіўныя правы на публікацыю яго атрымала "Знамя юности", дзе 15 снежня г. г. мы і мелі магчымасць пазнаёміцца з урыўкамі з твора. Дзеля кароткага знаёмства з вартасцямі гэтага шэдэўра мастацтва прапануем невялікую цытату з яго. Аднойчы ў дзяцінстве будучы прэзідэнт араў зямлю. І каб конь (лошадь) не заглядваўся на сакавітую траву, яму завязалі вочы. Дык вось: "где-то метров через пять-семь платок сполз с ее *(лошади. — "ЛіМ")* глаз, и они, не прекращая движения, влезли на межу. Плуг, естественно, последовал за ним..." Няшчасная руская мова, прымі нашы спачуванні.

## *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

За пяць апошніх гадоў мы сталі ў пяць разоў менш выпісваць газет і часопісаў: з 2,2 мільярда экземпляраў у 1990 годзе да 440 мільёнаў — у 1995; за гэты ж час мы ў тры разы менш сталі пісаць лістоў, у 20 разоў менш адпраўляць пасылак і ў 5 разоў менш дасылаць тэлеграм. Некалі Брэжнеў назваў дэвізам пяцігодкі "Эканоміка павінна быць эканомнай". Падобна на тое, што здзяйсняцца ён пачаў толькі зараз: эканомім мы сёння на ўсім, нават на ўвазе да блізкіх і родных.

З нагоды

# НАША СВАБОДА — НЕЙТРАЛІТЭТ

10 студзеня актыўнасць выбаршчыкаў прымусіла сп. Лукашэнку адкласці на нейкі час рэалізацыю сваёй запаветнай мары — увядзення прамога прэзідэнцкага кіравання. Напярэдадні выбараў хадзілі гаворкі, што АМОН і ўнутраныя войскі (тыя, *хто, згодна новай модзе, прысягалі* не дзяржаве і Канстытуцыі, а "президенту и Отечеству") былі пераведзены з прыгарадных баз у Мінск і размешчаны ў вайсковых казармах. Цяпер яны нібыта вярнуліся на месцы пастаяннай дыслакацыі. Але дзеянні Адміністрацыі прэзідэнта, накіраваныя на зрыў першай сесіі новага Вярхоўнага Савета, здаецца, працягваюцца. На мінулым тыдні Мечаслаў Грыб, які нібыта ўжо развітаўся з журналістамі пасля таго, як новы парламент набыў пасля давыбараў легітымнасць, быў вымушаны зноў сабраць іх на прэс-канферэнцыю. Першая сесія новага парламента можа не адбыцца, — паведаміў прысутным Мечаслаў Іванавіч. Бо фінансы кантралюе прэзідэнт (хоць, па сутнасці, гэта супрацьзаконна), і ягоная Адміністрацыя не дае грошай на новы парламент. На рахунку сакратарыята старога Вярхоўнага Савета, які павінен падрыхтаваць першую сесію новага, — ні капейкі. Больш таго, супрацоўнікі сакратарыята і сам Мечаслаў Грыб пазбаўлены службовага транспарту. На іх тэлефонныя званкі Адміністрацыя прэзідэнта не адказвае. Днямі на просьбу даць машыну, каб кур'ер мог адвезці стос падрыхтаваных сакратарыятам ВС дакументаў для азнаямлення прэзідэнту, з Адміністрацыі параілі прайсціся пешшу альбо праехацца на аўтобусе. Спікер старога ВС, які лічыцца здаўшым паўнамоцтвы толькі *пасля таго, як збярэцца* новы парламент, пазбаўлены аховы. Цяжка ўявіць большы абсурд, калі Старшыня Вярхоўнага Савета вымушаны дабірацца да сваёй рэзідэнцыі ў Драздах на працу на "Жыгулях" нейкага прыватніка. "Я трыццаць пяць год працаваў у органах унутраных спраў, але з такім "беспределом" *сустракаюся ўпершыню", — пракаментаваў* сітуацыю М. Грыб. На ягоную думку, гэтыя супрацьпраўныя акцыі накіраваны не толькі і не столькі супраць яго асабіста і ягоных калег па старым ВС, як супраць дэпутатаў новага парламента. Каб яшчэ да сваёй першай сесіі ведалі, што тое ж можа быць і з імі, калі не будуць сядзець, "як мыш пад венікам".

Аднак жа за ўнутранымі справамі сп. Лукашэнка вымушаны дбаць і пра знешнюю рэспектабельнасць, пра імідж рэжыму за межамі краіны. А імідж пасля таптання на месцы ў справе рэфармавання эканомікі, пасля гвалту над Свабоднымі прафсаюзамі, інцыдэнтам з паветраным шарам і неасцярожных слоў у інтэрв'ю германскай газеце — кепскі. Справе паляпшэнню іміджа павінна служыць заява міністра замежных спраў Беларусі У. Сянько ад 14 снежня пра тое, што Беларусь не з'яўляецца "класічнай нейтральнай дзяржавай", і таму ўдзел беларускага вайсковага кантынгента ў міратворчай акцыі ў Босніі ў прынцыпе магчымы. Праблемным, маўляў, з'яўляецца толькі фінансавы аспект гэтай акцыі, бо хто дае свае войскі пад блакітны сцяг ААН, той за гэта і плаціць. Зрэшты, наша краіна магла б дзеля добрай справы, дзеля ўсталявання спакою на шматпакутнай зямлі паўднёвых славян паслаць на Балканы колькі соцень сваіх вайскоўцаў-валанцёраў. *Гэта сапраўды* было б прыхільна ўспрынята Захадам. Але гэта гуманная акцыя можа мець для нашай краіны вельмі небяспечныя наступствы...

Нядаўна ў Беларусь наведваўся расійскі ваенны міністр П. Грачоў. У часе візіту падпісана каля двух дзесяткаў пагадненняў, змест якіх беларускаму грамадству амаль невядомы. А агульныя словы пра "больш шчыльную інтэграцыю ў рамках Калектыўнай бяспекі" можна трактаваць як заўгодна. Дык вось, ці не атрымаецца, што з'яўленнем беларускіх вайскоўцаў на Балканах (а гэта ўжо не дэкларатыўнае, а фактычнае адмаўленне ад нейтралітэту) будзе створаны прэцэдэнт, на падставе якога нам давядзецца ўмацоўваць "государственную границу СНГ" дзенебудзь у Таджыкістане? Той жа Грачоў ці ягоны пераемнік на пасадзе ваеннага міністра запытае, чаму гэта, маўляў, у Боснію паслаць свае войска Беларусь можа, а падтрымаць расійскіх братоў у Сярэдняй Азіі альбо Закаўказзі — не? А расійскія вайскоўцы ў сваю чаргу "дапамогуць" нам "умацаваць" мяжу" з Летувой, Польшчай, Латвіяй, Украінай.

Сп. Лукашэнку, генералітэту (беларускаму толькі па назве) гэта, можа, і трэба. Беларусі — не! Мы, знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, не можам быць абыякавымі да ўсяго, што адбываецца на кантыненце. Мы ведаем, што такое вайна, і спачуваем яе ахвярам. Але аднойчы паступіўшыся нейтралітэтам, мы рызыкуем занадта многім. Пытанне, зрэшты, стаіць так: альбо Беларусь класічная нейтральная дзяржава, альбо класічная калонія, альбо яшчэ горш — класічная губерня.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# БЕЛАРУСЬ—КІТАЙ: ЗБЛІЖЭННЕ ПРАЦЯГВАЕЦЦА





Незалежная дзяржава — гэта і незалежная ад суседзяў дзяржаўная палітыка, што тычыцца самых розных аспектаў жыцця, у тым ліку і культурнага. У гэтым кірунку ў Рэспубліцы Беларусь апошнім часам робіцца *вельмі шмат.* Пацвярджэнне таму і шэраг пагадненняў, дагавораў, падпісаных з самымі рознымі краінамі.

Усё бліжэй да Беларусі становіцца так званае далёкае замежжа. Вось і на мінулым тыдні ў Рэспубліку Беларусь прыбыла дэлегацыя на чале з намеснікам міністра культуры Кітайскай Народнай Рэспублікі Чэн-Чанбанем, якая была прынята міністрам культуры і друку Анатолем Бутэвічам.

Наш спадар міністр інфармаваў гасцей пра шматгранную дзейнасць міністэрства, якое ён узначальвае, засяродзіў увагу прысутных на яго структурнай будове. Чэн-Чанбань зазначыў, што, дзякуючы ўстанаўленню дыпламатычных адносін паміж КНР і Рэспублікай Беларусь, узмацніліся кантакты паміж дзвюма краінамі, у тым ліку і культурныя.

Яшчэ ў 1992 годзе было падпісана пагадненне аб культурным супрацоўніцтве, якое дало жаданыя вынікі. У нашай краіне выступаў танцавальны калектыў з Кітая, працавала выстаўка дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

А вынікам гэтай сустрэчы стала падпісанне Дагавора аб супрацоўніцтве ў галіне культуры паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай на 1995—1997 гады.

# ПРЫЗЁР — А. КЛЯШЧУК

Вядомы майстра, фотакарэспандэнт рэспубліканскай газеты "Звязда" стаў пераможцам прэстыжнай міжнароднай выстаўкі, што праводзілася ў сталіцы Японіі Токіо па праграме Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у галіне навакольнага асяроддзя (UNEP) і прысвячалася 50-годдзю ААН. Наколькі аўтарытэтным быў гэты творчы агляд, яскрава сведчыць той факт, што на выстаўцы спаборнічалі амаль 20 тысяч фотамайстроў са 153 краін свету.

Як і вымагалі ўмовы конкурсу, на яго былі прадстаўлены работы, аўтары якіх мовай здымкаў закраналі самыя вострыя экалагічныя праблемы сваіх краін. Для незалежнай Беларусі, як вядома, яны звязаны найперш з наступствамі Чарнобыля. Асэнсаваннем чарнобыльскай тэмы А. Кляшчук заняўся даўно, што засведчыў шэраг яго работ і цыклаў у рэспубліканскай перыёдыцы.

Пераможцам стаў яго здымак пад назваю "Хлопчык у Бараўлянах".

Шматлікія асацыяцыі выклікае работа, але і думка нязменна вяртаецца да аднаго: надзея памірае апошняй...

Негатыў здымка ўвайшоў у залаты фонд UNEPа, а А. Кляшчук у якасці прыза атрымаў з Токіо фотаапарат.

Варункі

# У АВАНГАРДЗЕ — "АВАНГАРД"?

Выбары ў Расіі, дакладней, іх вынікі, па-ранейшаму прыцягваюць да сябе ўвагу. І хоць афіцыйныя вынікі яшчэ не абвешчаныя, тым не менш, па стану на 11 гадзін 21 снежня сітуацыя склалася наступным чынам: Камуністычная партыя Расіі атрымала 21,5% галасоў, ці прыкладна 48 мандатаў па агульнафедэральных спісах, і 46 па аднамандатных акругах; ЛДПР У. Жырыноўскага — 11,08%, блок В. Чарнамырдзіна "Наш дом — Расія" — 9,83%, "Яблык" Р. Яўлінскага — 7,19%. Крыху галасоў не дабіраюць да патрэбнай колькасці "Дэмвыбар" Я. Гайдара і "Жанчыны Расіі". Аднак пасля падвядзення канчатковых вынікаў можна спадзявацца, што ў пяцёрку лідэраў хто-небудзь з іх патрапіць.

Такім чынам, у авангардзе ўпэўнена трымаецца Камуністычная партыя Расійскай Федэрацыі, якой у патыліцу дыхае ЛДПР. І такое спалучэнне лідэраў не надта добрае.

Мяркую, даваць якія-небудзь каментарыі не мае сэнсу, бо ўсё ўжо сказана. Свае погляды на сітуацыю выказалі лідэры ПКБ і БНФ і, напэўна, прадстаўнікі іншых партый не застануцца ўбаку. "Имя" ў N 28 за 20 снежня дало слова Генадзю Зюганаву. Таму намаляваць прыкладную сітуацыю можна. Мы ж спынімся толькі на некаторых момантах расійскіх выбараў, у прыватнасці, на магчымых наступствах іх вынікаў для Беларусі.

Перамога Кампартыі Расіі была ў значнай ступені прадказальнай. Праўда, пэўнае здзіўленне выклікае перамога ЛДПР, аднак і тут вынік можна было спрагназаваць. Аднак тандэм КПРФ—ЛДПР (які, безумоўна, узнікне ці будзе ўзнікаць падчас працы Думы) уяўляе сабой даволі значную небяспеку, перш за ўсё для нашай рэспублікі. Васіль Новікаў у інтэрв'ю "Звяздзе" заявіў, што "беларускія і расійскія левыя сілы знойдуць шляхі для ўзмацнення інтэграцыйных працэсаў... якія пойдуць значна хутчэй". Такім чынам, у перспектыве нас можа чакаць беларуска-расійская канфедэрацыя ці якая-небудзь пачвара падобнага кшталту. Аднак слова "канфедэрацыя" ў дадзеным выпадку можна ўзяць у двукоссе, бо наўрад ці гэта будзе адпавядаць рэчаіснасці.

Праўда, параноўваць беларускіх камуністаў з расійскімі па прынцыпах дзейнасці па меншай меры недарэчна. Тыя камуністы ўжо "не тыя", і гэта разумееш, калі паглядзець праграму КПРФ. Нашыя ж "адэпты веры" па-ранейшаму застаюцца артадаксальнымі "верными ленинцами" (ці, хутчэй, сталінцамі). Па сваёй пазіцыі да расійскіх камуністаў больш-менш падобны Віктар Чыкін, аднак казаць пра "ўплывовасць" "рэфарміцкага" руху ў ПКБ яшчэ рана, таму што, па-першае, на фоне КПРФ у нас гэты рух знаходзіцца, мякка кажучы, у дзіцячым узросце, а па-другое, "першую скрыпку" ўсё ж такі йграюць камуністы старой, "традыцыйнай", так бы мовіць, загартоўкі на чале з Васілём Новікавым. Таму супрацоўніцтва парламенцкай фракцыі ПКБ з думскімі камуністамі можа прывесці да негатыўных наступстваў для Беларусі.

Як вядома, беларускія камуністы ў свой час далі свету Аляксандра Лукашэнку і таму магчыма, што паміж імі можа ўзнікнуць пэўны ўзаемавыгадны сімбіёз. Што з гэтага выйдзе — зразумела, бо вядомая скіраванасць палітыкі сп. Лукашэнкі. Таму і выказванне міністра замежных спраў У. Сянько аб магчымасці адпраўкі беларускіх вайскоўцаў на Балканы можна расцэньваць як намёк на тое, што пад выглядам міратворчых сіл нашых хлопцаў могуць адправіць і ў Чачню (што б ні казалі рознага рангу кіраўнікі абедзвюх дзяржаў).

Беларускія камуністы з'яўляюцца прыхільнікамі той ідэалогіі, вызначэнне якой — інтэрнацыянальная, ці, іншымі словамі, наднацыянальная. Яна не прызнае адметнасцяў пэўнага народа, яе агульная мэта — "мировая революция" (праўда, цяпер у крыху іншым сэнсе). У беларускіх камуністаў няма ўсведамлення сваёй нацыянальнай прыналежнасці, і апошняя літара ў абрэвіятуры ПКБ азначае, так бы мовіць, месца пражывання гэтай групы "кочевников". Беларусь для іх — "подручный материал", "средство производства", і таму рабіць для яе яны нічога не будуць. А якраз гэта могуць скарыстаць расійскія камуністы, бо Расія заўсёды была слаўная сваімі імперскімі амбіцыямі. І, дарэчы, засталася вернай гэтай традыцыі (дастаткова хаця б прыгадаць канцэпцыю ўзаемадачыненняў РФ з краінамі СНД на 1996 год). Таму застаецца спадзявацца на тое, што, у адрозненне ад Расійскай Думы, у беларускім парламенце фракцыя камуністаў не будзе даволі ўплывовай.

**Тарас КУТНЯК**




# АБАРАНІЦЬ ПРАВЫ

## ЗВАРОТ ДА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА, ПРЭЗІДЭНТА, УРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Мы, удзельнікі сустрэчы кіраўнікоў беларускіх суполак у блізкім і далёкім замежжы, якая адбылася 11—12 лістапада ў Мінску, выказваем заклапочанасць грамадска-палітычным, эканамічным і нацыянальным становішчам на Бацькаўшчыне, лічым неабходным умацаванне дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, занепакоены паніжэннем статуса дзяржаўнасці беларускай мовы і адмоваю ад гістарычных сімвалаў беларускага народа. Адначасова спадзяёмся, што крызіс будзе пераадолены на падставе дэмакратычных каштоўнасцей і Рэспубліка Беларусь больш актыўна будзе ўваходзіць у сусветнае супольніцтва народаў як дэмакратычная незалежная дзяржава.

Удзельнікі сустрэчы перакананы ў тым, што толькі поўнае нацыянальнае адраджэнне Беларусі, дзяржаўны ранг беларускай мовы могуць гарантаваць духоўную і рэальную, практычную сувязь дыяспары з радзімай.

У ходзе абмену думкамі ўдзельнікамі сустрэчы было паднята шэраг пытанняў, вырашыць якія магчыма толькі з удзелам дзяржаўных органаў. Дэлегаты канстатавалі, што прынятая ўрадам Рэспублікі Беларусь праграма "Беларусы ў свеце" выконваецца не у поўным аб'ёме.

Выказваючы супольнае пажаданне ўдзельнікаў сустрэчы, даводзім да ведама Вярхоўнага Савета, Прэзідэнта, Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь наступныя прапановы па ўсталяванні сувязі з суайчыннікамі і аказанні дапамогі нашым суродзічам на абшары СНД і ў краінах далёкага замежжа.

1. Больш актыўна аказваць дапамогу беларусам замежжа ў адкрыцці беларускіх культурна-асветных цэнтраў, рэлігійных храмаў, школ, бібліятэк, музеяў, развіцці перыядычнага друку, радые і тэлебачання: забяспечыць сістэматычны абмен інфармацыяй паміж Беларуссю і краінамі пражывання беларусаў.

2. Выпрацаваць і прыняць Закон РБ аб абароне правоў замежных беларусаў, стварыць адпаведную дзяржаўную структуру, як гэта зроблена ў Расійскай Федэрацыі, на Украіне і іншых сучасных дзяржавах.

3. Забяспечыць магчымасць для беларусаў замежжа падпіскі на перыядычныя выданні, што выходзяць у Беларусі.

4. Надаць статус найбольшага эканамічнага спрыяння прадпрымальнікам беларускага паходжання з эміграцыі, якія жадаюць прыняць удзел у вырашэнні эканамічных праблем нашай краіны (пры заключэнні кантрактаў, набыцці маёмасці, стварэнні сумесных прадпрыемстваў на Беларусі і г. д.).

5. Забяспечыць рэальныя ўмовы для вяртання на Беларусь асоб беларускага паходжання, жадаючых пераехаць на Бацькаўшчыну.

6. Выкарыстоўваць лепшыя інтэлектуальныя сілы беларускай дыяспары пры вырашэнні праблем духоўнага і эканамічнага адраджэння Беларусі, выхаду яе з крызісу.

7. Заключыць пагадненні аб рэгулярным інфармацыйным абмене з тэлебачаннем суседніх краін з улікам патрэб беларускай дыяспары і нацыянальных меншасцей у Беларусі.

8. Устанавіць бязвізавы рэжым уезду ў Беларусь для беларусаў Балтыі.

9. Спрыяць дзейнасці грамадскіх арганізацый, якія ладзяць сувязі з беларускім замежжам, ствараць роўныя ўмовы іх падтрымкі з боку дзяржавы.

10. Аказаць падтрымку Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў выданні газеты для беларусаў замежжа.

11. Увесці спрошчаную працэдуру набыцця грамадства для выхадцаў з Беларусі і іх нашчадкаў.

12. Забяспечваць праз сродкі масавай інфармацыі грмадзян Беларусі звесткамі пра жыццё беларускай дыяспары.

Удзельнікі сустрэчы выказваюць спадзяванне, што клопаты замежных беларусаў не застануцца без увагі ўладаў Рэспублікі Беларусь.

Сустрэчы

# ДЗВІНА-ДАЎГАВА ЧАКАЕ

У 1988 годзе намаганнямі ў першую чаргу пісьменніка В. Якавенкі па Дзвіне-Даўгаве была праведзена міжнародная экспедыцыя пад дэвізам: "Мір — планеце, здароўе і моц — зямлі". Сярод літаратараў, вучоных з Расіі, Латвіі, Беларусі былі У.Арлоў, І. Васілеўскі...




З таго часу міжнароднае супрацоўніцтва па абароне экалагічнага і культурнага стану вялізнага вадастоку Дзвіны-Даўгавы, нягледзячы на вірлівыя падзеі, не заняпала. 12—13 снежня 1995 года на базе Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта прайшла IV рэгіянальная навукова-практычная канферэнцыя "Дзвіна-Даўгава", у якой прынялі ўдзел навуковыя і грамадскія дзеячы, спецыялісты па экалогіі з Цверы, Санкт-Пецярбурга, Даўгаўпілса, Мінска, Смаленска, а таксама многія зацікаўленыя навукоўцы з Полацка і Віцебска. На пленарных пасяджэннях, на экалагічнай, культуралагічнай і гістарычнай секцыях вялася гаворка аб тым, як сумеснымі намаганнямі захаваць — ад вытоку да вусця — артэрыю добрасуседства, раку нашага агульнага лёсу, крынічныя радовішчы духоўнасці расіян, беларусаў, латышоў.

**С. ПАНІЗНІК**

***У кастрычніку ў Мінску прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя па архіактуальнай на сёння праблеме "Славянскія культуры пасля Другой сусветнай вайны". Да ўдзелу ў ёй рыхтаваліся многія вучоныя Беларусі, у іх ліку і аўтар дадзеных радкоў. Напачатку мой даклад меркавалася вынесці на пленарнае пасяджэнне, таму давялося сур'ёзна папрацаваць з архіўнымі дакументамі і літаратурнымі крыніцамі, каб на шматлікіх і неабвержаных фактах паказаць удзельнікам канферэнцыі, як мэтанакіравана і напорыста па ініцыятыве ідэалагічных службаў партыі бальшавікоў вынішчаліся нацыянальныя асновы культуры беларусаў. Аднак выступіць мне далі не на пленарным пасяджэнні, а на секцыі і адвялі для гэтага толькі 20 хвілін. Змест даклада быў раскрыты ў самай фрагментарнай форме, але выклікаў немалую зацікаўленасць і неадназначную ацэнку. Таму хацелася б на суд грамадскасці вынесці яго ў тым аб'ёме, як ён быў падрыхтаваны мною.***

**АЎТАР**

Леанід ЛЫЧ

# КАРДЫЯГРАМА ДЭБЕЛАРУСІЗАЦЫІ

## МАЙ 1945 — САКАВІК 1953 гг.

Беларусам не ўпершыню даводзіцца ўдзельнічаць у рознага роду агульнаславянскіх з'ездах і канферэнцыях. Прысутнічалі яны і ўлетку 1908 г. на такім з'ездзе ў Празе. Беларускую секцыю ўзначальваў рэдактар газеты "Наша Ніва" Аляксандр Уласаў. Адзін з выступоўцаў ад гэтай секцыі так закончыў сваю прамову: "Беларусы гасцявалі ў Празе яшчэ 500 гадоў таму назад. У той час беларусы мелі багатую літаратуру, у Празе ж быў надрукаваны адзін з самых найстаражытных перакладаў Біблii на беларускай мове. Па-беларуску ж друкаваліся і законы — Літоўскі Статут. Ад тае пары мінула 500 гадоў, і пра беларусаў ніхто і ведаць нічога не ведае. Панаванне памешчыкаў і адміністрацыі зрабілі на Беларусі тое, што ў яе няма ні сярэдняй, ні ніжэйшай школы, дзе б навучалі беларускіх дзяцей на іх роднай мове. І толькі апошнімі гадамі сярод беларускай інтэлігенцыі пачата праца над адраджэннем беларускага народа. Мы цвёрда верым, што з абнаўленнем усёй Расіі, загляне сонца і ў наша ваконца".

Ад таго з'езда ў Празе мінула амаль 90 гадоў, але ў нас праблем з выратаваннем ад нацыянальнага заняпаду — мо ўжо і канчатковага? — ніколькі не ўбавілася. Праўда, у адрозненне ад тых далёкіх часоў, зараз усё ж ёсць не толькі ніжэйшыя, але і сярэднія агульнаадукацыйныя школы на беларускай мове, праўда, вельмі мала, і зусім няма сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школы на беларускай мове. Таму ў нас няма аніякіх падстаў заяўляць, што ўжо заглянула сонца і ў наша ваконца. У ім пакуль што пануе цемра. А пануе таму, што запусціць у яго святло ў нас ніколі асабліва і не стараліся, калі не лічыць міжваеннай беларусізацыі. Пазней мы на яе зусім забыліся. Датычыць гэта і перыяду, якім абмежаваны храналагічныя рамкі майго даклада.

Да пасляваеннага адбудавання свайго жыцця Беларусь прыступіла з вельмі нязначнай колькасцю нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Залаты фонд беларускага, як і кожнага іншага народа — інтэлігенцыя — пачаў імкліва збядняцца яшчэ з 30-ых гадоў. Затым скрышальны ўдар нанеслі яму вайна і нямецкая акупацыя. А многія — і прычым даволі таленавітыя, — што змаглі перажыць гэтыя суровыя выпрабаванні, з паспяховым разгортваннем улетку 1944 г. наступлення савецкіх войскаў самі ўцяклі на Захад. Уцяклі таму, што добра ведалі, як жорстка карала савецкая Феміда не толькі тых, хто служыў у ваенна-паліцэйскіх, адміністрацыйных структурах акупацыйных уладаў, але і ў сферах культуры, навукі і асветы, г. зн. там, дзе фармуецца нацыянальны патэнцыял духоўнага жыцця кожнага народа.

Калі пакінуць па-за ўвагай нацыянальны зрэз культуры Беларусі першых пасляваенных гадоў, дык да савецкай улады нельга прад'явіць аніякіх прэтэнзій адносна яе клопатаў аб гэтай сферы жыццядзейнасці чалавека. Наадварот, партыйным і дзяржаўным органам можна без усялякай нацяжкі падзякаваць, што яны і ў гэтых экстрэмальных умовах знаходзілі матэрыяльныя і фінансавыя сродкі для аднаўлення разбураных і будаўніцтва новых устаноў культурнага прызначэння, укамплектавання іх кадрамі. Ужо на зыходзе 1945 г. функцыянавала 2,7 тыс. клубаў, 2,5 тыс. бібліятэк, 178 стацыянарных кінатэатраў і 178 перасоўных кінаўстановак, 10 тэатраў, 8 музеяў, выдавалася 9 часопісаў і 195 газет. За год выйшла з друку 169 назваў кніг агульным тыражом 3,8 млн. экземпляраў. Але, як вядома, нацыянальны патэнцыял духоўнага жыцця вызначаецца не яго матэрыяльна-тэхнічным станам, колькасцю занятых тут людзей, а зместам, накіраванасцю працы, якую яны вядуць, бо пры пэўнай установцы ўсе гэтыя клубы, бібліятэкі, тэатры, музеі, выдавецтвы могуць разгарнуць сваю дзейнасць у такім рэчышчы, што праз самы сціслы тэрмін ад гэтага нацыянальнага патэнцыялу застануцца толькі адныя абломкі.

Узнікае пытанне: ці ведала навуковая, творчая, педагагічная інтэлігенцыя, у якім накірунку павінна развівацца культура ў страшэнна разбуранай, але моцна прагнай да жыцця Беларусі? Адказ можа быць толькі станоўчы: ведала. Многія з прадстаўнікоў гэтых катэгорый інтэлігенцыі прайшлі ў 20-х — першай палове 30-х гадоў XX ст. багатую школу беларусізацыі з яе прыярытэтам нацыянальнага над інтэрнацыянальным, спадзяваліся, што Беларусі, як ва ўзнагароду за самаахвярнае змаганне з нямецкімі захопнікамі, дадуць усе магчымасці развіваць культуру на прыродным нацыянальным грунце, не будуць, як у другой палове 30-х на пачатку 40-х гадоў, фізічна вынішчаць самую таленавітую і найбольш нацыянальна самасвядомую частку інтэлігенцыі.

Вырваўшыся з-пад фашысцкай кабалы, беларусы, як ніколі раней, вельмі цягнуліся да ўсяго свайго роднага, нацыянальнага. Прычым вызваленне Беларусі ад нямецкіх захопнікаў выклікала велізарны нацыянальны патрыятызм не толькі ў тых, хто жыў на яе тэрыторыі. Пачуццё нацыянальнага гонару за беларускі народ абудзілася і ў многіх з тых, хто ўжо не першы дзесятак гадоў знаходзіўся па-за яе межамі, здабыў дзесьці для сябе другую радзіму. Неўзабаве пасля выгнання акупантаў прыслаў пісьмо ў родную Беларусь вядомы мастак, акадэмік Бялыніцкі-Біруля, у якім выказаў жаданне наведаць сваю Бацькаўшчыну. Ён пісаў: "Хачу рэшту жыцця прысвяціць беларускаму народу". Ураджэнец Піншчыны, выдатны архітэктар, акадэмік Іван Жалтоўскі прыязджаў у вызвалены Гомель. А вось патрыятычныя радкі з тэлеграмы народнага артыста СССР Васіля Качалава: "Удвайне ганаруся, як грамадзянін Савецкага Саюза і як беларус, я з Мінска, прозвішча маё Швырубовіч". (Бацька артыста быў на Беларусі свяшчэннікам).

Вялікае жаданне вярнуцца на Бацькаўшчыну дзеля актыўнага ўдзелу ў яе адраджэнні перамагала цвярозы розум у многіх з тых, хто ў час акупацыі быў далучаны да працы ў нямецкіх установах, а цяпер жыў на Захадзе. Магчыма, у чым-небудзь іншым і непатрэбна было глыбокага асэнсавання, а вось з пераездам на радзіму спешка не ішла на карысць. Прыкладаў таму нямала.

Неўзабаве пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў па сваёй волі, а не па прымусе вярнуўся з Прусіі дахаты Пётр Шырокаў (літаратурны псеўданім Тодар Лебяда), які ў час вайны загадваў драматычным тэатрам, рэдагаваў газету. Добраахвотны прыезд П.Шырокава на радзіму не быў узяты пад увагу савецкімі спецслужбамі: прыгаворваецца да вышэйшай меры пакарання, якую, праўда, праз нейкі час замянілі на 25 гадоў лагернага жыцця. На волю выйшаў у 1956 г.

Яшчэ больш трагічна склаўся лёс вядомага беларускага адраджэнца, асветніка, публіцыста Кастуся Езавітава. Савецкім спецслужбам удалося натрапіць на яго ў Нямеччыне, адкуль ён быў дастаўлены ў Мінск, дзе і загінуў у гарадской турме ў маі 1946 г. Не па сваёй волі апынулася ў сталіцы Беларусі паэтэса Ларыса Геніюш. Тут ёй ніхто не збіраўся ствараць належныя ўмовы для творчай дзейнасці, наадварот, пастараліся зрабіць так, каб яны цалкам адсутнічалі: асудзілі на 25 гадоў лагернага зняволення, якія давялося адбываць у суровых і халодных мясцінах Комі АССР.

Прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі з падобным лёсам было тады нямала ў нас. Гэта велізарнейшы парадокс: народу патрэбны таленавітыя людзі для адраджэння і развіцця нацыянальнай культуры і асветы, а іх па ўказанні агульнасаюзных спецслужбаў і са згоды партыйнага Цэнтра ў Маскве пачкамі этапіруюць у Сібір і на Крайнюю Поўнач. Не сакрэт, якую вялікую карысць беларускаму народу маглі б прынесці ўсе тыя, што трапілі ў гэтыя чужыя краі.

На шчасце, не ўсіх напаткала гэта горкае ліха. Людзям, якія перажылі акупацыю, якім не пагражалі савецкімі турмамі і лагерамі, цяпер хацелася аднавіцца, узбагаціцца духоўна, прычым не на чужых, а на сваіх дарагіх сэрцу нацыянальна-культурных пачатках. На працягу першай паловы XX ст. у беларускай інтэлігенцыі з'явіўся другі шанц самааддана, творча папрацаваць над нацыянальна-культурным адраджэннем свайго народа, якое канчаткова захліпнулася падчас масавых крывавых рэпрэсій 1937—1938 гадоў.

Гаварыць пра досыць багатыя патэнцыяльныя магчымасці нашай пасляваеннай інтэлігенцыі працаваць на ніве нацыянальнай культуры даюць наступныя словы з выступлення сакратара ЦК КП(б)Б па прапагандзе Міхаіла Іаўчука на XIV пленуме ЦК КП(б) Беларусі, што праходзіў у чэрвені 1947 г.: "Нам неабходна ўсямерна расшыраць друкаваную і вусную прапаганду дасягненняў беларускай культуры, друкаваную і вусную прапаганду на беларускай мове, на якой можа вольна выступаць і пісаць значная большасць інтэлігенцыі нашай рэспублікі" (падкрэслена мною. — **Л. Л.**). Зараз пра нашую інтэлігенцыю такога не скажа ніводны палітык і грамадскі дзеяч, ніводны шчыры прыхільнік беларускага Адраджэння. І нічым нельга апраўдаць віну тагачасных кіраўнікоў партыйных і дзяржаўных органаў, вышэйшых асоб, якія працавалі ў галінах культуры, навукі і асветы, што яны не толькі не ўтрымалі гэты даволі прыстойны нацыянальна-духоўны, моўны патэнцыял інтэлігенцыі, а, наадварот, прывялі яго — дзесьці нават і зусім свядома — да істотнай дэфармацыі.

Адбывалася гэта дэфармацыя параўнальна павольна і зусім непрыкметна для большасці творцаў, дзейнасць якіх вызначалася нехарактэрнай сённяшняму дню актыўнасцю. Нягледзячы на свае парадзелыя шэрагі, выкліканыя вайною і акупацыяй, на эканамічныя цяжкасці, беларуская інтэлігенцыя, поўная сілы і энергіі, кінулася ў звыклы для яе вір дзейнасці. Усюды, дзе толькі магчыма было, яна настойліва імкнулася да сцвярджэння нацыянальнай ідэі ў культуры, навуцы і асвеце, знаходзячы ў гэтым поўную падтрымку ў беларускага народа і ў большасці тых, хто па розных прычынах прыехаў у наш край, выбраўшы яго сваёй другой радзімай. За гранічна сціслы тэрмін наша інтэлігенцыя, асабліва мастацкая, дасягнула пэўных зрухаў у сваёй дзейнасці. Таму было б несправядліва не паставіць гэта ў вялікую заслугу дзяржаўных і партыйных органаў перадавой інтэлігенцыі за тое, што ім удалося ў той час зрабіць у галіне нацыянальнай культуры і асветы. Пры вострым недахопе беларускамоўных настаўнікаў, слабай паліграфічнай базе ўсё ж у 1946/47 н. г. працавала 10930 школ на беларускай мове, што складала 97% іх агульнай колькасці. Ад моманту заканчэння вайны з Германіяй і да пачатку лета 1947 г. выпушчана 6 млн. падручнікаў для беларускіх школ. На гэты час удалося аднавіць выданне 160 газет на беларускай мове. У навуковай літаратуры, публіцыстыцы ўсё гэта знайшло належнае асвятленне, што вызваляе мяне ад неабходнасці спыняцца на паказе толькі адных дасягненняў. Больш карысці прынясе аналіз прычын меўшых тут месца недахопаў. А іх было процьма.

Усё, што адбывалася ў духоўным жыцці пасляваеннай Беларусі, знаходзілася ў цэнтры ўвагі яе партыйных органаў. Такая практыка ў іх склалася яшчэ ў першыя часы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ад яе яны не збіраліся адмаўляцца і ў пасляваенныя гады. Больш таго, назіралася, што Камуністычная партыя Беларусі ў адпаведнасці з устаноўкамі партыйнага Цэнтра ў Крамлі ўсяляк імкнецца да самага максімальнага ўплыву на культурныя працэсы, што, на вялікі жаль, вельмі рэдка вяло да станоўчых вынікаў. Тут партыя бальшавікоў, як і ва ўсіх іншых сферах жыццядзейнасці чалавека, яўную перавагу аддавала скажона інтэрнацыянальнаму над нацыянальным, што не магло не весці да збяднення, дэфармацыі нацыянальнай культуры. Праўда, у шэрагу партыйных дакументаў можна было сустрэць выразы: "...тым, хто валодае беларускай мовай, неабходна часцей выступаць перад працоўнымі на беларускай мове"; "...карэнным чынам змяніць адносіны да мясцовых кадраў... смялей вылучаць іх на кіраўнічую працу" (з пастановы XIV пленума ЦК КП(б)Б, чэрвень 1947 г.), але далей слоў гэтыя добрыя намеры не ішлі на практыцы. Трэба таксама аддаць належнае першаму сакратару партыйнай арганізацыі рэспублікі М. Гусараву, што на гэтым жа пленуме ЦК КП(б)Б ён у сваім дакладзе звярнуў увагу камуністаў на наяўнасць вялікіх недахопаў у духоўным жыцці: адсутнасць падручнікаў для сярэдняй і вышэйшай школы па гісторыі і літаратуры Беларусі, руска-беларускага і беларуска-рускага слоўнікаў. "Справа партыйных арганізацый, — прагучала ў яго дакладзе, — арганізаваць глыбокае вывучэнне нашымі кадрамі культурнай спадчыны беларускага народа, яго гісторыі, эканомікі, літаратуры, мовы, навукі і мастацтва...

Наўрад ці можна лічыць правільным, што паасобныя прадстаўнікі нашай беларускай савецкай інтэлігенцыі, у тым ліку і некаторыя нашыя партыйныя работнікі, якія добра ведаюць беларускую культуру і мову, не выступаюць з дакладамі і лекцыямі па гісторыі, эканоміцы, культуры БССР і рэдка карыстаюцца беларускай мовай у сваіх публічных выступленнях перад народам. Неабходна шырока разгарнуць прапаганду дасягненняў беларускай культуры, расшырыць лік дакладаў, лекцый, выступленняў на беларускай мове".

Цяжка сказаць, чаму гэтыя слушныя прапановы не сталі рэальнасцю. Магчыма, камуністы не паверылі ў шчырасць пачутых слоў ці прафесійна альбо паводле ўласных поглядаў на праблему ўсё ж не былі здольныя, згодныя змагацца за яе вырашэнне. Дый самі падзеі, што адбываліся тады і пазней у рэспубліцы, не надта садзейнічалі развіццю яе нацыянальнай культуры.

У тых умовах вельмі важным было даць поўную волю для творчасці майстрам мастацкага слова, бо ніхто лепш за іх не можа рабіць уплыў на фармаванне ў асобы пачуцця любові да роднага краю, яго гістарычных традыцый і духоўнай спадчыны, што ў канчатковым выніку вызначае стан нацыянальнай самасвядомасці гэтай асобы. Такой волі, магчымасці па сутнасці не было ў беларускіх празаікаў і паэтаў. Кантроль адкрыты ці патаемны адчувалі над сабой нават і літаратары з даваенным стажам, што ўцалелі ад масавых фізічных рэпрэсій. Са скрыпам прабіваў і Кандрат Крапіва шлях у жыццё сваёй п'есе "Мілы чалавек". Дзесьці ў маі ці чэрвені 1946 г. адбывалася яе публічная чытка, на якой прысутнічаў і выступіў сам першы сакратар ЦК КП(б)Б П. Панамарэнка. Не будучы літаратурным крытыкам, ён усё ж заявіў, "што даная п'еса нікуды не вартая", бо ў ёй высмейваецца савецкая рэчаіснасць, таму яе нельга выдаваць без выпраўлення". І ўсё ж з нейкай добрай ласкі яе ўдалося выдаць без пераапрацоўкі, за што аўтар меў нямала непрыемнасцей.

Прыкладам свядомага ўмяшання партыі ў дзейнасць навуковай і мастацкай інтэлігенцыі могуць служыць рашэнні XI пленума ЦК КП(б)Б, які праходзіў 15—16 лютага 1947 г. Гэты партыйны орган абвінавачваўся ў тым, што "своечасова не выкрываў сур'ёзныя памылкі, якія мелі месца ў шэрагу твораў беларускай мастацкай літаратуры", нібыта самі празаікі і паэты не маглі разабрацца з гэтым. Прапаноўвалася ў бліжэйшы час "палепшыць ідэйна-палітычную работу сярод пісьменнікаў і работнікаў мастацтваў". Паляпшалі ж гэтую работу зусім не ў накірунку да нацыянальных інтарэсаў беларускага народа, што ўжо добра прасочваецца з прынятай у чэрвені 1947 г. XIV пленумам ЦК КП(б)Б пастановы, у якой, заяўлялася аб неабходнасці барацьбы з элементамі, "якія імкнуцца адасобіць беларускую культуру ад агульнасавецкай культуры, ад культуры вялікага рускага народа... супрацьпаставіць беларускія кадры ў галіне культуры рускім кадрам". Запісанае ў даным партыйным дакуменце — гэта чысцейшай вады мана. Ніхто з прадстаўнікоў мастацкай інтэлігенцыі не імкнуўся адмяжоўваць беларускую культуру ад агульнасавецкай і рускай, супрастаўляць сябе рускім кадрам, проста існавала ва ўсіх заканамернае жаданне развіваць сваю культуру на ўласцівым ёй нацыянальным грунце, што ніхто не мог лепш зрабіць за саміх беларусаў, таму іх належала і вылучаць на высокія пасады ў галіне культуры, што па віне партыйных і савецкіх органаў не забяспечвалася на практыцы.

Неўзабаве пасля таго, як адбыўся згаданы пленум ЦК КП(б)Б, гэты партыйны орган прыняў пастанову "Аб рабоце Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі", часопісаў "Полымя", "Беларусь" і газеты "Літаратура і мастацтва", якая ніколькі не паспрыяла справе ўмацавання нацыянальных пачаткаў у духоўным жыцці беларускага народа.

Свядома ці падсвядома, хутчэй першае, у партыйных і савецкіх органаў па-за ўвагай апынуўся нацыянальны зрэз у дзейнасці тэатраў, а гэты ж фактар адыгрывае вельмі

*(Працяг на стар. 12)*

## ЗАСТАВАЦЦА ЗАЎСЁДЫ... НАСТАЎНІКАМ

**20 снежня споўнілася 50 гадоў "Настаўніцкай газеце", якая выходзіць як выданне асветнікаў Рэспублікі Беларусь. Да 1957 года "НГ" выходзіла раз на тыдзень, цяпер, як вядома, двойчы.**

**Як і ў любога выдання, у "Настаўніцкай газеты" былі розныя перыяды: менш і больш плённыя, спрыяльныя і неспрыяльныя, але гэта найчасцей залежала не ад самога калектыву, а ад варункаў палітычнага і грамадскага жыцця, што аказвала (пагодзімся, і сёння аказвае) уплыў на змест выдання, яго накіраванасць. Але як бы там ні было, а "НГ" імкнулася як мага шырэй адлюстроўваць шматграннае жыццё школы. І не толькі сярэдняй, але і сістэму прафесійна-тэхнічнай адукацыі, праблемы вышэйшай школы.**

**А яшчэ — у газеце заўсёды знаходзілася (і знаходзіцца) месца разнастайным матэрыялам па пытаннях літаратуры, тэатра, музыкі, мастацтва і культуры ў самым шырокім сэнсе гэтага слова.**

**Аўтарамі газеты ў розны час былі Якуб Колас, Янка Маўр, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Барыс Сачанка, Станіслаў Шушкевіч і іншыя. Ды і сёння многія, у тым ліку і знакамітыя літаратары лічаць за гонар выступіць на яе старонках.**

**А яшчэ апошнім часам "Настаўніцкай газетай" вельмі шмат зроблена дзеля нацыянальнага Адраджэння, дзеля абуджэння нацыянальнай свядомасці. Асабліва папулярнымі сталі выпускі "НГ" пад назвай "Айчына" — свайго роду газета ў газеце. У гэтым выпуску расказваецца пра нашых знакамітых землякоў, узнаўляюцца малавядомыя факты з нацыянальнай гісторыі, друкуюцца самыя розныя матэрыялы, што тычацца беларускасці.**

**Сёння "НГ" цяжка... Магчыма, у нечым нават цяжэй, чым іншым выданням. Цяжка хоць бы таму, што рэдакцыя вымушана змяшчаць асобныя матэрыялы па гісторыі, якія, шчыра скажам, далёкія ад аб'ектыўнасці. Але ўсё ж не яны вызначаюць змест газеты, а тое лепшае, што заўсёды дазваляла "Настаўніцкай газеце" заставацца газетай, якая выступае свайго роду настаўнікам.**

**З днём нараджэння, калегі! Няхай паўстагоддзе "НГ" стане толькі першай прыступкай да вялікага і плённага жыцця, якое будзе доўжыцца столькі, колькі жыць на зямлі нашаму народу!**

## ЛЯО ДЗЭ — РОДАМ З... БАРЫСАВА

**Нечаканае спалучэнне, ці не праўда? Кітаец і раптам пароднены з беларускай зямлёй! Але, калі разабрацца, то нічога тут дзіўнага, бо "кітаец" гэты — зусім не кітаец, а... беларус Іван Маразовіч. Праўда, і пад гэтым прозвішчам ён мала каму вядомы, бо ўвайшоў у гісторыю беларускай літаратуры, журналістыкі, мастацтва пад сваім асноўным псеўданімам Янка Маланка.**

**А нарадзіўся Янка Маланка і сапраўды ў Барысаве — роўна сто гадоў назад. Пасля заканчэння Барысаўскай гімназіі служыў у арміі, працаваў служачым у Яшунах і Вільні. У 1925 годзе Я. Маланка пачаў выступаць у перыядычным друку былой Заходняй Беларусі, у 1926—1928 гадах быў адказным рэдактарам часопіса "Маланка". Гэтае ілюстраванае сатырычнае выданне распачала выдаваць Беларуская сялянска-рабочая грамада.**

**У "Маланцы" Я. Маланка больш праявіў сябе як мастак. А вось у часопісе "Авадзень", газетах "Беларуская доля", "Беларуская ніва", "Голас працы", "Думка працы" і іншых выступаў з апавяданнямі, гумарэскамі, фельетонамі.**

**У сваіх творах Я. Маланка не абыходзіў увагай вострых палітычных момантаў, часта высмейваў улады. Зразумела, гэта было небяспечна. Таму, каб увесці пільную цэнзуру ў зман, вымушаны быў у асобных апавяданнях дзеянне пераносіць у каланіяльныя краіны. А калі ўжо імітаваць, то як мага больш пераканаўча. Так і з'явіўся пісьменнік з кітайскім прозвішчам Ляо Дзэ. Жыццё Я. Маланкі абарвалася ў 1938 годзе. Пра яго жыццёвы і творчы шлях можна даведацца з кнігі Арсеня Ліса "Пякучай маланкі след", якая выйшла ў 1981 годзе.**

# "ЕХАЛІ МЯДЗВЕДЗІ..."

Неяк, праглядаючы "ЛіМ", на момант затрымаў сваю ўвагу на той старонцы, дзе гаварылася аб лаўрэатах лімаўскай літаратурнай прэміі за 1994 г. Але прозвішчы маладых лаўрэатаў мне ні аб чым не гаварылі. Мабыць, таму, што мне як чытачу яшчэ не давялося сустрэцца з іх творчасцю.

Гэтая сустрэча ўвогуле магла не адбыцца. Як ні дзіўна — дапамог рэферэндум. Дакладней, яго вынікі. І раней я падтрымліваў нацыянальную прэсу, а пасля прэзідэнцкай ініцыятывы і яе "падтрымкі" падумалася: жывуць жа на свеце шчаслівыя людзі, якія ўсё ведаюць і на любое, самае складанае пытанне маюць вельмі кароткі адказ — "так" ці "не".

Чаму ж нашаму народу не жыць шчасліва, калі такія людзі кіруюць дзяржавай? Яны ж ні ў чым не сумняваюцца і заўсёды пачынаюць гаворку словамі: "Я убежден: народ нас поймет и поддержит". І сапраўды: калі неаднаразова па тры гадзіны запар па тэлебачанні тлумачыць адно і тое, то і мядзведзя можна навучыць ездзіць на веласіпедзе. Дастаткова ўспомніць пра вопыт знакамітых "магаў і чарадзеяў" былой неабсяжнай краіны. Калі яны па тэлебачанні "зараджалі крэмы і акумулятары", "загойвалі раны", "загаворвалі розныя хваробы", то ў гэты момант больш як 200 млн. чалавек знаходзіліся ў стане глыбокага трансу. Дзякуй Богу, потым дактары і псіхолагі разабраліся, прасвяцілі грамадскасць, і масавыя вопыты Кашпіроўскага па псіхалагічным калецтве людзей былі забаронены. Але, відаць, яго справа не памерла. Наадварот, палітычныя нашчадкі Кашпіроўскага з дапамогай такіх самых метадаў спрабуюць ратаваць грамадства Беларусі ўжо ад "нацыянальнага захворвання".

Палітычная сітуацыя ў краіне вельмі нагадвае знакамітае:

**"Ехали медведи на велосипеде,**
**а за ними кот задом наперед"...**

Куды могуць прыехаць такія "аматары", няцяжка здагадацца. Бо нельга будаваць "рыначны сацыялізм", едучы па рыначнай дарозе "задам наперад".

Пасля падзей 14 мая 1995 г. цвёрда вырашыў не толькі словам, але і справай падтрымліваць нацыянальную прэсу, родную мову. Пачаў выпісваць беларускамоўныя выданні — "ЛіМ", "Звязду", "Полымя". З цікавасцю іх чытаю, бо яны даюць магчымасць сачыць за навінамі культурнага жыцця Беларусі.

У майскім нумары часопіса "Полымя" за гэты год пазнаёміўся з новымі апавяданнямі Быкава і новымі вершамі Зуёнка. А потым прачытаў — Андрэй Федарэнка, "Вёска". Спачатку задумаўся — што за імя? Але памяць падсказала — ці не той гэта Федарэнка, які стаў лаўрэатам лімаўскай прэміі? Узрадаваўся сустрэчы з новым для сябе імем у беларускай літаратуры.

Чыталася лёгка, бо аповесць адразу захапіла. Захапіла жыццёвай праўдай, зачаравала мовай, прыцягнула мастацкімі вобразамі, лёсам галоўнага героя — студэнта Антона Васкевіча.

Так, мы, беларусы, больш прыстасаванцы, чым барацьбіты. Гэта адна з рыс нашага нацыянальнага менталітэту. Бо прыстасоўвацца заўсёды лягчэй, чым змагацца. Але ж свабоды ўвогуле, свабоды асобы і свабоды духу нельга дамагчыся без барацьбы. Таталітарная сістэма рабіла ўсё, каб чалавек нават не адчуваў сябе асобай, каб яго ўяўленне аб барацьбе зводзілася да піянерскага закліку: "К борьбе за дело коммунистической партии — будь готов!"

У Федарэнкі гэта гучыць некалькі па-іншаму. Ён піша: "Заўсёды некаму трэба было, каб Васкевіч рабіў тое й тое". І калі студэнт паспрабаваў размаўляць на занятках у інстытуце на роднай мове, таталітарная сістэма, якую ўвасабляе інстытуцкая наменклатура, адчула ў тым для сябе пагрозу.

Бо родная мова, роднае слова для беларусаў заўсёды былі зброяй — зброяй у барацьбе за свабоду і незалежнасць. Прыгадаем запавет Каліноўскага: "Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную".

Не буду пераказваць сюжэт аповесці. Каго зацікавіць размова — сам прачытае. Але мяне ўразіла глыбіня твора, глыбіня і своеасаблівасць нацыянальнай філасофіі аўтара. Мяркую, ніхто не будзе спрачацца з тым сцвярджэннем, што ўсе мы выйшлі з вёскі. Але ці не ўяўляецца сучасным гараджанам жыццё ў вёсцы жыццём у нейкай "рэзервацыі"? Нездарма ж аўтар словамі Васкевіча пытаецца ў кожнага з нас: "І самае важнае — Вёска. Чаго я тут, хто я тут? Некалі зімою гаварыў матцы: "Я пастрадаў за тое, што люблю вас, вашу мову, звычаі...", казаў і сам верыў, бо яшчэ Менск з галавы не выветрыўся. Добра любіць на адлегласці, едучы ў метро, п'ючы ў інтэрнаце віно... Ды ці любяць яны самі сябе, гэтую мову, гэтыя звычаі?!"

Менавіта ў гэтым бачыць Федарэнка трагізм лёсу галоўнага героя, трагізм лёсу ўсёй нацыі. Бо размаўляў і вучыўся студэнт у беларускім інстытуце. І калі яго выганялі адтуль, меркавалі так — ідзі ў сваю вёску і там размаўляй на сваёй мове. Праз некаторы час "дойдзеш да ручкі" ад вясковага жыцця, і тады ты павінен зрабіць выбар — ці родная мова, ці таталітарная сістэма.

У аповесці шчаслівы канец. Таталітарная сістэма рухнула. Васкевіч вярнуўся ў Мінск, каб працягваць вучобу. Яму не прыйшлося здрадзіць самому сабе, пачуццю сваёй нацыянальнай годнасці. Так не раз бывала і ў жыцці. Але праблема нацыянальнай самасвядомасці, нацыянальнай годнасці, узнятая аўтарам на вышыню мастацкага ўвасаблення і філасофскага асэнсавання, існуе. Яна нават абвастрылася пасля падзей 14 мая 1995 г. Бо жыццёвая, дакладней — палітычная рэчаіснасць і сёння ставіць кожнага з нас перад выбарам: ці родная мова, ці будзем вучыцца ездзіць на веласіпедзе. На вялікі жаль, другіх у нас болей.

Аднак жыццё працягваецца, а значыць — жыве надзея на лепшае. І чытачу застаецца радавацца, усведамляючы, што нацыянальная літаратура, нягледзячы на балючыя страты, набывае маладых, таленавітых творцаў.

**Мікола СМЯХОВІЧ,**
**выкладчык гісторыі, дацэнт**

# З КАНАДЫ ДОБРЫЯ ВЕСТКІ

***Датычаць гэтыя весткі завяршэння працы над ангельска-беларускім слоўнікам, што змяшчае звыш 40 тысяч слоў. Патрэба ў выданні актуальная. Ну хоць бы з увагі на нашу прэстыжнасць у свеце. Цяжка культурнаму чалавеку ўявіць, што незалежная еўрапейская краіна не мае таго, што не ў адным, а ў некалькіх варыянтах маюць іншыя дзяржавы, некаторыя з якіх і драбнейшыя, і не з такімі традыцыямі, як у нас.***

Слоўнік — гэта мост паміж чужым і сваім. І хоць сёння ў Беларусі паменшала ўвага да свайго, але ж гэта часова, бо, як ні намагайся, а ад сябе нікуды не падзенешся, развівацца на ўзбочыне цывілізаванага чалавецтва, асабліва калі хочаш пабудаваць шчаслівае культурнае жыццё, не атрымаецца. Менавіта выхаду беларусаў да сусветнай культуры і павінен паслужыць згаданы слоўнік.

Тое, што беларусы замежжа адчулі патрэбу ў ім раней, чым мы, жывучы ў Беларусі, можна толькі вітаць, ды ўспрымаць як напамінак паглядзець, а што ў нас яшчэ не зроблена з самага пільнага і неабходнага. Слова ўдзячнасці, зразумела, найперш сп-ні Валянціне Пашкевіч, аўтарцы слоўніка. Гэта ж яна на працягу дзесятка гадоў працавала над тым, чым у нас звычайна займаюцца акадэмічныя калектывы. Але завяршыць гэтую працу адной, чалавеку ў вельмі паважаным узросце, было б няпроста. Ды, дзякаваць Богу, знайшліся дбайныя і бескарысныя памагатыя. Сярод іх аўтарка найперш называе дырэктара Беларускага Інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўта Кіпеля, ды супрацоўніцу гэтай установы Зору Кіпель, якія "адразу ж паважна ўзяліся за дапамогу ў падрыхтоўцы тэкстаў да набору". Дзякуючы энергічным захадам сп-ні Зоры, была падабрана група людзей, што дапамагалі: Галіна і Васіль Русакі, Міхась Бахар, Янка Запруднік, Ала Орса-Рамана, Алекс Сільвановіч, Юрка Рапэцкі. Набірае слоўнік на кампутары Юрка Станкевіч, які мае ў гэтым ужо багаты вопыт, набыты падчас выдання слоўніка Янкі Станкевіча.

Названыя людзі належаць да розных прафесій, маюць свой занятак, але, калі ўзнікла патрэба, бескарысна ахвяравалі сваім часам для важнай грамадскай справы. І робіцца такое на эміграцыі не першы і, напэўна што, не апошні раз. Так, напрыклад, выданне іншай грунтоўнай працы В. Пашкевіч — двухтомнага падручніка беларускай мовы для англамоўных чытачоў — таксама варта лічыць справай супольнай, бо на гэта, апрача канадыйскага ўрада, склалі свае ахвяраванні многія беларусы ЗША і Канады. Гэты момант якраз і быў упушчаны мной у артыкуле "Хто мы і куды ідзём?", дзе я, згадваючы пра выданне, усё "прыпісаў" сп-ні Валянціне, але яна, прачытаўшы гэта, ветліва папрасіла зрабіць перад чытачамі "ЛіМа" ўдакладненне, што я пры нагодзе і раблю.

Наклад ангельска-беларускага слоўніка мяркуецца быць масавым і беларусы замежжа зробяць усё належнае, каб ён быў выдадзены і трапіў сюды, на Беларусь. Але ёсць спасцярога, ці трапіць ён да тых, каму прызначаецца. Бо маю не вельмі ўсцешны вопыт з выданнем, здавалася б, не менш значнай кнігі "Новы запавет. Псалтыр", да з'яўлення якой таксама прычынілася эміграцыя. "Біблія" па-беларуску выдаецца ўпершыню ў Беларусі пасля Францішка Скарыны ў высокапрафесійным перакладзе. Сумна, але факт: гэтае выданне заказана кнігагандлем у колькасці ... 30 асобнікаў. І гэта на дзесяцімільённую Беларусь!..

Але будзем спадзявацца на лепшыя вынікі, на тое, што самаахвярная і бескарысная праца людзей не прападзе марна, а трапіць таксама да людзей і паслужыць іх духоўнаму ўзвышэнню і абуджэнню.

**Яўген ЛЕЦКА**

# ЗАПРАШЭННЕ НА СВАЮ... ПЛАНЕТУ

А запрашае на яе Алесь Усеня. Той самы Усеня, які рэдагуе папулярную (чаму ж не) газету "Частный детектив". А вось пра тое, што А. Усеня — яшчэ і паэт, многія, пэўна, забыліся. А між тым ён піша вершы даўно. Друкаваўся ў часопісе "Маладосць", у "ЛіМе", у калектыўных зборніках "Крыло", "Вёсны", "Дзень паэзіі"...

Цяпер жа ёсць магчымасць больш шырока пазнаёміцца з А. Усенем-паэтам. Ён сам паруліўся, каб з'явілася ягоная кніга з крыху нечаканай назвай "Я хачу на сваю планету". Вытлумачэнне назвы — у вершы, якім адкрываецца зборнік:

**Мне здаецца чамусьці парою,**
**Быццам я — адзінокі прышэлец**
**З невядомай далёкай планеты.**
**Вам, зямлянам, тады немагчыма**
**Зразумець маё сэрца. І часта**
**Вы прыносіце боль невыносны**
**Мне. І з вамі не хочацца болей**
**Жыць на вашай планеце агіднай —**
**Мне так сумна і так адзінока...**
**.................................**
**Я хачу на сваю планету.**

Лірычны герой А. Усені — наш малады сучаснік, які жыве не толькі сённяшнім днём, але і звязаны з днём учарашнім. Таму ў яго вершах гучыць тэма Вялікай Айчыннай вайны, ён шмат піша пра часы свайго студэнцтва. Прачулыя радкі прысвячае роднай Стадарожчыне.

Не цураецца А. Усеня і гумару, сатыры, аб чым сведчыць другі раздзел кнігі. У ім змешчаны не толькі вершы, а і паэма "Дзед Хвядот і бабка Наста", якая дасціпна апавядае пра старых вяскоўцаў, якія ў згодзе і каханні пражылі доўгае жыццё, не растрацілі душэўнай цеплыні і шчодрасці.

**А. М.**

# “БЕЛЫХ ПЛЯМ” БУДЗЕ МЕНШ

Пра Беларусь у гады другой сусветнай вайны напісана шмат сур’ёзных, глыбокіх даследаванняў. Многія з іх сталі магчымымі дзякуючы карпатлівай, нябачнай працы бібліёграфаў, бо выдадзеныя імі інфармацыйныя даведнікі, бібліяграфічныя ўказальнікі, рэкамендацыйныя тэматычныя спісы літаратуры і заклалі трывалы крыніцазнаўчы падмурак для навуковых высноў і абагульненняў. І ўсё ж гісторыя мінулай вайны дагэтуль асветлена няпоўна і аднабакова. Цікавасць даследчыкаў засяроджана перш за ўсё на ўзнаўленні ходу ваенных дзеянняў, праяўленнях гераізму і мужнасці людзей як на фронце, так і ў тыле, фактах генацыду, падліках чалавечых і матэрыяльных ахвяр, развянчанні ідэалогіі фашызму. Гэта заканамерна і справядліва.

Аднак жыццё грамадзянскага насельніцтва акупаваных тэрыторый па-ранейшаму не праяснена. Мы не маем дакладнага ўяўлення пра сацыяльную і эканамічную палітыку акупацыйных улад, сістэму прапагандысцкай работы на захопленых тэрыторыях, асаблівасці развіцця “беларускай нацыянальнай справы”, дзейнасць шматлікіх адміністрацыйных устаноў і грамадскіх арганізацый, адукацыю, культурнае жыццё. Жыццё ў акупацыі ў манаграфіях прадстае часцей за ўсё нейкім размытым, умоўным фонам для гераічнай барацьбы падпольшчыкаў і партызан.

Адной з дакументальных крыніц для асэнсавання жыцця людзей на акупаваных тэрыторыях могуць быць перыядычныя выданні, што выходзілі ў тыя гады. Магчымасці паглядзець гэтыя выданні многія даследчыкі раней былі пазбаўлены, бо прэса тых гадоў дзесяцігоддзямі захоўвалася ў спецсховах архіваў і бібліятэк, а каб трапіць у іх, трэба было пераадолець мноства перашкод. Цяпер такая магчымасць з’явілася: некалькі гадоў назад значная частка літаратуры спецсховаў была рассакрэчана. Аднак, часцей за ўсё, яна па-ранейшаму застаецца незапатрабаванай. Мала хто ўяўляе сабе маштабы рэдакцыйна-выдавецкай дзейнасці перыяду акупацыі. Між тым, толькі ў адным Мінску ў 1941—44 гадах выходзіла больш за 16 розных перыядычных выданняў, у Віцебску — 10, у Бабруйску — 13. Поўны пералік газет і часопісаў, што выходзілі ў гады акупацыі, ніколі і нікім не складаўся. І не толькі ў Беларусі — ва ўсіх рэспубліках былога СССР. Таму ні ў адным з самых сур’ёзных, зводных указальнікаў па перыёдыцы СССР, што выпускала Кніжная палата і публічныя бібліятэкі Масквы і Ленінграда, звесткі пра іх не прыводзяцца, нібыта іх увогуле не існавала.

Гэтую “белую пляму” запаўняе ўказальнік “Бібліяграфія акупацыйных перыядычных выданняў, якія выходзілі на тэрыторыі Беларусі ў 1941—44 гадах”, што нядаўна выйшаў. Выдадзены ён беларускім навукова-даследчым цэнтрам дакументазнаўства, архіяграфіі і архіўнай справы накладам 200 асобнікаў. Папярэдніх анонсаў пра яго выхад з друку не было, аднак даведнік хутка разышоўся па руках і ўжо стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. Гэта сведчыць пра тое, што ён сапраўды прыцягнуў увагу самага шырокага кола спецыялістаў — гісторыкаў, журналістаў, літаратуразнаўцаў, даследчыкаў праблем культуры, а таксама пра тое, што наклад яго вельмі малы, каб задаволіць попыт усіх патэнцыяльных чытачоў.

Яшчэ ў 1975 годзе быў выдадзены бібліяграфічны ўказальнік “Падпольныя перыядычныя выданні Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны” (указальнік В. Адамовіч). І толькі цяпер, праз 20 гадоў, пасля выхаду названага даведніка “Бібліяграфія акупацыйных перыядычных выданняў”, з’явілася магчымасць скласці адносна поўны малюнак развіцця перыёдыкі на Беларусі ў гады вайны. А значыць, супаставіць інфармацыю, якая змяшчаецца ў гэтых выданнях, убачыць трактоўкі адных і тых жа падзей у люстэрках палярных па сваёй ідэалагічнай накіраванасці і задачах выданняў. Не будзе перабольшаннем сказаць, што даведнік “Бібліяграфія акупацыйных перыядычных выданняў...” пазначае новую грань у асэнсаванні мінулай вайны: “жыццё акупаваных тэрыторый” з кантэкста цяпер пераходзіць у аб’ект самастойнага вывучэння. Гэтаму накірунку навуковай думкі даведнік адкрывае вялікія магчымасці. У ім улічаны ўсе выданні, што выходзілі на беларускай, рускай, украінскай мовах. Даведнік змяшчае імянны і геаграфічны ўказальнікі. Іх аўтар — укладальнік С. Жумар не ўтрымаўся ад спакусы і выйшаў за геаграфічныя межы, прадакляраваныя ў назве: у даведніку таксама прыводзяцца звесткі пра беларускую перыёдыку, што выходзіла за мяжой, — у Берліне і Варшаве, Кёнігсбергзе і Трапаве, Апаве і Рызе, а таксама звесткі пра тыя газеты і часопісы, якія ўкладальніку не ўдалося адшукаць, але існаванне якіх пацвярджаецца дакументальнымі крыніцамі. Кожнае друкаванае выданне ўтрымлівае кароткую інфармацыйную характарыстыку: указваюцца месца і храналагічныя межы выдання, перыядычнасць яго выхаду, прозвішчы рэдактараў, аб’ём. І што вельмі важна — прыводзяцца звесткі пра наяўнасць нумароў таго альбо іншага выдання ў калекцыях нацыянальных бібліятэк і архіваў.

Нацыянальная газетна-часопісныя фонды бедныя, захаваліся кепска. Каб прачытаць газету, што выходзіла ў Беларусі ў XIX—XX стст., даследчыкам часта даводзілася спецыяльна ездзіць у вядучыя расійскія бібліятэкі, фонды якіх несупастаўляльна багацейшыя, чым беларускія. Часткова па эканамічных прычынах такой магчымасці многія даследчыкі сёння пазбаўлены, што, натуральна, не можа не адбіцца на якасці навуковай работы. Таму любыя звесткі пра наяўнасць і месца захавання выданняў у нацыянальных сховішчах крайне важныя. Невыпадкова скрупулёзны ўлік такога нацыянальнага здабытку рэспублікі, як перыёдыка — адзін з накірункаў работы беларускага фонду “Вяртанне”. Даведнік С. Жумара складзены з улікам патрабаванняў часу і зручны ў рабоце.

Даведнік уводзіць у навуковы ўжытак больш за 100 газет, часопісаў, бюлетэняў, інфармацыйных лісткоў, календароў, што выраблялся як друкарскім спосабам, так і на ратататары. Канечне, трэба было ўключыць у яго выданні на польскай і нямецкай мовах (тым больш, што іх было няшмат). Гэта пажаданне можна будзе ўлічыць пры складанні агульнага зводу перыядычных выданняў Беларусі (патрэба ў якім наспела) або яшчэ пры яго перавыданні, калі можна будзе выправіць і дробныя недакладнасці, што праслізнулі туды.

Выяўленым выданням аўтар-укладальнік С. Жумар не дае разгорнутых грамадска-палітычных характарыстык. Ён, як і належыць бібліёграфу, свабоднаму ад палітычнай ангажаванасці, толькі фіксуе і сістэматызуе існуючую інфармацыю, нічога не прапускаючы і не замоўчваючы. Але ён рыхтуе глебу для з’яўлення шэрагу досыць цікавых даследаванняў.

**Уладзімір МАЛЬЦАЎ**

*г. Мінск*

# НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ У ЗГОДЗЕ

У маі 1994 года, як вядома, прайшла Міжнародная навуковая канферэнцыя “Яўрэйская культура Беларусі і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі”, да правядзення якой мелі дачыненне Міжнародная асацыяцыя беларусістаў і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны. На жаль, як гэта здараецца даволі часта, згаданае мерапрыемства не знайшло шырокага адлюстравання ў друку. А шкада, бо пытанні, што ўзнімаліся падчас пасяджэнняў, маюць вялікую навуковую і пазнавальную вартасць.

Цяпер, аднак, ёсць мажлівасць пазнаёміцца з матэрыяламі канферэнцыі падрабязна — яны займаюць больш паловы аб’ёму чарговай, чацвёртай кнігі зборніка “Беларуска-Albaruthenica”, што пад эгідай згаданай Асацыяцыі і Навукова-асветніцкага цэнтра выпускае выдавецтва “Навука і тэхніка”.

Наколькі важная згаданая сустрэча, відаць з уступнага слова на канферэнцыі В.Рагойшы: “Гэта першы ў гісторыі незалежных беларускай і яўрэйскай дзяржаў навуковы форум на такую тэму, які, спадзяёмся, будзе мець свой працяг... Трэба сістэматызаваць, навукова апрацаваць, прычым часта ўпершыню, багаты фактычны матэрыял, паспрабаваць адказаць на пытанні, як і ў чым канкрэтна праяўляліся кантакты яўрэйскай і беларускай культур на працягу апошняга тысячагоддзя, наколькі арганічна культура беларускіх яўрэяў увайшла ў шматнацыянальную культуру Беларусі, чаму ў адрозненне ад рэгіёнаў Расіі на нашай тэрыторыі не было пагромаў і многія іншыя”. Істотны і яшчэ адзін аспект, на чым, між іншым, і засяродзіў увагу В. Рагойша: “...мы паслядоўна ўжываем тэрмін “яўрэйская культура Беларусі”, а не “яўрэйская культура ў Беларусі”. Тым самым мы сцвярджаем раўнапраўнасць культуры яўрэйскай з культурамі іншых народаў нашай краіны, яе спаконвечнасць, арганічнасць на беларускай зямлі”.

Тон гаворкі на канферэнцыі быў зададзены пленарнымі дакладамі. У. Конан вельмі аргументавана паразважаў па пытанні “Біблейскія вобразы і матывы ў беларускім фальклоры”. П. Векслер (Тэль-Авіў) выступіў на тэму “Забыты беларускі кантэкст сучаснай габрэйскай мовы”. Д. Д. Кліер (Лондан) закрануў аспекты, што дазваляюць удакладніць асобныя моманты гісторыі, лепей зразумець, як жылі здаўна на Беларусі розныя народы — “Яўрэйская абшчына ў часе перамен: яўрэйскі кагал у Мінску (1793—1807)”. Яго суайчынніца, добра вядомая ў нашай краіне В. Рыч знайшла нечаканы падыход да асобных мастацкіх твораў — “Вобраз габрэйкі ў беларускай літаратуры часоў застою як чыннік нацыянальнай свядомасці маладых беларусаў”. Р. Рэлес пазнаёміў з дакладам “Яўрэйская літаратура Беларусі і яе лёс”.

Няцяжка заўважыць, што кожны з дакладаў, сам па сабе багаты на фактычны матэрыял, разам з тым выклікае і на далейшы роздум, выклікае жаданне ўдакладніць асобныя моманты, іншыя пашырыць, а таксама, па меры магчымасці, звярнуцца да таго, што па нейкай прычыне не трапіла ў поле зроку прамоўцаў. Як пераконваюць матэрыялы, менавіта так і адбывалася ў час працягу работы канферэнцыі. А калі ўважліва прачытаеш усе выступленні (яны аб’яднаны ў кнізе ў два раздзелы: “Гісторыка-сацыяльныя аспекты” і “Філалагічна-мастацкія аспекты”, хоць, як відаць са зместу, гэты падзел умоўны), то паўстае цэласная карціна жыцця беларускага яўрэйства на тэрыторыі Беларусі ў розныя гістарычныя перыяды, відочна, таго як шмат зрабілі яўрэі дзеля развіцця літаратуры, мастацтва, культуры.

Гэта, аднак, не значыць, што абыдзены і асобныя негатыўныя моманты. Але і тут адразу відаць, што калі лёс праяўляў сваю бязлітаснасць, дык ён ці не ў аднолькавай ступені быў непрымірымы і да яўрэяў, і да беларусаў. У гэтым найлепш пераконвае выступленне Л. Лыча “Яўрэйская інтэлігенцыя і міжваенная беларусізацыя”. Знакаміты навуковец прыходзіць да гістарычна вытлумачальнага вываду: “...кароткі гістарычны экскурс у 20—30-я гады пераканаўча сведчыць, што нацыянальныя меншасці нармальна могуць развівацца пры ўмове, калі карэнны народ пачувае сябе гаспадаром у сваёй краіне, бо толькі тады ён у стане паклапаціцца і пра іншых, усталяваць узаемаразуменне і ўзаемападтрымку паміж усімі народамі”.

Да згаданага перыяду вяртаюць і іншыя выступленні, у прыватнасці, І. Котлера (Лос-Анджэлес) — “Яўрэйскія мястэчкі ў Беларусі ў часе НЭПа”, Э. Дубянецкага — “Характар беларуска-яўрэйскіх узаемаадносін у Беларусі ў 20-ыя гады XX ст.”, Д. Фішмана (Нью-Йорк) — “Лёс іудаізму ў Савецкай Беларусі (1920—1930)”, Э. Іофэ — “Да пытання пра ўклад яўрэяў у развіццё беларускай культуры ў 20—30-ыя гады XX ст.”, І. Герасімавай — “Яўрэйская вышэйшая школа ў сістэме народнай адукацыі Беларусі ў 20—30-ыя гады. На прыкладзе яўрэйскага аддзялення педфака БДУ”. Як лёгка адчуць, кожнае з выступленняў вылучаецца навізной матэрыялу, яго адметнасцю, бо, прызнаемся шчыра, пра ўсё гэта дасюль амаль не гаварылася, а калі і згадвалася, то неяк мімаходзь.

Увогуле, матэрыялы канферэнцыі — добрая спажыва для роздуму, а асобныя з іх па сваёй напоўненасці набліжаюцца да энцыклапедычна вывераных артыкулаў. У сувязі з гэтым хочацца згадаць выступленне А. Бергмана (Варшава) “Пра яўрэйскіх пісьменнікаў — ураджэнцаў Беларусі”. Як мы ўбачым далей, на гэтую тэму разважалі і іншыя, тым не менш значнасць сказанага А. Бергман у сувязі з гэтым не змяншаецца. Яна не проста назвала многія факты, асобныя з якіх упершыню ўвяла ў шырокі ўжытак, а і падказала людзям дапытлівым, людзям неабыякавым да мінуўшчыны Беларусі як гісторыі ўсіх народаў, што насялялі і насяляюць яе тэрыторыю, у якім кірунку весці пошукі, каб мець пад рукой патрэбны матэрыял.

Для прыкладу: толькі спецыялісты чулі пра “Лексікон яўрэйскай літаратуры” Залмана Рэйзена, што пабачыў свет у Вільні ў 1926—1929 гадах, а ў ім жа змешчаны біяграфіі 347 яўрэйскіх пісьменнікаў, нашых суачыннікаў, зроблены аналіз іх творчасці, а найбольш знакамітых — падрабязны. Дарэчы, як сведчыць А. Бергман, “пасля другой сусветнай вайны на падставе гэтага “Лексікона” ў Нью-Йорку выйшла пашыранае і дапоўненае выданне ў 8 тамах” а ў ім было прадстаўлена ўжо каля 450 аўтараў.

Вялікую даследчыцкую работу правёў А.Пяткевіч (“Яўрэйскія пісьменнікі з Гродзенскага рэгіёна (першая палова XX ст.)”, а ў выніку змог назваць літаратараў, прозвішчы якіх не сустрэнеш у самых аўтарытэтных беларускіх энцыклапедыях. Дый многія з нас па гэтым пытанні проста “непісьменныя”. Далёка не ўсе, напрыклад, ведаюць, што з Капыля родам класік яўрэйскай літаратуры, яе “дзядуля” Мендэле Мойхер-Сфорым. Але гэта між іншым...

Валянціна Найдус (Варшава) у сваім выступленні “Пясняр гродзенскай зямлі” падрабязна пазнаёміла з жыццём і творчасцю Лейба Найдуса, якога і А. Пяткевіч назваў “вытанчаным лірыкам, майстрам паэтычнай формы”. А гэта — меркаванне В. Найдус: “Лейб Найдус быў песняром радаснага аптымізму. Ён прынёс у яўрэйскую паэзію непаўторную прыгажосць прыроды, багатую палітру фарбаў і неспатыканую да яго выключную сентыментальнасць да прыроды. Насуперак царскаму насіллю і згубнай вайне яго паэзія была гімнам радасці і жыцця”.

І яшчэ адно выступленне на канферэнцыі, якое, калі чытаеш яго, успрымаецца нарысам-партрэтам — “Уры Фінкель і яго крытычная проза” В. Рагойшы. Зноў жа: ці шмат мы ведаем пра гэтага таленавітага пісьменніка? Праўда, у адрозненне ад іншых У. Фінкель прадстаўлены ва ўсіх даведніках. Але ж гэта звычайныя кароткія звесткі біяграфічнага характару, а пісьменнік, калі падысці да яго творчасці непрадузята, па сутнасці стаяў ля вытокаў біябібліяграфічнага жанру ў беларускай літаратуры. І кніга яго “Мендэле Мойхер-Сфорым”, што ў 1940 годзе выйшла і ў перакладзе В. Вольскага на беларускую мову, заслугоўвае перавыдання. Як варта быць перакладзенай другая кніга У. Фінкеля “Шолам-Алейхем”. В. Рагойша ўзнаўляе жыццё пісьменніка ў Ракаве, вяртае з небыцця асобныя яго артыкулы. Пра ўсё гаворыцца аб’ектыўна і з сапраўднай павагай да таленту.

Усе матэрыялы і не згадаеш, бо кожнае выступленне вартае ўвагі. І кожнае з іх, няхай і не прама, пераконвае ў правільнасці думкі, што здаўна на беларускай зямлі ў хаўрусе і згодзе жылі розныя народы. Канечне, пры гэтам не абыходзілася і без пэўных непаразуменняў, ды не яны, безумоўна, галоўнае, а галоўнае тое, што куды большае нас аб’ядноўвае, чым раз’ядноўвае. У чым і пераканала згаданая канферэнцыя.

У чацвёртай кнізе “Беларусікі” прадстаўлены і матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Вацлаў Ластоўскі — выдатны дзеяч беларускага Адраджэння”, што прысвячалася 110-й гадавіне з дня нараджэння вучонага, пісьменніка і грамадскага дзеяча і праходзіла ў 1993 годзе, а таксама асобныя выступленні на канферэнцыі “440 год Рэфармацыі ў Беларусі”, якая таксама адбылася ў 1993 годзе. Несумненна, і гэтыя публікацыі маюць вялікае навуковае і пазнавальнае значэнне, у чым і пераканаецца чытач, калі пазнаёміцца з імі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ПАД КРЫЛОМ АНЁЛА

**Не часта апошнім часам надараецца аматарам беларускай бардаўскай песні і паэтычнага слова пабываць на вечарыне, дзе сабралася цэлае сузор'е вядомых бардаў і паэтаў. А такія сустрэчы неабходныя, і для гледачоў, і, перш за ўсё, для саміх творчых асоб. Не толькі дзеля "другіх паглядзець, сябе паказаць". Творчаму чалавеку, увогуле чалавеку з душой, "настроенай" на мастацтва, неабходна, як глыток чыстага паветра, час ад часу апынацца ў атмасферы сапраўднага мастацтва, сярод аднадумцаў, сярод тых, хто гэтаксама аддадзены захаванню духоўнасці свайго народа.**

**14 снежня ў Доме літаратараў адбылася менавіта такая сустрэча. Падставай для яе была прэзентацыя новай кніжкі вядомага паэта-барда Эдуарда Акуліна "Крыло анёла". Паэт стварыў для сваіх сяброў і прыхільнікаў творчасці сапраўднае свята, не ператварыўшы яго ў карагод вакол уласнай персоны. Што ні выступоўца — то асоба самакаштоўная і цікавая. "Рэліктавы бард", "дзядуля беларускай бардаўскай песні" Алесь Камоцкі, "аршанскі лірнік" змагарны Андрусь Мельнікаў, Алег Атаманаў, спявак Ганкі, шыпшыны і беларускага танга: Кастусь Герашчанка прымусіў слухачоў пасур'ёзнець і ўспомніць пра чарнобыльскі лёс Беларусі, Уладзімір Клімовіч артыстычна праспяваў — паказаў "абсурдэлку" пра "зялёнае вока", здольнае да размнажэння вегетатыўным спосабам...**

**Выступаў на вечарыне Ніл Гілевіч, Леанід Дранько-Майсюк, Анатоль Сыс, Антаніна Хатэнка, Мікола Мятліцкі, Янусь Малец, Міхась Скобла. Дарэчы, апошні і вёў "паэтычную" частку вечарыны, як заўсёды, дасціпна і шчыра. Не менш дасціпнай і бліскучай была ягоная пародыя на Эдуарда Акуліна, прачытаная ў мэтах не даць апошняму "забранзавець" проста на сцэне ад шматлікіх кампліментаў. У гэткай жа даступнай і жартаўлівай манеры, дарэчы, праводзіў першую, "бардаўскую" частку вечарыны артыст тэатра Янкі Купалы Ю. Авяр'янаў, з чыіх вуснаў прысутныя даведаліся шмат цікавых падрабязнасцяў з біяграфіі спадара Акуліна.**

**А цяпер — пра тых, хто дапамог адбыцца вечарыне. Гэта так званыя спонсары, а па старому — мецэнаты: фірма "Дайнова", чыя дзейнасць па падтрымцы беларускай культуры даўно чым вядомая: фірма "Сотвар", і фірма гуказапісу "Белсаюдіс", якая, дарэчы, дапамагла Эдуарду Акуліну запісаць магнітаальбом, касета з якім таксама прэзентавалася на вечарыне. І, канешне, мелі наведнікі магчымасць сустрэцца з мастацтвам самога Эдуарда Акуліна. Зала цёпла сустрэла ўсімі любімыя песні "Пяшчота ліўня", "Мая Крывая" ды іншыя. Дадамо, што зала была паўнюткай, нават перапоўненай, але гледачы не скардзіліся, што давялося стаяць у праходзе. Бо вечарына атрымалася.**

**Н. К.**

# "ЛІТАРАТУРА ПЛЮС КРАЯЗНАЎСТВА"

**Так называецца артыкул Г. Кісялёва, якім адкрываецца дванаццаты нумар часопіса "Роднае слова". Аўтар вядзе гаворку пра тое, "што памятныя мясціны пісьменніка, усе родныя сцежкі-дарожкі мастака слова — выдатная, у чымсьці незаменная крыніца для разумення яго асобы і творчасці". Гэтым разам Г. Кісялёў адштурхоўваецца ад падручніка-хрэстаматыі па літаратурным краязнаўстве "Литература Смоленщины", а ў гэтым выданні ёсць і беларускі матэрыял. У заключэнне Г. Кісялёў выказвае слушную думку: "А ці не паспрабаваць нам стварыць свае рэгіянальныя хрэстаматыі — па Віцебшчыне, Гродзеншчыне, а можа, і Навагрудчыне і г. д.?.."**

**Новыя апавяданні В. Быкава аналізуе Д. Бугаёў. Некаторымі развагамі пра творчасць С. Яновіча дзеліцца Я. Янушкевіч. Творчасць Л. Калюгі ў полі зроку З. Драздовай. Ян, Ігнат, Аляксандр, Міхаіл Ходзькі — героі нарыса У. Мархеля "Як свечка перад згасаннем". "Паэзія ў прозе і проза ў паэзіі" — артыкул М. Лазарука. З "Каляднымі ігрышчамі" знаёміць Л. Салавей. Т. Шамякіна выступае з артыкулам "Мыш як істота міфалагічная".**

**Я. Шунейка працягвае рубрыку "Дыялог з карцінай" (пра ікону святога апостала Паўла), а В. Скорабагатаў — рубрыку "Анталогія беларускага раманса" ("Куранты"). Яшчэ адна традыцыйная рубрыка "РС" — "Літаратурны ветразь". Яе нязменны вядучы М. Скобла прадстаўляе паэтэс-сясцёр Т. Трафімаву і З. Падліпскую (дзявочае прозвішча іх Якучок), тут жа змешчаны іх вершы.**

**А яшчэ ў нумары — працяг складзенага Я. Саламевічам "Календара знамянальных дат і падзей на 1996 год", артыкул М. Чарняўскага "Пад каранямі прынёманскіх дубоў" (позірк у гісторыю Коласавых мясцін), вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя зіме (А. Бельскі працягвае рубрыку "Паэтычны каляндар прыроды").**

Сяргей ГРАХОЎСКІ



# З МАІХ ЗАПАСНІКАЎ

## У АДВЕЧНАЙ ЖУРБЕ

**Хто ж карае людзей за любоў
Да Радзімы, да маці, да мовы,
Да самотных палескіх дубоў,
Да бабулінай мудрай замовы?**

**За нянавісць судзілі даўней,
За грахі без душы і маралі,
А ў крывавым стагоддзі мяне
За святую любоў пакаралі,**

**На Галгофу аж двойчы вялі
Праз смяротны кавеер,
                    а сцюжы
След і косці сяброў замялі,
І знікаў за нядужым нядужы.**

**У скрываўленай поўсці рука,
Што таемна сумленных карала,
На апошняй мяжы ў жабрака
Кій і слёзны рубель адабрала.**

**Мы знікаем адзін за адным,
Замаўкаюць збалелыя сэрцы,
Толькі горкае памяці дым
Аблачынкай журбы застанецца.**

## НА КАНЦЭРЦЕ ІРЫНЫ ШУМІЛІНАЙ

**Узлёты лебядзіных рук
Уваскрашаюць арыі і скерца,
І кожная мелодыя і гук
Кранаюць і душу, і сэрца.**

**Здаецца скрыпка з арфаю гучаць,
То флейта, то кларнет, то акарына,
І сэрца просіць нанава пачаць
Усё, чым зачароўвае Ірына.**

**З маленства музыкай акрылена,
Не шумная, — дзівосная Шуміліна,
Таму душа ад радасці дрыжыць,
Што музыка жыве і будзе жыць.**
*28/XI-95*

## АЛЕГУ АТАМАНАВУ

**Без фанаграмаў і падманаў
Іграе і спявае Атаманаў,
Хвалюе ў поўнай залі і ў цішы
Натхнёны атаман маёй душы.**

## КАРТЫ

**У адной калодзе карты —
Каралі, тузы, валеты,
Усе трымаюцца упарта
За надзейныя білеты.
Як іх толькі ні тасуюць
Між сабой і пры народзе,
Але карты не пасуюць,
Бо заўжды — ў адной калодзе.
Прагуляўшы ўсё да ніткі —
Хлеб, прысмакі і манеты,
Зноў пануюць недабіткі —
Каралі, тузы, валеты.**

## СПАДЗЯВАННЕ

*НАЗВАНАМУ БРАТУ*

**Цябе ашуквалі спакон вякоў
Ад Кацярыны да бальшавікоў,
Якія ў д'ябальскім запале
І абалванілі, і ашукалі —
Ад Агітпропа да турмы
Прайшлі усе навукі мы.
Вывозілі сумленных у Сібір,
А гэта звалі "Барацьбой за мір".
З утульных хатаў і двароў
Загналі ў пекла ўсіх гаспадароў.
Стралкі начамі, каб не чулі енку,
Цераз галовы зрашацілі сценкі.
Араты калаціўся жоўтым лістам,
Не разумеючы, як стаў "нацы..налістам",
Таму, што ў полі, ў лесе, ў хаце
Так гаварыў, як навучыла маці,
Ён з родным словам снедаў і абедаў,
А як іначай гаварыць, не ведаў,
За тое і загналі у кутузку,
Што толькі гаварыў па-беларуску,
Хто абмінуў выпадкам Курапаты,
Таго ў калымскія загналі спраты:
Адны зніклі праз паўгода,
Другія, — калі спрах Ягода,
Без дамавіны, без крыжоў
Пайшоў за імі следам і Яжоў.
Каб не палохацца і не азмрочваць святаў
Галоўны кат расстрэльваў меншых катаў.
Мільёны зэкаў з біркай на назе
Знікалі ў цёмных шахтах і ў тайзе,
А у Сталіцы нашай, над ГУЛАГам,
Дрыжала дрэўка над Дзяржаўным сцягам.
Пад ім прапагандысты ўсіх масцей
"Выхоўвалі" дарослых і дзяцей,
І гэты сцяг высока так узнялі —
Каторы раз наіўных ашукалі.
Чамусьці захацелі ашуканцы,
Каб мы забалбаталі на "трасянцы".
Не разумеючы ні глупства, ні віны,
Іх страшыць праўда нават даўніны,
А тая праўда праўдаю была
Яшчэ да двухгаловага арла...
...Міне бязладдзе, наш не знікне род,
Ізноў народам стане наш народ,
Каб з добрымі суседзямі дружыць
І незалежна красаваць і жыць.**
*1994*

## МІЛЬЯНЕР

**Я быў багаты змалку
І круглы, нібы шпунт:
Плаціў сто за запалку,
Мільён — за солі фунт.**

**Пасля лічыў чырвонцы,
Капейкі і рублі,
Але ў маёй скарбонцы
Рэформы правялі:**

**Нулі ўсе паляцелі,
Ды зноў пасталі ў рад —
Багатымі хацелі
Зрабіць нас банк і ўрад.**

**Як стаў і я багаты,
Не зразумеў калі.
Пасля чарговай страты
Сабраў адны нулі.**

**Лічу я ў задуменні,
Ўтаропіўшыся ў столь,
Мільёны ў поўнай жмені, —
Ці выстарчыць на соль?**

## ЭКСПРОМТЫ

**На гэтым свеце — кожны госць
Шукае праўды, хоць прыкмету,
А нехта кажа: "Правда" ёсць,
Але — камуністычная газета.**

---

**О, колькі голых каралёў
Жыве і ходзіць паміж намі,
Усе ў кальчугах з медалёў,
То з планкамі, то з ардэнамі.**

**У іх высокія чыны,
Аклады, прэміі і ўзнагароды,
Такія важныя яны,
Хоць голыя заўсёды.**

---

**Было, вядома, не з рукі,
Калі чыталі "Біблію" палітрукі,
А сёння ў іх уздым такі,
Бо зноў яны палітрукі.**

---

**Палыном зарастаюць падмуркі,
З каміноў не ўздымаецца дым,
Мы нібыта гуляем у жмуркі,
Калі нават над прорвай стаім.**

---

**Так рана наступае змрок,
У вір злятае ліст за лістам,
І ўсё вядзе няўмольны рок
Мяне па полі камяністым.**

**Кудысьці вобмацкам брыду,
У цемру працягаю рукі,
Каб толькі абмінуць брыду,
Што з дзікай вырасла навукі.**

---

**Я пытаю зноў і зноў,
Як усё ж прымусіць
Быць праўдзівымі сыноў,
Калі тата хлусіць.**

---

**О як імклівa час бяжыць,
Цяпер не ведаю, як звацца,
Раней рабіў, каб лепей жыць,
Цяпер жыву, каб харчавацца.**

РАНІЦАЙ аднаго дня 2010 года ў сівым ад старасці сярэдне-еўрапейскім горадзе адбылося здарэнне, пра якое даведалася не многа людзей. У муніцыпальную псіхіятрычную бальніцу "хуткая дапамога" прывезла хворага. Ужо немаладога веку, лысага, з рэшткамі сівых валасоў на запалых ад старасці скронях. Ніякіх дакументаў і рэчаў з ім не было, акрамя запэцканай аўдыёкасеты. Ён так моцна яе сціснуў пальцамі, што санітары ледзь адабралі, перадаўшы дзяжурнаму ўрачу па прозвішчы Кучман. Стары нешта мармытаў, нібы гадавалае дзіця, няспынна пускаючы сліну з шчарбатага рота. Кучман зразумеў толькі некалькі слоў: баю-бай, мой генерал, баю-бай, мой генерал. Сумнення ў дыягназе не было: бядак захварэў на шызафрэнію. Яму зараз уяўляецца генерал, а некаму — прэзідэнт ці Напалеон. У кожнага свая доля і роля, якая дадзена ці то богам, ці то лёсам.

Старога падабралі на вуліцы, дзе ён стаяў на лаўцы і крычаў. Адзеты быў у невядомай моды пінжак з нейкімі цацкамі і значкамі. У руках трымаў партрэт барадатага ў акулярах чалавека.

Уначы, калі бальніцу апанавала цішыня, і Кучман падумаў прылегчы адпачыць, ён нечакана заўважыў на стале запэцканую, у чорных плямах аўдыёкасету. Узяў яе, пакруціў, спрабуючы знайсці які-небудзь надпіс, але нічога не ўбачыў. Амаль механічна паклаў у кішэню і забыўся. Успомніў дома праз некалькі дзён, калі жонка сабралася мыць халат. Паставіў касету ў магнітафон, націснуў кнопку, і пачуўся на кепскай англійскай мове марудны хрыплаваты голас заядлага курца.

Як мага зручней уладкаваўшыся на канапе, Кучман пачаў слухаць.

— Выйшаў я з лазні, прычасаў не надта ўжо густыя пасівелыя валасы. Пастаяў трохі ля люстэрка, паўзіраўся ў свой твар. Гады бяруць, бяруць, але яшчэ са шляху не сыду. Унь над левым брывом ружовенькі шрамчык. Мала хто заўважыць, толькі для мяне ён нібыта баявы ордэн. Дзе той, хто кавалкам цагліны пакінуў гэты знак за мае словы любові да нашага Генерала? І следу няма, ніхто не ўспомніць. Я ж напарыўся, выпіў для здароўя чаю і зараз спакойна пайду дамоў.

Добра мне, светла і лагодна на душы. Нічога ўжо не змяніцца ў нашай краіне Тапінамбур. Толькі глядзіш: надышла вясна, а пасля — лета, надышла восень, а пасля — зіма. Хоць круць, хоць верць. Неба не ўпала на зямлю. Зямля не паляцела ў прорву. І гэта ўсё на шчасце. Добра, што з раніцы я з'еў лустачку хлеба з капустаю, а не з мясам. Ад мяса чалавек робіцца агрэсіўны, злы, здольны нагарадзіць рознага глупства.

У мяне быў сусед Аляксандр (Аляксандр дый усё; а то прыдумаў, называў сябе Алексам). Аляксандр — чыстае даўняе імя, нечага яго псаваць. Дык ён нешта вярзеў, крычаў: мала на дзень кавалка хлеба з капустаю. Радаваўся б, што над галавою сонца. Вочы бачаць дрэвы і траву, і ў гэтай траве можна знайсці то-сёе смачнае. Не здаючы ў нарыхтоўчы аддзел, цішком з'есці. Хоць гэта пагана. Парушэнне, мабыць, усіх пастаноў нашага Генерала.

Нібыта нешта выйграў сваім гвалтам. Наўрад ці даюць яму цяпер хлеба хоць крышачку, хоць таўшчынёю з паперу. І пах гэты забыўся. Адна хлуслівая баба казала, што там... Там можна паесці смярдзючай капусты, якую не дагрызлі доўгахвостыя пацукі. І правільна, правільна, парадак павінен быць ва ўсім. Рот на замок! Нібыта я не ведаю, дзе гэны Алекс. Цьфу, Аляксандр. Сам, сам туды яму маршрут праклаў. Памятаю, адзеў свой мундзір віцэ-маёра. Дзе ж гэта ён? Тут, добра. Узяў з сабою пасведчанне былога супрацоўніка тайнага вышуку і пайшоў у Дэпартамент агульначалавечых кантактаў. Прынялі мяне з радасцю, нават чаем напаілі. Сапраўдным індыйскім, а не з якой травы. Я ж разумеў, што ўсё канфідэнцыяльна і таму казаў са шчырасцю, раскрыў сваю душу. Не магу слухаць, што нашага Генерала розныя Алексы нядобрымі словамі называюць. Выклаў, як яно і было. Так і так, казаў: наш Генерал сабака, свалата, поскудзь. За тое, што прымушае здаваць смачную траву ў нарыхтоўчыя аддзелы, што плацім занадта вялікі падатак на паветра. Канечне, трохі я прыпісаў суседу. Ад сябе ўжо дадаў: у нашага Генерала ахова большая, чымсь усё войска краіны. І наогул, сам чуў, як сусед заклікаў падпілаваць на галоўным бульвары дрэвы. Тыя, стогадовыя ліпы, на якіх каравульныя

Віктар СУПРУНЧУК

# БАЮ-БАЙ, МОЙ ГЕНЕРАЛ



АПАВЯДАННЕ

вышкі. І калі будзе ехаць наш Генерал з аховаю і суправаджэннем, а гэта з паўсотні машын і танкаў, дык дрэвы ад ляскату і грукату падаюць. Усяму кіраўніцтву тады кранты. Унь, што гэты Алекс прыдумаў, мо сам захацеў стаць правадыром. Выслужалі мяне ў Дэпартаменце ўважліва. На развітанне чалавек пацісnуў мне руку і падараваў стограмовы пакецік індыйскага чаю. Такі сказаў: за заслугі перад Айчынай і нашым Генералам. Пасля гэтых слоў падзякі я не мыў рукі два месяцы. Чаю не піў, а толькі нюхаў. І смачнейшага паху для мяне не было ў свеце. Толькі вось адно кепска, не дадумаў я, дакараю сябе. Гэтая думка да мяне прыйшла, калі я ўбачыў суседа ў абдымкі з двума чарнявымі, ростам як тэлеграфныя слупы, хлопцамі. Яны нібы неслі яго, што дзіця, і акуратненька пасадзілі ў вялікую цёмную машыну. Я гатоў быў, як кажуць, хоць за локаць сябе ўкусіць, але позна, не дастанеш. Трэба ж было папрасіць таго чалавека з Дэпартамента, каб мне аддалі рэчы суседа, а найлепш кватэру. Там, я адчуваю, ён прыхаваў некалькі мяхоў смачнай травы і ўпотай ад дзяржаўнага кантролю еў яе. Шкада, можна было б сабе забраць. На год-другі хапіла б.

Я вось апавядаю ўсё пра гэта і думаю — мо дарэмна? Навошта ведаць далёкім пакаленням пра мяне, простага грамадзяніна Тапінамбура. Толькі адно цешыць, што ў іх будзе прыклад, як правільна, з любоўю да Радзімы, выхоўваць дзяцей, развіваць патрыятычны рух. Я ўжо даўно не сплю. Мне што ноч, што дзень. Маё цела нібы распінае велічэзная сіла. Я адчуваю сябе ў ахове нашага Генерала. Ён кожную хвіліну думае пра ўсіх нас, непакоіцца, каб штораніцы, такі, як я, мог спакойна з'есці кавалак хлеба з капустаю. Хай ён пасціць, а яго я паахоўваю. Баю-бай, мой Генерал!

З майго акна відаць усё, што робіцца ў двары. Ніхто не зможа на галоўным бульвары падпілаваць стогадовыя ліпы. Мае вочы бачаць, мае вушы ўсё чуюць. І такіх, як я, — поўная краіна.

Учора мне пашэнціла прыдбаць па знаёмстве танна партрэт нашага Генерала. Не думайце, што ў мяне зусім нямашака ягоных партрэтаў. Як бы не так. У мяне іх восем. Але я іх хачу мець дваццаць. Каб з кожнага кутка, з кожнай сцяны глядзеў на мяне мой любімы Генерал. Тады я буду адчуваць сябе добра, нібы ў маленстве на каленях у матулі.

Сумна мне нешта апошнім часам. Дастану з шафы свой мундзір віцэ-маёра, пералічу ўзнагароды. Не ацэнены я. Ці мала такіх Алексаў пайшло далёка-далёка, дзякуючы маёй пільнасці, у Дэпартамент агульначалавечых кантактаў? І за ўсё — толькі медалёк "Белага арла". Уручылі ўпотай, у газеце не было пра гэта. Не магу нават суседзям пахваліцца. Вырашаць, што ўкраў. Мо каб здаў у Дэпартамент яшчэ чалавек дваццаць, тады б мой партрэт надрукавалі ў газеце. Усім знаёмым паслаў бы. Хай ганарыліся б, што ведаюць не абы-каго, а першага актывіста аховы Генерала. Ну, нічога. Трэба толькі паўглядацца, паслухаць на двары, на вуліцы. Шкада, надта ж не гуляюць. У аўтобусе маўчаць, нібы вады ў рот набраўшы. Знаёміцца не хочуць, уцякаюць ад размоў. Мне дазволілі ў Дэпартаменце карыстацца для знаёмства ўсловамі: дурань наш Генерал і вушы ў яго халодныя. Мне, канечне, непрыемна іх казаць. Толькі ў імя здароўя нашага правадыра і згадзіўся.

Стаю на прыпынку ля стадыёна, дзе якраз рыхтаваліся да парада ў гонар выхаду нашага дарагога з бальніцы. У газеце быў партрэт той ўрачыхі, што яго лячыла. У-у... Хай больш ніякіх думак у маёй галаве не з'явіцца пра гэта. Барані божа... Дык стаю, чакаю аўтобуса. Падыходзяць двое. Вясёлыя, гаманкія. Відаць, выпілі. Чым, цікава, закусілі? Мо ўкралі дзе кіслай капусты? Ці яшчэ горш — хлеба? І як можна пахнуць спіртам сярод белага дня, калі ёсць загад нашага Генерала, які забараняе піць? У душы я вельмі ўзрадаваўся: вось той выпадак, калі вялікі медаль "Чорнага арла" прымацуюць да майго мундзіра. Дый, зрэшты, дадуць чын першага віцэ-маёра. А гэта — мая штодзённая пайка хлеба павялічыцца на дваццаць працэнтаў і калі-нікалі буду мець права не здаваць смачную траву ў нарыхтоўчы аддзел. Слава, слава!!! Я адразу да гаманкіх і вясёлых. Прапанаваў ім па папяросцы. Дарэчы, сам набіваю. Прапорцыя такая: да кілаграма кляновага лісця дадаю кіло лісця дурману, кіло канюшыны і трохі жытняй саломы. Усё рэжу, мяшаю і выходзіць табака вышэйшага гатунку. Частую ёю. Хлопцы задаволеныя, пыхкаюць на дурніцу. А ў мяне шчаслівая думка так і лётае: курыце, курыце, я на вас у дзесяць разоў зараблю. Пачакаў трохі і кажу: "Дурань наш Генерал і вушы ў яго халодныя". Паўтараю яшчэ і яшчэ, а яны ўсё пасміхаюцца. Правільна, маўляў, дзед. Вушы халодныя, дый час ужо кульнуць яго з крэсла. Прыкінуў, з хвілін пяць падыграю ім і — да тэлефона. Нумар у галаве да скону. Чатыры нулі і адзінка. Носам адчуваю, недзе побач і машына накшталт той, у якой павезлі суседа Алекса. Я бегма да тэлефона. Заставалася мо некалькі крокаў, як нешта цяжкае сутыкнулася з маёй галавой. Ці папраўдзе было, ці здалося, нібы я крыкнуў: "Хай жыве мой Генерал!" І паляцеў у прорву. Ачуўся ад таго, што на мяне лілося. Нібы дождж ішоў... Але ж гэта, поскудзь, нейчы сабака прыладкаваўся збоку і паліваў маю святочную куртку. У мяне зусім мову адняло. Даўно хацеў напісаць прапанову з дзесяці пунктаў у Дэпартамент агульначалавечых кантактаў, што трэба перастраляць усіх сабак у Тапінамбуры. Пашыць з іх шапкі для лепшых актывістаў аховы Генерала. І курткі можна, і штаны. Боты. Каб нават у найвялікшы мароз мы былі заўсёды на сваіх месцах.

Сілы вярнуліся да мяне толькі тады, калі незнаёмая жанчына, скрывіўшы свае пульхныя вусны (яе шчасце, што рукі падняць не мог. Недзе ў левай кішэні ніжніх штаноў, як у былога супрацоўніка тайнага вышуку, баявая рагатка), сказала: "Стары казёл!" І я яшчэ стары казёл...

Ледзь дацягнуўся дамоў, слёзы ад крыўды душылі. Вырашыў пакінуць пра сябе памяць. Расказаць на магнітафонную стужку, як трэба жыць і любіць нашага правадыра. Мо людзі з Дэпартамента размножаць тое, што я кажу, і маё імя застанецца назаўжды, накшталт імён герояў, якіх ужо і я забыў. Але ж яны былі, былі... Іх партрэты насілі тысячы людзей у святочныя дні па вуліцах, наклейвалі на дамы. Яны былі ангеламі, апосталамі, а мо і багамі. Праз год новы бог і новы ангел. А ці былі чэрці і сатана? Ужо не помню. Шмат сцерлася з галавы, але ёсць найвялікшая любоў да Генерала. Унь якраз ён у тэлевізары. Галава вялікая, паголеная да бляску. Барада па грудзі. Якія вусы ў яго! Валасок да валаска. Глядзіць праз акуляры і нібы бачыць усіх у Тапінамбуры. Ніхто не схаваецца ад яго пільных вачэй. Іх у Генерала — дзесяткі тысяч, толькі наўрад ці хто параўнаецца са мной. Я нават ведаю, што вось зараз думае суседка з пятага паверха, у якой трое малых дзяцей і няма мужа. Хоча недзе ўкрасці смачнай травы альбо кіслай капусты. Я ўжо неяк казаў ёй: прымі мяне хоць раз у тыдзень, а пасля раскажы, пра што гамоняць сяброўкі. Заўпарцілася, і гэтая — стары казёл. Пабачым, хто і як. У наступнай даведцы Дэпартаменту засведчу: суседка плюнула на партрэт, які на дзвярах у пад'ездзе. Гэтага ёй хопіць...

Сягоння Генерал выглядае на экране зусім маладым. Пацалую яго ў лоб, у шчокі, абдыму. Нібы ягоная энергія, ягоная моц перадалася мне. Які ў яго розум! Што ні слова, быццам ад Бога!..

Каб не забыць. Я нарадзіўся не ў Тапінамбуры. Далёка адсюль, на ўсход да мерыдыяна. На беразе доўгай і шырокай ракі. Вакол нас было шмат поля, якое не аралі і не сеялі. Быццам, калі я быў малы, там расла пшаніца. Потым усім абрыдла яе сеяць. У мяне, здаецца, былі бацька і маці, браты і сёстры. Яны ніколі не былі цвярозымі. Ці ёсць хто там жывы? Маладым лейтэнантам з сябрамі па школе тайнага вышуку мы павезлі цывілізацыю ў Тапінамбур. Сярод нас быў і мой Генерал. Такі невялічкі, бязвусы і безбароды. Ой, што гэта я кажу... Нам паставілі задачу неўпрыкмет пранікнуць у войска, ва ўсе трохкутнікі і квадраты, тайныя службы Тапінамбура. Нетаропка, цішком сесці на найбольш значныя пасады, кіраваць гэтым цёмным народам. Тады тапінамбурцы былі спакойныя, рахманыя людзі. Як авечкі, што толькі і чакаюць свайго пастуха. Для ваўкоў добрая здабыча. Самі горла пад зубы падстаўлялі. Дый прэзідэнт у іх быў — як цялё, усё рабіў, што мы казалі.

Інструкцыі, якія мне далі шмат гадоў назад, памятаю і цяпер. Слова ў слова, літара ў літару. Мы вывучалі іх спецыяльным метадам, ужыўшы шклянку гарэлкі. Пасля праз нас прапускалі слабы электрычны ток. Толькі твар таго, што вучыў мяне, нібы сцёрся. А голас, голас гучыць, гучыць...

— Тое, што вы захопіце ўсе галоўныя пасады, — мала. Ваша задача прымусіць, каб тапінамбурцы перасталі размаўляць на сваёй мове, каб яны знішчылі сваю культуру. Каб за свае грошы вучылі толькі нашу мову, развівалі нашу культуру. Будавалі нашы школы, а свае знішчалі. І ў рэшце рэшт, каб яны ўзненавідзелі саміх сябе. Каб яны перасталі лічыць сябе нацыяй і народам. Вось тады будзе выканана вамі заданне нашага вялікага народа. Але датуль вы павінны, як кропля солі сярод трох кропель вады, растварыцца сярод тапінамбурцаў. І нават сваімі генамі разбураць іхнія гены. Мы — вялікая нацыя! Нейкі маленькі Тапінамбур будзе замінаць нашай векавечнай мары авалодаць светам?!! Не быць такому!

Гэтыя словы магу паўтараць і ўдзень, і ўначы. Тым больш, што я даўно не сплю. Я заўсёды бадзёры. Сон мне непатрэбны. Канечне, мне трохі зайздросна... Мой Генерал быў гэткім жа лейтэнантам, як і я. Аднак ён — генерал, а я толькі віцэ-маёр. Тут мне і крыўднавата. Толькі я маўчу, ганаруся ім. Лепш за ўсіх нас ён выканаў той загад. Мусіць, на радзіме і не чакалі гэткага. Ад нягеглага, бязвусага лейтэнанта... Ён узначаліў Тапінамбур. Яго любяць тапінамбурцы больш за сваіх продкаў, бацькоў, дзяцей. Яны забыліся пра свайго Бога. Мой Генерал — іх Бог. Нідзе не бачна кніжак на іхняй мове, яе не чуваць на вуліцах, у школах. Мяркую, што хутка і школ не будзе. Навошта яны гэтаму цёмнаму рахманаму люду? Чым менш будуць разумнымі, тым менш будуць жыць. Ачысціцца ад іх прастора.

Нас многа такіх, як я. Гэта ў мяне няма сям'і, а ў іншых — дзеці і ўнукі. Яны працягваюць нашу святую справу. Усе ненавідзяць тапінамбурскую мову, пацíху разбураюць яе. Яшчэ, калі я служыў у аддзеле тайнага вышуку, мы так званых нацыяналістаў распраналі да касцюмаў Адама і Евы, вымазвалі дзёгцем і качалі ў пер'і. Пасля вадзілі па вёсках і кожны селянін павінен быў кінуць у іх каменем. Інакш да гэтай кампаніі далучалі іхніх дзяцей. Гэта быў адзін з геніяльных планаў нашага Генерала. Альбо ў тапінамбурцаў былі нейкія пісьменнікі. Дагэтуль не зразумеў, што гэта за людзі. У Дэпартаменце агульначалавечых кантактаў наш Галоўны прадстаўнік казаў, што яны напісалі нейкую кніжку, ад якой ляцяць нябачныя чалавечаму воку промні і знішчаюць усё жывое. Паздыхалі таму свінні, каровы. Не расце бульба, жыта. Дый, мабыць, смачная трава таму не ўрадзіла. Гэтых пісьменнікаў мне б на суткі...

Шкада, што няма побач са мной ні сына, ні дачкі. Толькі я надта не перажываю. Яны недзе ёсць у розных кутках Тапінамбура. Дзе ў свой час я быў па службовай патрэбе, усюды пакінуў след. Гадоў дзесяць назад паехаў на Поўнач. У вёсачцы сярод лесу, забыўся яе назву, мо ў шасцёх кабет былі ад мяне дзеці. Як іх убачыў, адразу даўмеў, што мае: рудыя, насатыя, і вочы ажно гараць, як у галодных ваўкоў. Усе яны былі нейкія недалэнгі. Дзеўка ад Юлькі, у якой я калісь жыў паўмесяца, гарбатая. Хлопец у суседкі Юльчынай, як кажуць, без адной клёпкі. Толькі гэта няблага, стрэльнуў удала па тапінамбурскіх генах. Ад дурнаватых народзяцца новыя дурнаватыя, і мала-памалу хана тапінамбурцам.

Ох, ох... Стамілася трохі маё горла. Каб штось выпіць... Тры месяцы назад прыплюшчыў уначы свае стомленыя вочы. Так, на якую хвілінку. Уявіліся мне бацька з маці, браты і сёстры. Твараў не відаць, як у тумане. Ляжым усе разам на ладнай печы і ўсё п'ём, п'ём. Досыць смачнае. Потым мяне абдымае гарбатая Юлька і некуды мы з ёй плывём, плывём. Ачнуўся, а пада мною сырасць. І нікога побач.

Учора таксама выступаў па тэлевізары наш Генерал. Ну, малайчына, ну, галава... Усё-такі яшчэ знайшоў нацыяналістаў, якія шкодзяць няспыннаму руху краіны да мерыдыяна. Па іхняй віне я не атрымаў павышэння па службе, доўга не мог прыдбаць правы пагон на новы мундзір. Бульба знікла, дый, мабыць, будзе не хапаць кіслай капусты. Ім усё тапінамбурскую мову давай. Пасядзяць за кратамі, нічога не захочуць. Унь да чаго дапялі! Выцягнулі са сваіх хляўоў нейкія тапінамбурскія сцягі, што быццам тут былі тысячу гадоў назад. Размахваюць імі, крычаць: волю народу! Ім не падабаецца сцяг нашага Генерала?! Ды толькі за гэта іх на шыбеніцу! Альбо як некалі тых дэманстрантаў, што ўдумалі парушыць спакой дзяцей нашага Генерала. Вяроўкамі павязалі адно да аднаго, як патроны ў кулямётнай стужцы, паклалі на асфальт. А пасля... Чым гэта мы пасля?.. Забыўся. Колькі гадоў мінула пасля таго, ціха і спакойна. Бач, зноў дрэнь палезла. Заўтра пайду ў Дэпартамент агульначалавечых кантактаў і папрашу, каб дазволілі паразмаўляць з гэтымі нацыяналістамі. Вывучка ў мяне захавалася, а тое, што стары, дык і нічога. Тэхніка і вопыт дапамогуць. Калі ніякі сон не бярэ... Ёсць у мяне мара паехаць у якую-небудзь яшчэ краіну, каб і ў ёй разбурыць тамтэйшую мову, культуру. Каб і там гаспадаром быў мой Генерал. Ужо месяц, як паслаў яму ліст са сваёй прапановай. Не можа быць, каб не адказаў ён старому таварышу. Адчуваю, вось-вось паклічуць мяне...

...Нешта ў магнітафоне шчоўкнула, пачуўся трэск, нейкі крык. Потым сціхла. Стужка круцілася, але бязгучна.

Урач, нічога не разумеючы, няўцямна глядзеў на магнітафон. Стукнуў рукою сябе па галаве. Ці не спіць ён? Не, ён не спаў. Побач на крэсле прысела жонка. Спытала:

— Што такое слухаеш?

Толькі калі двойчы яна паўтарыла сваё пытанне, Кучман пачуў. Нервова ўскінуў галаву і, быццам не бачачы яе, сказаў:

— Мне тэрмінова трэба ў бальніцу.

Не слухаючы жончыных пярэчанняў, ужо на парозе, стоячы апрануты, ён спытаўся:

— Ты не ведаеш, дзе краіна Тапінамбур?

Яна пакрыўджана пацісnула плячыма. Другі тыдзень не магла паказаць мужу новую сукенку. І яны даўно ўжо не былі ў тэатры. Яму ўсё хворыя, хворыя... Яна заплакала ад жаласці да сябе.

Выскачыўшы з дома, Кучман амаль адразу злавіў таксі. Ён не пашкадаваў грошай і хутка быў у бальніцы. Як заўсёды ў гэткі час, тут было ціха. Ён падышоў да палаты, дзе ляжаў стары. Адчыніў дзверы. Хворы ляжаў прывязаны да ложка з усмешкаю на твары, падклаўшы рукі пад правую шчаку, і спаў.

паслухаць у праграме Сімфанічнага аркестра Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі з маэстра А. Лапуновым. Гучала прыгожая і віртуозная музыка Ф. Ліста — Другі, ля мажорны, канцэрт для фартэпіяна з аркестрам. Вытанчаная постаць юнака за раялем нагадала камусьці (засведчылі потым рэплікі ў фае) узыходжанне колішніх вундэркіндаў, а сёння вядомых на ўвесь свет артыстаў. Аднак то быў не "двайнік", скажам, славутага Жэні Кісіна. Гэта — наш Ваня Сцепанцоў, пераможца міжнароднага конкурсу, з ужо акрэсленай манерай выканання (што азначае і стасункі з музыкай, і зносіны з публікай) — высакароднай і крохкай. І са сваёй, трэба спадзявацца, яркай піяністычнай будучыняй.

●

Асляпляльныя ўсмешкі "зорак" хаваліся за гэткай рэпартажнай назваю "Свята цымбалаў". З амаль рэпартажнай "карцінкі" — галасы скрыпічнага ансамбля ды цымбалаў зліліся ў чуллівым "Родным спеве" — і пачыналася свята. За "тамаду" быў дырыжор Акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча Сяргей Сакалоў, які ўвесь вечар бязменна прастаяў за пультам. Не пакідалі сцэну і артысты аркестра. Змянялі адно аднаго толькі салісты. Тут і колішняя наша "прыма" Ангеліна Ткачова, якая прыехала на свята alma mater з Грэцыі. Тут і ўладальніца сакрэтаў прыгожага цымбальнага гучання Наталля Кавалеўская. І маладзенькая Каця Анохіна, і...

Усяго іх было восем!

А кульмінацыяй гэтага парада цымбалістаў было, бясспрэчна, выступленне школьніка "дэ юрэ", міжнароднага лаўрэата і перспектыўнага таленавітага артыста "дэ факта" — Міхася Лявончыка. Фантазія на тэму оперы Ж. Бізе "Кармэн" узнаўлялася, перастваралася, нараджалася, нібы ўласная фантазія маладога імпэтнага выканаўцы, прымушаючы "забыцца", што напісаў гэты віртуозны твор не хто іншы, як П. Сарасатэ!

●

У гісторыі нашых традыцыйных фестываляў сёлетняя лістападаўская дэкада застанецца, бадай, адзіным узорам нетрадыцыйнага спалучэння міжнароднай шырыні (госці з усяго свету, сузор'е лаўрэатаў) і амаль радзіннай утульнай замкнёнасці (гэткая сямейная атмасфера, дзе ліцэісты ўсіх пакаленняў, не зважаючы на "прышлую публіку", пачуваліся школьнікамі). Як ні дзіўна, "домам сямейных урачыстасцей" выглядала філармонія і ў той, чамусьці не разрэкламаваны, вечар, калі сіламі выхаванцаў ліцэя ладзіўся эстрадны канцэрт.

Паводле сцэнарыя, іх усіх "выклікалі да дошкі": адказваць урок. Колішні выдатнік-скрыпач, а цяпер вакаліст Валеры Дайнека выводзіў "Ненадакучлівы блюз", прадстаўляў маладога кампазітара-песенніка Дзмітрыя Далгалёва, той саступаў сцэну "пагрозе для ўсіх настаўнікаў" Уладзіміру Сарокіну, чые песні цяпер сілкуюць рэпертуар студыі "Сябры". Потым выбягалі "верасяты", узгадаваныя Васілём Раінчыкам, які выхаваў і пераемніка — сына, Сяргея Раінчыка, таксама былога ліцэіста, цяпер жа — маладога кіраўніка "Верасоў", аўтара многіх песень.

"Злосны другагоднік" Ігар Лучанок досыць падрабязна распавядаў пра сваё музычнае дзяцінства. Пра тое, як маці купіла яму антыкварную французскую фісгармонію; як пяцікласнікам пазнаёміўся з выдатным педагогам, выкладчыцай тэарэтычных дысцыплін М. С. Міянковай; як здаваў экзамен у ліцэй; як воляю дырэктара І. Р. Германа аказаўся самым першым вучнем спецыяльна створанага класа цымбалаў; як сядзеў за адной партай з Дзмітрыем Смольскім; як наймаў кватэру ў Мінску, а па выхадных ездзіў да бацькоў у Мар'іну Горку; як застаўся на другі год, каб ахапіць усё адразу — і цымбальнае майстэрства (клас А. Астрамецкага), і фартэпіяннае (Р. Шаршэўскі), і кампазіцыю (Я. Цікоцкі)...

Канечне, згадваў І. Лучанок і свае песні. А яшчэ ў той вечар іграў ды спяваў колішні дасціпны кучаравы гарэза Генадзь Кагановіч — цяпер да непазнавальнага салідны звонку педагог, але ўсё гэткі ж неўтаймоўны імправізатар, піяніст. Калі ж да другога, пастаўленага "візаві", раяля сеў маленькі Цімур Шчарбакоў, публіка захоплена павітала нараджэнне сапраўднага джазавага дуэта.

Былі ў зале пераважна свае, ліцэйскія: вучні колішнія і цяперашнія, педагогі сённяшнія і пенсіянеры. Добра, што ўсё адбывалася нейк па-хатняму, без наплыву староннай публікі. Ды ўсё ж... Крышачку шкада, што пра галоўны сюрпрыз таго вечара горад не ведаў, а то не прамінулі б сталічныя старажылы спаткання са сваім юнацтвам!

Хто памятае, а хто й не — была ў 60-ыя гады на савецкай эстрадзе "зорка" — Тамара Міянсарава. Мела свае шлягеры: "Топ-топ", "Летка-енка", "Давай никогда не ссориться", а яшчэ — пра бабулю, якая вучыць танцаваць чарльстон, пра чорнага ката, якога ненавідзеў увесь дом. І, канечне, — "Пусть всегда будет солнце!" Мала хто ведае, што Т. Міянсарава таксама вучылася ў ліцэі; мала хто чуў, што яна прыехала з Масквы, каб далучыцца да ўдзельнікаў юбілейнага эстраднага канцэрта.

Яна выйшла на сцэну, здзівіўшы публіку годнай вакальнай формай, прафесійнай культурай — і ў новых песнях, і ў папуры з тых, якія спявала ў гады сваёй маладосці. Яна ўспамінала: царкву на Нямізе, што давала прытулак у вайну; разбіты Мінск, што свіціўся наскрозь ад вакзала да Камароўкі; кватэру, атрыманую дзякуючы клопатам дырэктара школы І. Германа...

Згадкі пра былое ды прызнанне ў любові гораду свайго дзяцінства зусім натуральна, шчыра, прыгожа перайшлі ў песню. Тамара Міянсарава заспявала беларускую "Чаму ж мне не пець". Голас гучаў урачыста і магутна — гэтак магутна, што, нібыта на зычны кліч, пачалі збягацца, зазіраць у залу закулісныя работнікі дый тыя госці свята, якія бавілі час у філарманічным буфеце. Між іншым — як ні ўсцешна, як ні дзіўна, як ні прыкра! — маскоўская госця выглядала адзінай сапраўднай патрыёткай Беларусі побач са сваімі тутэйшымі калегамі, у якіх чамусьці нават песня на вершы Л. Дранько-Майсюка загучала ў перакладзе на рускую.

Завяршаўся той канцэрт "Шчаслівым здарэннем": Ядвіга Паплаўская ды яе старэйшая сястра Хрысціна, колішнія піяністкі-выдатніцы, і Аляксандр Ціхановіч, які, праўда, у ліцэі не вучыўся, але даўно ўжо ўвайшоў у гэту музычную сям'ю. Ядзя ўспамінала адзінаццаць школьных гадоў як лепшыя ў сваім жыцці, называла імёны незабыўных настаўнікаў, з удзячнасцю вітала досыць вядомую ў свой час выкладчыцу фартэпіяна В. М. Валодзіну. А расчуленая сп. Валодзіна ўвесь вечар, здаецца, й не прысеўшы, хадзіла па зале з аматарскай відэакамерай: яна была ўжо замежнай госцяй, пераляцела цераз акіян, каб трапіць на свята ліцэя, якому аддала большую частку свайго жыцця...

●

Лыжка "зямнога натуралізму" ўсё ж трошкі прыправіла мне смак штодзённых эстэтычных ласункаў. Нічога надзвычайнага нібыта й не здарылася, але "лыжка" аказалася поўнай і сваю горкую справу зрабіла.

Канцэрт калектываў ліцэя сабраў багата публікі, таму дзве цётачкі на кантролі ў філармоніі, выконваючы асабістае распараджэнне свайго начальства, прапускалі "толькі з білетамі". Маё папяровае запрашэнне на ўсе канцэрты фестывалю спачывала дзесьці сярод праграмак, розных лісткоў ды аркушыкаў, і лягчэй было выцягнуць з кайстры пасведчанне Саюза музычных дзеячаў — надзейны пропуск, які заўсёды пад рукой. Нечпадзеўкі, нібыта ў сувязі з аншлагам, я была пазбаўлена ўстаноўленага права ўвайсці ў філармонію па гэтым дакуменце: абедзве кабеты і строгі гаспадар канцэртнай залы рэкамендавалі прыходзіць заўтра, калі будуць прапускаць "па гэтым".

На сваіх правах я не настойвала, не спрабавала знайсці папяровае запрашэнне ці выцягнуць лімаўскія "корачкі": непахіснасць філарманічных службоўцаў мяне па-свойму нават усцешыла, захацелася далучыцца да падтрымкі парадку ў глядацкім натоўпе, памкнуцца да касы, папытаць білет... Ды як на грэх падышлі яшчэ двое з нейкімі пасведчаннямі. Цётачкі ветліва патлумачылі ім тое, што і мне. І раптам адна з кантралёрак замітусілася: "Ой, гэта ж свае, свае!" "Свае" — азначала дачку вядомага музыканта, цяпер пенсіянера, які некалі граў у аркестры, ды ейнага спадарожніка. "Свае" прайшлі, ганараваныя ліслівымі ўсмешкамі. Маё памкненне да касы змянілася жаданнем хутчэй даць цягу, каб не ўчыніць журналісцкае даследаванне гэткай "прапускной сістэмы" і не папсаваць свята добрым цёткам. А тое, што "начальнік залы" не пазнаў — мусіць, да лепшага: багатая буду...

●

Прыслухаўшыся да рэкамендацыі "прыходзіць заўтра", я ўжо без праблем патрапіла па тым самым пасведчанні на закрыццё фестывалю. У зале было досыць людна. Праграма канцэрта загадзя выклікала цікавасць і цікаўнасць, а потым — доўгае кулуарнае абгаварэнне. Абмяркоўвалася ўсё. І тое, які натхнёны ды экспрэсіўны быў за пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра нямецкі дырыжор Інга Эрнст Райль (ён не першы сезон кіруе нашым камерным аркестрам). І тое, з якой класічнай цэласнасцю трактаваў маэстра вядомую ўжо (і вядомую не ў лепшых трактоўках) Трэцюю сімфонію У. Дарохіна "Францыск Скарына". І тое, які прыгожы гук у скрыпача І. Шульдмана. І тое, з якім сапраўдным музыканцкім азартам ігралі-"спаборнічалі" ў Трайным канцэрце з аркестрам колішнія ліцэісты: скрыпач Ісак Шульдман, піяніст Юры Гільдзюк, віяланчэліст



*Лаўрэат міжнароднага конкурсу прафесар Нарвежскай акадэміі музыкі Ісак ШУЛЬДМАН.*



*Дзевяцігадовы лаўрэат Алег ЯЦЫНА.*



*Флейты гук чароўны...*

Алег Алоўнікаў!.. Уявіце: у іх нават хапіла запалу выдаць на "біс" цэлую частку гэтага саліднага бетховенскага твора!

Свята прамінула, і на "біс" яго ўжо не выклічаш. Госці пакінулі хату. Гаспадары засталіся сам-насам са сваімі праблемамі, якія зусім не доўга хаваліся за юбілейнымі ўсмешкамі. Праблемы застаюцца, ператвараючыся ў гэткі генератар трывожных пытанняў: наконт запатрабаванасці мастацтва ў саматужна-рынкавых умовах; наконт будучыні сённяшніх "зорачак"; наконт "лаўрэатаманіі".

А яшчэ — наконт выхавання унікальнай свядомасці ў тых маленькіх музыкантаў, якія, крочыўшы на прыступкі ліцэя, мусяць па дарозе да самаахвярнай сваёй прафесіі спасцігнуць, зразумець, запомніць і палюбіць гісторыю гэтай "музычнай плошчы" ў старым горадзе, гісторыю свайго школьнага дома і тых пакаленняў, якія вучыліся тут, вучылі сваіх пераемнікаў і пакідалі гэтыя сцэны, адыходзячы ў шырокі свет, здабываючы славу, людскую павагу або — забыццё...

Многім з нас, цяперашніх, пашанцуе сустрэць 70-годдзе ліцэя. Хтосьці, напэўна, зможа адзначыць ягоны век. Дай Бог...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

# ДВА ДНІ З БАРТАКАМ

***8-9 снежня ў Беларускай акадэміі музыкі адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Творчасць Б. Бартака ў кантэксце мастацкай культуры XX стагоддзя" (да 50-годдзя з дня смерці).***

У ёй узялі актыўны ўдзел студэнты II і III курсаў аддзялення музыказнаўства В.Вахула, А. Залатарог, Н. Боханка, А. Рыжанькая. Выклікалі цікавасць даклады прафесара доктара мастацтвазнаўства Т. Шчарбаковай, студэнткі II курса аддзялення фартэпіяна Н. Пазняковай. Прыемна было бачыць на канферэнцыі прадстаўнікоў іншых музычных навучальных устаноў рэспублікі. З Маладзечанскага музычнага вучылішча было прадстаўлена на суд слухачоў тры даклады: навучэнак В. Урублеўскай, Л. Кісель і Д. Мусатаевай. Настаўнік Гомельскага каледжа мастацтваў Г. Осіпава таксама зацікавіла прысутных сваім выступленнем.

Дзякуючы гасцям з Расіі канферэнцыя набыла статус міжнароднай. Студэнты Саратаўскай дзяржаўнай кансерваторыі І. Філіпава і У. Лісенка ўразілі нетрадыцыйнасцю поглядаў, глыбінёй і змястоўнасцю сваіх выступленняў.

На жаль, у сувязі з недахопам інфармацыі пра канферэнцыю яе не змаглі наведаць усе жадаючыя. Не адчувалася і вялікай зацікаўленасці з боку настаўніцкага складу акадэміі. Увогуле, мяркую, не памылюся, калі назаву гэтую канферэнцыю студэнцкай, бо з 12 дакладчыкаў было толькі двое настаўнікаў. На жаль...

Тым не менш, канферэнцыя прайшла з поспехам. Гучала нямала музыкі, што бывае нячаста, як "жывой" (у вечары 9 снежня быў канцэрт з твораў Б. Бартака і кампазітараў XX стагоддзя), так і ў запісе.

**Наталля КСЁНЦ,**
**студэнтка акадэміі**

# ДОБРА МАЗАЎЦЫ ПЯЮЦЬ!

***"Вялікае дзякуй вам за вашу творчасць", — сказаў народны артыст Савецкага Саюза прафесар Віктар Роўда, выступіўшы на вечары, прысвечаным 35-годдзю народнага хору народнай песні Палаца культуры МАЗа.***

Больш за чатыры гадзіны перапоўненая зала Палаца шанавала праслаўлены калектыў мазаўцаў і яго хормайстра, арганізатара і нязменную кіраўніцу, заслужанага работніка культуры Беларусі Аляксандру Нікіціну. Дарэчы, Аляксандра Пятроўна яшчэ і аўтар трох песень, якія часта выконваліся яе славутым хорам, — прысвечаны гэтыя песні роднаму МАЗу.

Дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі сталіцы віншавалі юбіляраў, віталі іх таксама ўсе самадзейныя калектывы Палаца мазаўцаў, многія харавыя калектывы палацаў і дамоў культуры Мінска. Утварылася сапраўдная святочная праграма — з песнямі, з танцавальнымі нумарамі.

Амаль паўтары тысячы канцэртаў даў за час свайго існавання хор МАЗа — у краінах СНД, у дальнім замежжы і, вядома ж, ва ўсіх кутках Беларусі.

Творы беларускіх, рускіх і украінскіх аўтараў, народныя песні гучалі ў выкананні юбіляраў у той вечар. Слухачы дзякавалі кветкамі, гарачымі апладысментамі, воклічамі "брава!", "малай-цы!"

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

## СЯМЕЙНЫ ДУЭТ МАСТАКОЎ



З майстэрствам віцебскіх мастакоў Таццяны і Юрыя Рудэнкаў знаёмы не толькі ў нашай рэспубліцы, а і за яе межамі — у Германії, Ізраілі, Польшчы і іншых краінах.



Нядаўна ў Амерыцы выпушчаны альбом, куды ўвайшло 165 рэпрадукцый работ віцебскіх мастакоў. Шчасліваму яго ўладальніку (а гэта выданне ўжо прыбыло ў Віцебск) давядзецца правесці нямала прыемных хвілін, сузіраючы ілюстрацыі і паэтычныя ўрыўкі з вершаў Мандэльштама, Лоркі, Ахматавай, Брусава, Рыльке. "Габелены", "Афармленне сцэны", "Заслоны", "Работы ў змешанай і аўтарскай тэхніцы", "Батык-тэмпера-вышыўка" і, нарэшце, "Ювелірныя вырабы" — усе пяць раздзелаў кнігі дазволяць яму блізка пазнаёміцца з творчасцю сямейнага дуэта Рудэнкаў.

*На здымках: Таццяна і Юрый Рудэнкі з кнігай; рэпрадукцыі з раздзела кнігі "Габелены".*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## "РАДАСЦЬ" ЗАЎСЁДЫ РАДУЕ



Народны ансамбль танца "Радасць" з Брэста ведаюць не толькі ў Беларусі, але і ў многіх краінах Еўропы. На жаль, тыя, хто трыццаць гадоў назад пачынаў у ім танцаваць, цяпер ужо на пенсіі. Вось чаму ў калектыве пастаянна думаюць пра рэзервы. "Падсілкоўваюць" ансамбль мясцовая харэаграфічная школа і дзіцячы ўзорны танцавальны ансамбль "Надзея", створаны з яе выхаванцаў. Дзеці з натхненнем выконваюць "Трасуху" і "Лявоніху", "Крыжачок" і малавядомы "Заёнц". Юныя артысты выступалі на сцэнах Брэстчыны, гастралявалі ў Польшчы і ў Маскве. На будучы год дзяцей запрасілі на фальклорныя фестывалі ў Балгарыю і Францыю.

*На здымку: юныя артысты з "Надзеі", якая функцыянуе пры Брэсцкім гарадскім Доме культуры.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

# У ВЯНОК БАГДАНОВІЧУ

***Да 104-ай гадавіны з дня нараджэння Максіма Багдановіча прымеркавана Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі", якая прайшла ў Мінску ў Літаратурным музеі паэта. Амаль што супадаюць з багдановічаўскімі народзінамі дні нараджэння ўльвоўскага паэта, перакладчыка Міколы Пятрэнкі. Яму "стукнула" 70! Да юбілейнага фінішу, але 60-гадовага, падышоў і яшчэ адзін сябар нашай літаратуры кіяўлянін Дзмітро Чараднічэнка. У кожнага з іх ёсць вершы, прысвечаныя Максіму Багдановічу. Яны і прапануюцца чытачам у перакладзе Уладзіміра Марука.***

Мікола ПЯТРЭНКА

### СОНЦА НАД ПЕСНЯЮ М. БАГДАНОВІЧА

Беларусь — высокая сінеча,
Беларусь — зялёны аксаміт.
Ды чаму здаецца — як на сечы,
Звоняць саблі, звоніць шчыт аб шчыт?

І няма ад ворагаў адхлання,
Скрозь — крыжы, магілы, кайданы.
Нельга абмінуць без хвалявання
Між азёр блакітных курганы.

Беларусь, разбі няволі крыгі,
Орды крывасмокаў прагані!..
Бач, Скарына падае нам кнігу
Вольнасці, любові, дабрыні.

На стагоддзі літары палаюць,
Бы вясёлкі, словы зіхацяць,
Іх вятры лагодай прамаўляюць,
Перш чым па-над краем рассяваць.

Словы тыя і зямля нясціме,
Як блакіт — азёры будуць піць.
І табе хацелася, Максіме,
Іх у новай песні ажывіць.

Беларусь табе жадае долі,
Над табой схіліўшы светлы лік,
З даўніны драбок прыносіць солі,
З бульбаю паклаўшы на ручнік.

Гэта не аддзяка, не адплата,
Гэта — як дарожшы запавет...
Ў кнізе сэрца песня распачата,
Просіцца ляцець у белы свет,

Развінае крылы нескарона...
І мяне крылу павярыць змусь,
Беларусь — у белым і чырвоным,
Ў сонечным ірдзенні Беларусь!

Дзмітро ЧАРАДНІЧЭНКА

### СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ

*І тчэ, забыўшыся, рука,*
*Заміж персідскага узора,*
*Цвяток радзімы васілька.*

***Максім БАГДАНОВІЧ***

Так доўга блукалі па свеце,
так доўга шукалі
то срэбра, ядвабу
(на Сходзе),
то славы
(у Станіславе),
то нейкай нязнанай аздобы
у дзіўныя ўзоры,
ды ўсё ім чагось бракавала.

І зноў у дарогу,
ні хвілі прыстояць:
і зноўку шукаць
малога-малога —
кроплі жывое.

Доўга па свеце блукалі,
покуль над Случчу
валошкі у жыццё знайшлі;
знайшлі, прылюбілі
ды на крылы свае ўзялі —
загалубовелі
вачамі-азёрамі беларускімі
і паляцелі па свеце
паясамі слуцкімі.

# КАРДЫЯГРАМА ДЭБЕЛАРУСІЗАЦЫІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

важную ролю не толькі ў арганізацыі культурнага жыцця народа, але і ў паглыбленні працэсаў яго этнічнай кансалідацыі. Замест гэтак неабходнага ў той час далучэння сродкамі тэатра жыхароў Брэста і Гародні да беларускай нацыянальнай культуры, якая тут на працягу больш як двух папярэдніх дзесяцігоддзяў мэтанакіравана апалячвалася, цяпер іх сталі цягнуць да рускай культуры, выкарыстоўваючы ў першым выпадку створаны ў кастрычніку 1944 г. на базе выпускнікоў Маскоўскага гарадскога тэатральнага вучылішча Дзяржаўны тэатра імя Ленінскага камсамола, у другім — Гродзенскі абласны драматычны тэатр (адкрыўся ў кастрычніку 1947 г.), якія не толькі ставілі спектаклі на рускай мове, але і не праяўлялі сур'ёзных клопатаў хаця б па насычэнні сваіх рэпертуараў творамі беларускай нацыянальнай драматургіі.

І пазней зусім не належнае для сябе месца займала беларуская мова ў сферы тэатральнага мастацтва. Паводле даных на 1 студзеня 1953 г. з 8 тэатраў толькі 3 працавалі на беларускай мове. З усіх саюзных рэспублік становішча з мовай карэннага насельніцтва ў данай галіне культуры было горшым толькі ў Малдаўскай ССР: тэатраў 4, а з малдоўскай мовай — 1. А вось як турбаваліся аб сваіх нацыянальных мовах іншыя рэспублікі: Украіна — тэатраў 79, з іх на ўкраінскай мове працавала 56, адпаведна Узбекістан — 26 і 22, Казахстан — 24 і 17, Грузія — 20 і 17, Азербайджан — 8 і 6, Літва — 8 і 7, Латвія — 12 і 9, Кіргізія — 7 і 5, Таджыкістан — 8 і 7, Арменія — 10 і 9, Туркменія — 5 і 4, Эстонія — 9 і 7.

Вельмі рана высветлілася, што партыя, як і ў перадваенны час, галоўным у сваёй ідэалагічнай працы сярод інтэлігенцыі будзе лічыць барацьбу з усялякага роду праявамі нацыяналізму, да якога па завядзёнцы дадавалася дзеля большай важнасці яшчэ і слова "буржуазны". Нацыяналізму — у большасці выпадках, як вядома, уяўнага, а не рэальнага — партыя баялася, як агню, хаця ў гісторыі дзесяткі прыкладаў, што менавіта толькі дзякуючы данаму фактару многія народы выжылі, не паддаліся ні прамой, ні скрытнай асіміляцыі. Нагадаю, што калісьці да нацыяналізму вельмі прыхільна ставіліся дзяржаўныя палітыкі, шматлікія прадстаўнікі інтэлігенцыі царскай Расіі. Вядомы рускі дарэвалюцыйны гісторык, прафесар П. Кавалеўскі ў кнізе "Национализм и национальное воспитание в России" (СПб, 1912) пісаў: "Усялякая дзяржава, якая жыве і дзейнічае, павінна быць апанавана нацыяналізмам. Гэта яе душа. Гэта яе існасць. Гэта яе жыццё". Згаданы рускі вучоны лічыў, што "першая яўная і рэзкая праява нацыяналізму" сустракаецца ў асобе імператара Пятра І". а "другім вялікім нацыяналістам рускай зямлі з'яўляецца годны вучань Пятра, народны геній — Ламаносаў".

Барацьбу з нацыяналізмам ідэалагічныя службы партыі і савецкія рэпрэсіўныя органы распачалі ў першыя ж дні, як толькі яны прыбылі ў вызваленую ад нямецкай акупацыі гераічную рэспубліку — партызанку Беларусь. З дня на дзень гэтая барацьба набывала ўсё больш маштабны характар, падмінаючы пад сябе велізарную колькасць людзей, сярод якіх пераважалі тыя, хто па самых розных прычынах браў удзел у дзейнасці нямецкіх акупацыйных органаў, працаваў у школах, установах культуры, бальніцах і г. д. Такіх людзей было нямала, бо акупанты трымалі курс на тое, каб усе такога роду цывільныя службы ўкамплектоўваць мясцовымі жыхарамі, якія добра ведаюць спецыфіку свайго краю. Зразумела, каб існавала магчымасць на ўсе пасады расставіць немцаў, ніхто і не падумаў бы прыцягваць для гэтай мэты беларусаў. А паколькі ўсё ж яны прыцягваліся, цяпер трэба было адказваць паводле ўсёй строгасці савецкіх законаў. Ва ўяўленнях партыйнага Цэнтра ў Крамлі і яго філіяла ў Мінску беларуская нацыя аказалася падзеленай на два вялікія супрацьлеглыя лагеры: адзін з іх удзельнічаў у партызанскім руху, другі — супрацоўнічаў з акупантамі. Стаўленне партыйных і савецкіх органаў, спецслужбаў да гэтых лагераў было процілеглае, што ў нейкай ступені перадалося і на самую беларускую нацыю, што не садзейнічала паглыбленню ў ёй інтэграцыйных працэсаў. А неабходнасць такога паглыблення дыктавалася сур'ёзнай раз'яднанасцю па самых розных пазіцыях беларускага народа ў выніку працяглага пражывання яго пасля Рыжскага дагавора 1921 г. у зусім неаднолькавых паводле сацыяльна-палітычных і этнаграфічных характарыстык краінах.

Пра меру падазронасці бальшавіцкай партыі да беларускай нацыі дае магчымасць меркаваць выступленне сакратара ЦК КП(б)Б У. Малініна 15 лютага 1945 г. На VI пленуме ЦК КП(б)Б, прысвечаным разгляду пытанняў палітычнай работы сярод насельніцтва. Як і многія партыйныя функцыянеры, ён лічыў, што на беларусаў зрабіла вельмі моцнае ўздзеянне лжывая фашысцкая прапаганда, што акупантам удалося стварыць шырокую агентурную сетку з ліку беларуска-нямецкіх, польска-фашысцкіх, а ў паўднёва-заходніх раёнах Беларусі яшчэ і ўкраінска-нямецкіх нацыяналістаў. "Канчатковае выкрыццё ўсіх фашысцкіх нацыяналістаў і іх ідэалогіі і ліквідацыя гэтых нацыяналістычных банд, — гаварыў прамоўца, — складае сур'ёзную задачу для партыйных арганізацый, асабліва заходніх абласцей Беларусі". Паводле яго ацэнкі тут гэтая работа не атрымала належнага размаху, "насельніцтву слаба тлумачыцца, што беларуска-нямецкія нацыяналісты з'яўляюцца саўдзельнікамі ліхадзейства нямецка-фашысцкіх прыгнятальнікаў". Часта абкамы і райкамы партыі барацьбу з нацыяналістамі ўскладаюць толькі на дзеянні ваенных і адміністрацыйных органаў.

Сур'ёзнае абвінавачванне акупантам у наўмысным насаджэнні беларускага нацыяналізму прагучала на VI пленуме ЦК КП(б) Беларусі і з вуснаў сакратара ЦК КП(б)Б па прапагандзе і агітацыі Ц. Гарбунова, які заявіў: "...гітлераўцы на Беларусі і праводзілі ідэалогію звярынага нацыяналізму, спрабуючы распаліць нацыянальную варожасць...

...немцы спрабавалі аб'яднаць і крымінальныя элементы і асколкі разбітага ворага — буржуазных нацыяналістаў, спрабавалі стварыць арганізацыі беларуска-нямецкіх фашыстаў, разлічваючы пры дапамозе беларуска-нямецкіх фашыстаў разбурыць дружбу беларускага народа з рускім народам".

Лідэры камуністычнай партыі Беларусі доўгі час і пасля вайны глядзелі на нямецкую акупацыю як крыніцу, якая нібыта сілкавала ў нашым народзе нацыяналізм, не жадаючы зразумець, што нацыянальныя пачуцці беларусаў абуджаліся ў пасляваенны перыяд толькі таму, што хацелася пасля суровых выпрабаванняў вайны і акупацыі адрадзіць родны край не толькі эканамічна, але яшчэ і ў нацыянальна-культурным зрэзе.

У першыя гады пасля вызвалення Беларусі ЦК КП(б)Б рабіў вельмі чоткае размежаванне паміж насельніцтвам усходняй і заходняй часткамі рэспублікі. Лічылася, як можна пераканацца з матэрыялаў VI пленума ЦК КП(б)Б, што "інтэлігенцыя заходніх абласцей у значнай сваёй частцы прайшла ідэалагічна чужую школу розных буржуазных дзяржаў і не поўнасцю яшчэ вызвалілася ад засвоеных ёю буржуазных поглядаў". Гэтыя вобласці прызнаваліся базай, дзе "арудуюць агенты лонданскага эміграцкага ўрада, якія распальваюць антысавецкія і нацыяналістычныя настроі сярод польскага насельніцтва". Не выключана, што пад уплыў такой прапаганды маглі і трапіць беларусы каталіцкага веравызнання, у якіх звычайна на гэтай глебе фармавалася павага да ўсяго польскага. Партыйнае кіраўніцтва ў якасці адной з важнейшых задач масава-палітычнай работы вызначыла "выкрыццё беларуска-нямецкіх нацыяналістаў, як наймітаў германскага фашызму, саўдзельнікаў іх злачынстваў і катаў беларускага народа..."

Зыходзячы з такой ацэнкі сітуацыі, бальшавікі вельмі мала ў чым davяралі мясцоваму насельніцтву заходніх абласцей і імкнуліся ўсе найважнейшыя, ключавыя пазіцыі ў іх жыцці сканцэнтраваць калі не ў руках прысланых сюды з іншых рэспублік асоб, дык хаця б усходніх беларусаў, якія ўжо паспелі прызвычаіцца да савецкіх сацыялістычных парадкаў.

*Працяг будзе.*

# СІЛА ЦІ БЯССІЛЛЕ?

## РОЛЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ Ў ДЫЯЛОГУ УСХОД—ЗАХАД

Дзетлеф ЛЮКЕ

*(Берлін, штотыднёвік "Фрэйтаг")*

КАЛІ мы гаварым пра тое, якой сілай валодаюць сёння сродкі масавай інфармацыі, ці пра тое, наколькі яны бяссільны, дык гаворка найперш ідзе пра іх структурную зададзенасць у канкрэтных краінах, дзе робяць газеты, радыё і тэлеперадачы. Занадта неаднолькава развіваліся зыходныя інтэлектуальныя варункі на Усходзе і Захадзе, да таго ж яны неаднолькавыя па сваім паходжанні і інтэнцыях. Публічнасць, тым больш інтэлектуальная, — г. зн., у ідэальным выпадку, і сродкі масавай інфармацыі — бярэ свой пачатак з Імануіла Канта. Усходнепрускі філосаф вылучыў і адначасова абмежаваў асаблівую прастору публічнасці ў грамадстве. Хоць асвета і адносілася да публічных намераў — Кант гаворыць аб свабодзе "ва ўсіх выпадках публічна карыстацца ўласным розумам", але значэнне гэтага паняцця Кант вызначае наступным чынам: "Пад публічным прымяненнем уласнага розума я разумею такое, якое ажыццяўляецца кімсьці як вучоным перад усёй чытэльнай публікай". Для Канта любы чалавек у прынцыпе можа быць "вучоным" — пры ўмове, што ён гаворыць не як носьбіт публічнай функцыі, а выключна "прыватна". Салдат на службе павінен падпарадкоўвацца, зняўшы ж вайсковую форму, ён мае поўнае права асуджаць ваеншчыну. Добрым актуальным прыкладам гэтага з'яўляецца нямецкі генерал арміі ў адстаўцы Шмюкле з ягонай рэакцыяй на ўдзел бундэсвера ў падзеях у Босніі, якому ён даваў у сваіх выступленнях па тэлебачанні і ў шэрагу нямецкіх газет надзвычай крытычную ацэнку. Дык вось, публічнасць канстытуюецца яе нейкае месца, у якім крытыка легітымная, калі яна зыходзіць ад "прыватных асоб". Адпаведныя прыклады вядомы, бадай, кожнаму. Гэта ж двайная ці раздвоеная публічнасць ёсць тая прастора, у якой у 18-ым стагоддзі фармаваўся пласт інтэлігентаў як прафесійных крытыкаў. Французскі сацыёлаг П'ер Бурдзье характарызуе іх як "двухмерныя істоты", якія — гэта першая ўмова — павінны належаць да "аўтаномнага культурнага поля", г.зн. быць незалежнымі ад рэлігійных, палітычных, эканамічных сіл. Набытая ў гэтых аўтаномных палях (Бурдзье гаворыць пра мастацтва, літаратуру і навуку) спецыфічная кампетэнцыя і аўтарытэт выкарыстоўваюцца пасля — і гэта другая ўмова — для палітычнага ўмяшальніцтва. Бурдзье называе гэта "антыпалітычнай палітыкай", бо яна не павінна быць дыпламатычнай і гатовай на кампраміс, як гэта звычайна бывае ў полі палітыкі; яна павінна рабіць стаўку на такія дзейныя ў полі культуры правілы, як "маральная сіла, адсутнасць асабістай зацікаўленасці, бескарыслівасць і кампетэнцыя" (Бурдзье). У гэтым плане чалавек з'яўляецца інтэлігентам тады і толькі тады, калі ён выходзіць за межы гэтай уласнай прафесійнай кампетэнцыі і ўмешваецца ў грамадскія справы, г.зн. толькі ў дзеянні. Інтэлігента-чыноўніка, уласна кажучы, быць не можа. Са стратай духоўнай аўтаноміі — няхай сабе ў выніку залежнасці ад ціску рынку, як на Захадзе, ці ў выніку прамога падпарадкавання ўладзе, як у былых сацыялістычных краінах — інтэлігент, як правіла, спыняецца ў сваім росце. Той, хто не мае намераў і адасабляецца ў вежы са слановай косці, таксама перастае быць інтэлігентам. Хіба рэдактары, асабліва тыя, што вядуць культурна-літаратурныя раздзелы, інтэлігенты? Даць адказ на гэтае пытанне больш складана, чым гэта здаецца на першы погляд. У час, калі ва ўсіх сферах расце падзел працы, так званыя спецыялісты выказваюць усё больш вузкапрафесійныя меркаванні па пытаннях іх кампетэнцыі. Гістарычны тып інтэлігента, да якога ўвогуле можна далучыць і лепшых рэдактараў, уяўляецца побач з гэтымі пратаганістамі постаццю з мінулага. Часта яго лічаць смешным, бо — смешна гаварыць аб усім у свеце спецыялізацыі. Інтэлігент такога складу ўсведамляе грамадскую парцэляцыю і пераадольвае яе, спасылаючыся на нешта, што стаіць вышэй, на універсальнае. Што датычыць журналіста, дык да яго ў гэтай сувязі падыходзіць наступнае выказванне: "Ведае пра многае няшмат і пра нямногае шмат". Пазбегнуць гэтай калізіі інтэлектуальная крытыка здольная, як уяўляецца, толькі тады, калі яна абапіраецца на мараль, і яна аказваецца тым больш дзейснай, чым шырэй прызнаныя тыя нормы, на якія яна абапіраецца: напрыклад, свабода, роўнасць, брацтва. Адсюль зусім відавочна, што ў тыя часы, калі грамадскія ўяўленні аб каштоўнасцях здаюцца адвольнымі, у крызісную сітуацыю павінна патрапіць і крытыка, асабліва ў культурна-літаратурных раздзелах газет і часопісаў, бо ёй занадта часта не хапае арыенціраў — такіх, як усеагульны характар грамадскага прызнання. Актуальным прыкладам такога дэфіцыту з'яўляецца крах сацыялізму ў ГДР і ва ўсходне-еўрапейскіх краінах у аспекце накіраванага да яго крытычнага мыслення. Пасля ўз'яднання ў Германіі суіснуюць самыя розныя сістэмы каштоўнасцей, публічная крытыка перабудоўваецца, і ўпершыню з 1945 года зноў стала магчымай больш ці менш шырокая крытыка справа: ёй не выносіцца тут жа вердыкт прыналежнасці да фашызму. Прыкладам можа паслужыць дыскусія ў гамбургскім часопісе "Шпігель", якая пачалася ў 1993 годзе з эсэ драматурга Бота Штраўса пад антычным загалоўкам "Казліная песня набірае моц". "Займаць правую пазіцыю — не па танным перакананні, не з нізкімі намерамі, а зыходзячы са сваёй сутнасці — гэта значыць паддацца прыгнятаючай уладзе памяці", — піша цалкам у духу універсалізму Бота Штраўс, для якога інтэлігент — гэта традыцыйны "паэт", ад Гамера да Гельдэрліна. Пасля адыходу інтэлігента як інтэрпрэтатара і прарока гісторыі ў адстаўку ён павінен уваскрэснуць ужо як вялікая адзіная асоба па той бок усёй гісторыі цяперашняга стагоддзя, у нямым дыялогу са спыненым часам. Аднак для Імануіла Канта публічнасць уключае і яшчэ адзін, вызначальны момант, яго выпрацавала Ханна Арэнд у сваіх лекцыях пра Канта. Публічнасць у гэтым выпадку не ідэнтыфікуецца з прынцыпам talk-show, у адпаведнасці з якім кожны можа адбарабаніць сваё меркаванне і аб'явіць тую ці іншую рэч ісціннай ці правільнай. І згаданае рэлігійнае азарэнне Штраўса не мае да гэтага ніякіх адносін. Справа, наадварот, у тым, каб наогул у публічнай гаворцы пакуль што толькі выпрацаваць крытычнае меркаванне і праверыць ягоныя ўмовы. Крытычныя разважанні ў ціхай святліцы па меншай меры бескарысныя. Толькі публічнасць і здольнасць меркавання, "якая ў сваёй рэфлексіі мысленна прымае да ўвагі спосаб уяўлення кожнага іншага, каб уласнае ўяўленне як бы лічылася з сукупным чалавечым розумам" (І. Кант. "Крытыка здольнасці меркавання"), дазваляюць пераадолець зацыкляванасць суб'ектыўнай абмежаванасці мыслення і ўласнага пункту гледжання. Кант называе гэты прынцып мысленнага ўліку ўсіх магчымых пунктаў погляду "шырокім аглядам думак". Без яго няма здольнасці да меркавання, без публічнасці няма крытычнага мыслення. Пераключаючы тэлевізар з аднаго talk-show на другое, мы бачым, наколькі вырасла "асвечанасць у разуменні Канта" — ці, больш дакладна кажучы, наколькі яна знізілася. А што мы бачым, гартаючы буйнейшыя нямецкія газеты і часопісы і, перш за ўсё, знаёмячыся з іх культурна-літаратурнымі раздзеламі? Ніжэй я спынюся на адной інтэлектуальнай дыскусіі сёлетняга года, якая ўскалыхнула ў большай ці меншай ступені ўсіх, хто быў закрануты ёю. З часу ўз'яднання Германіі гэта ж менавіта ў культурна-літаратурных раздзелах успыхваюць найбольш зацятыя і лютыя спрэчкі. Магчыма, гэта нейкім чынам суадносіцца з выказваннем Маркса аб тым, што "быццё вызначае свядомасць". Дык вось, прыклад: дыскусія па пытання аб'яднання ПЭН-цэнтраў Заходняй і Усходняй Германіі ў маі 1995 года ў Майнцы. Знаёмячыся з газетнымі публікацыямі аб ёй, непрадузятыя людзі могуць падумаць, быццам гэтая дыскусія з'яўляецца апошняй бітвай чалавецтва за свет ісціны і справядлівасці. Такія эмацыянальныя і інтэлектуальныя затраты выдаюць у нейкай ступені смешнымі таму, што ПЭН-цэнтры ў некаторых іншых краінах вядуць хутчэй непрыкметнае існаванне па прычынах безумоўна не такіх важкіх, як у Германіі. У Аўстрыі многія значныя пісьменнікі ў апошнія гады выйшлі з ПЭН-клуба і аб'ядналіся ў так званы Грацкі гурток. Аналагічная сітуацыя склалася і ў Швейцарыі. І гэта толькі ў нямецкамоўных краінах! Гэтая пануючая ў згаданых краінах ціхамірнасць стварае ўражанне, што дыскусія пра ПЭН-цэнтр была дыскусіяй інструменталізаванай, галоўным прадметам якой былі ў рэшце рэшт іншыя палі самасцвярджэння. Часта ў публікацыях аналіз падмяняўся маралізатарствам. У многіх артыкулах не ўлічваецца спецыфічны духоўны клімат у дыктатурах, накшталт ГДР, дзе інфармацыя жыла і ў маўчанні ў неабходных месцах, а чытачы ўмелі чытаць між радкоў. Гэты ментарскі падыход можна ў абагуленым выглядзе паказаць пад тым вуглом гледжання, як заходні немец тлумачыць усходняму, што такое Усход. І апошні часам ужо і не пазнае сваю, пагодзімся, бедную ці нават убогую духоўную радзіму. Прыкладам такой пазіцыі стаў артыкул літаратурнага рэдактара Ірыс Радзіш у гамбургскім штотыднёвіку "Ды Цайт", названы "ПЭН-чокнуты — ці як?" Першая ўжо фраза гэтага артыкула з'яўляецца класічным прыкладам асацыятыўнага ўнушэння, якое сёння гэтак часта замяняе дыскурс: "ГДР мёртвая, усё прапала, загад страляць, гэтыя дрэннаскроеныя аднабортныя пінжакі, нават дэзінфікуючыя сродкі і буры вугаль смярдзяць недзе ў іншым месцы, на нябёсах ці ў пекле сканаўшых дзяржаў". Дзяржава, няхай сабе, сканала, але ж людзі яе яшчэ жывыя і могуць прачытаць такія вось публікацыі, якія, як заўважыў берлінскі філосаф Герд Ірліц з іншай нагоды, "жывуць за кошт культуры непрыязні". У такім спалучэнні загаду страляць і дрэнна скроеных аднабортных пінжакоў выяўляецца дзіўны падыход да з'яў нашага стагоддзя. Сустракаюцца і элегантныя кілеры, і сёння яны ўяўляюць сабой больш распаўсюджаную з'яву. Зводзіць забойства і моду разам у такім кантэксце — у гэтым ужо ёсць штосьці ад безгустоўнасці. Чытаючы вышэйзгаданы тэкст, я думаў пра сваіх сяброў у Польшчы, Венгрыі і былым Савецкім Саюзе; яны таксама насілі пераважна дрэнна пашытыя аднабортныя пінжакі, але фасон іх духу вельмі хутка змушаў забыцца на крой іхніх касцюмаў. Тэкст, накшталт гэтага, піша нехта, хто не ведаў сканаўшай дзяржавы і хто збіраў сваё веданне аб ёй, напэўна, у свеце клішэ. Гэты артыкул быў змешчаны на першай старонцы газеты, што падкрэслівала ягоную важнасць. У іншым месцы адзначалася: "Так, многім братам па ПЭН-клубе раней было вельмі зручна на ціхім Усходзе". Сцвярджэнне, у якім свядома ці, што яшчэ горш, міжволі ігнаруецца той факт, што большасць з цяперашніх членаў усходняга ПЭН-цэнтра сталі яго членамі толькі пасля краху ГДР, а пры сацыялізме ім давялося перажыць не самыя прыемныя часы: альбо іх кнігі выходзілі з вялікай затрымкай, альбо і зусім забараняліся. Часта творы многіх цяперашніх членаў усходняга ПЭН-цэнтра падвяргаліся цэнзуры. Але ў духоўнай пустыні ГДР аазісы іншабыцця цікавасці не ўяўлялі, ды і погляд з боку, напэўна, не надта і выяўляў іх. Адзіныя сведкі сёння - гэта тыя аўтары, якіх выжылі з краіны, але амаль усе яны пачыналі свой шлях таксама як прававерныя члены САПГ і толькі прайшоўшы суровы шлях пазнання сталі вераадступнікамі сацыялізму. Назавём у гэтай сувязі Гюнтэра Кунерта, Райнера Кунцэ, Вольфа Бірмана, Сару Кірш і Юргена Фукса. Варта прызнаць, што права на такую перамену ў сваёй біяграфіі мае кожны, а культуру непрыняцця варта замяніць культурай адрознення. Але Ірыс Радзіш заўважае ў канцы сваёй філіпікі, што не бывае міру без вайны. Папяровай вайны. У свеце рэальных крывавых войн і смяротных сутыкненняў такія дыскусіі ўяўляюцца нязначнымі. І ўсё ж яны патрэбны. Яны патрэбны, каб прыбраць духоўны хлам, руіны думкі, пакінутыя бамбардзіроўкамі халоднай вайны. У гэтым бачыць свой абавязак газета, у якой я працую, газета, якая называе сябе з пэўнай прэтэнзіяй "усходне-заходняй газетай". Парытэт у кадравым складзе (колькасць усходнегерманскіх і заходнегерманскіх супрацоўнікаў прыкладна аднолькавая) гарантуе пэўную раўнавагу ў падыходзе да нямецка-нямецкай пасляваеннай сітуацыі і яе ацэнкі. У гэтым духу выказаўся і эсэіст Фрыдрых Дзікман у газеце "Франфуртэр Альгеймайнэ Цайтунг" за 18 мая г.г. Ён прапанаваў утварыць агульнанямецкі ПЭН-цэнтр. Прэзідыумы кожнага з існуючых цэнтраў ён прапанаваў пераўтварыць ва ўпаўнаважаных выбаршчыкаў для абрання членаў-заснавальнікаў новага ПЭН-цэнтра, усе рашэнні павінны прымацца большасцю ў дзве трэціх галасоў. Дзікман слушна абвінаваціў у анархізме наяўнасць дзвюх сепаратных арганізацый ПЭН-клуба, што паказвае на падзел дзяржавы, даўно ўжо аб'яднанай. Для Дзікмана цяперашнія перашкоды на гэтым шляху ёсць "ар'ергардныя баі, якія вядзе ўжо пераадоленая сітуацыя". І наогул складваецца ўражанне, што цяперашнія раздоры пры аб'яднанні ПЭН-цэнтраў — гэта закліНанні ў імя ажыўлення сітуацыі з наяўнасцю ГДР, якая з восені 1989 года, на шчасце, больш не існуе. Але карыкатура на яе, думаецца, усё яшчэ патрэбна асобным матадорам спрэчкі для вырашэння сённяшніх задач зброяй мінулага. Так што падчас пачынае здавацца, што калі б ГДР раней і не было, дык яе варта было б прыдумаць. А які ўклад унесла наша газета ў тэму "Уз'яднанне ПЭН-цэнтраў"? Трайны. Гэта, па-першае, даволі сентыментальны матэрыял паўднёванямецкай пісьменніцы Маргарэтэ Хансман, якая малявала ў цнатлівасці сваёй памяці такую карцінку ГДР, якую, як ёй здавалася, яна сама бачыла. Памяць падсалоджвае. Ды і хто гэтага не ведае! У рэдакцыі адбылося досыць бурнае абмеркаванне яе матэрыялу, большасцю галасоў мы вырашылі яго надрукаваць, паколькі ён з'яўляецца сведчаннем таго, наколькі звілістa праходзілі франты гэтай дыскусіі паміж Усходам і Захадам, і сведчаннем краху утопіі і на Захадзе. Затым наш літаратурны рэдактар напісаў артыкул-рэзюме пад назваю "Перажоўванне ласёў", у якім даў крытычную характарыстыку абодвух бакоў медаля гэтай спрэчкі. Назва суадносіцца з сатырычнай фразай "Ласёў крытыкуюць асабліва ліха былыя лось і ласіха". Гэтая алегорыя, верагодна, цяжка перакладаецца, але яна раскрывае сутнасць рэнегата таго кшталту, што распаўсюджаны перш за ўсё ў Германіі. Нас дыскусія аб ПЭН-цэнтрах цікавіць у першую чаргу таму, што яна сімптаматычная як паказчык настрояў у Германіі, як узор " пераадолення мінулага". Тое, што аўтар пры гэтым з асалодаю апісвае змену франтоў некаторымі найбольш прыкметнымі асобамі, нясе ў сабе для адпаведнай чытацкай кліентуры нашай газеты штосьці накшталт прасветленасці. Гэтая кліентура складаецца на працэнтаў 70 з былых заходніх немцаў і на 30 — з усходніх, што больш-менш адпавядае долі таго і другога складніка ў сённяшняй структуры насельніцтва Германіі. Хто з былых усходніх немцаў можа ведаць, што адзін з надта ж баявітых маралістаў са стану працаўнікоў адзінства ПЭН-цэнтра, заходнеберлінскі пісьменнік Яак Карзункэ быў раней зацятым і гэткім жа дагматычным марксістам. Такое прэтэнзійнае свідраванне пры вядомых умовах паглыбляе дыскусію і пазбаўляе яе рэлігійнага налёту. Наш літаратурны крытык — сам ён, дарэчы, з Заходняй Германіі — слушна адзначаў: "Раней, калі яшчэ існавала ГДР, паводзіны ПЭН-цэнтра Заходней Германіі былі менш жорсткімі. Ён ніколі не заяўляў у адрас міжнароднага ПЭН-клуба пратэст супраць прызнання ПЭН-цэнтра ГДР. А цяпер раптам варта, аказваецца, заднім чыслом выгнаць ГДР". Настальгія не з'яўляецца адрознай рысай слязлівых, пацярпелых ад уз'яднання ўсходніх немцаў. Гэта агульнанямецкі — трэба сказаць, не надта прадуктыўны — агульнанямецкі стан духу. Парытэт у кадравым складзе нашай газеты забяспечвае пастаянную магчымасць задаваць удакладняльныя пытанні наконт тых ці іншых сцвярджэнняў адносна адпаведнай сітуацыі і спрачацца з імі. Аднак перадумовай з'яўляецца ўзаемная цікаўнасць, якая ў сённяшніх нямецка-нямецкіх стасунках не надта выяўлена. Знаёмства з сітуацыяй таго і другога бакоў дазволіла б стварыць кантралюючы механізм, які з веданнем справы і людзей высвятляў бы крыніцы квітнеючых буйным цветам клішэ і непаразуменняў. У нашай газеце стала нормай, што заходнія немцы пішуць пра ўсходненямецкія справы і наадварот. Памяць падсалоджвае, — казаў я вышэй. Але памяць можа і гарчыць. І тую, і другую эмоцыю неабходна ўлічваць і адносіцца да яе па-дзелавому. Варта згадаць і трэцюю публікацыю ў нашай газеце. Гэта быў перадрук заявы франкфурцкага пісьменніка Лотара Баера аб выхадзе з ПЭН-клуба з заўвагай рэдакцыі аб тым, што 62 члены заходнегерманскага ПЭН-цэнтра пасля завяршэння работы ягонай канферэнцыі ў знак пратэсту падалі заявы з патрабаваннем двайнога членства. Перспектыва, шчыра кажучы, аптымістычная.

Як бачым, тэрыторыя дыскусій паміж Усходам і Захадам ператварылася ў тэатр ваенных дзеянняў асаблівага роду. Таму спрэчкам варта пажадаць больш дзелавітасці, пастаянства і засяроджанасці. Гэтаму супрацьстаіць так званае "маўчанне інтэлігентаў", няхай нават часам яно праяўляецца ў пустой балбатні. Красамоўнае маўчанне — гэта і дыскусіі аб супрацоўніцтве такіх пісьменнікаў, як Крыста Вольф, Хайнер Мюлер і — самы свежы прыклад — Моніка Марон, з органамі дзяржаўнай бяспекі. Менавіта ў згаданых выпадках гаворка павінна была б ісці аб ролі пісьменнікаў у ГДР, аб тым, дзе яны гаварылі і дзе маўчалі, аб іх крытычнай функцыі ў грамадстве, аб публічных структурах на Усходзе і на Захадзе. Аднак дыферэнтуючы попыт прадвызначае меншыя тыражы, чым няўмольнае абвінавачванне "потым". Кантаўскі "шырокі лад думак" уяўляецца больш стамляючым, чым стральба па мішэнях у сродках масавай інфармацыі. Само сабою на Усходзе інтэлектуальнай прасторы практычна не было. Не было ні незалежнай ад улады публічнасці, ні інстытуалізаванай прасторы для крытыкі — хіба толькі ў выглядзе самвыда, антыпублічнасці з падполля. Не было "рынку думак", свабоды слова, адвольнасці. Абедзве ўмовы, што канстытуюць інтэлігента (па Бурдзье) — анатомія і актыўная крытычная дзейнасць, — у структурным плане не прадугледжваліся. Аднак перанос функцый заходняга пласту інтэлігентаў на ролю інтэлігенцыі на Усходзе ні да чога не прывядзе. Тым больш, калі дыскусія будзе адбывацца на фоне росту тыражоў і індэксаў уключэння. Цэс Нотабом, нідэрландскі пісьменнік, піша з гэтае нагоды: "Пісьменнікі — гэта людзі, якія не імітуюць так званую рэчаіснасць, а, наадварот, выкарыстоўваюць бязмежныя магчымасці мастацтва, каб учыніць гвалт над ёю, падарваць яе, перавярнуць, прынізіць альбо ўзвысіцца над ёю, таму што інакш у гэтым свеце немагчыма было б вытрываць. Тым самым яны робяць адзінае, што ўмеюць: сачыняюць, хлусяць, чаруюць. А пра іншае клапоцяцца тэлебачанне, палітыкі і сацыёлагі".

Значыць, структурная спалучанасць. З ёй трэба лічыцца. Каб у аддаленай перспектыве мець магчымасць вызваліцца ад гэтага цяжару. Вызваліцца ад цяжару і ў сэнсе "нарадзіць", каб у наша сённяшняе жыццё ўвайшло нешта новае, трэцяе. Істота, што з'явілася не ў выніку гвалту, у тым ліку і інтэлектуальнага.

---

*Выступленне на II Міжнародным кангрэсе ПЭН-цэнтра*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПРЭМ'ЕРА Ў ТЮГУ



**У мінскім ТЮГу напярэдадні Новага года адбылася прэм'ера вядомай п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта".**

**Пастаноўку яе ажыццявіў рэжысёр Рыгор Баравік, афарміла спектакль мастак Ларыса Рулёва, балетмайстар — Віктар Бескаравайны.**

**У галоўных ролях заняты вядучыя артысты тэатра Л. Улашчанка, М. Ляонцьеў, І. Шрубейка, А. Жук, В. Кавалерава, В. Баранская і іншыя.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Пінская шляхта".*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

## АЎТАРСКІ ВЕЧАР



**У Беларускай дзяржаўнай філармоніі з поспехам прайшоў аўтарскі вечар кампазітара Ігара Паліводы. Усе творы аўтара выконваліся канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга.**

**Песні на музыку І. Паліводы выконвалі Валерый Дайнека і Іна Афанасьева, Ларыса Грыбалёва, Якаў Навуменка, Анжэліка Ют і многія іншыя вядомыя салісты рэспублікі. Вяла праграму Зінаіда Бандарэнка.**

*На здымках: У час аўтарскага вечара кампазітара Ігара Паліводы.*

*Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА*

## КОНКУРС ІМЯ ШАПЭНА



**На міжнародным конкурсе піяністаў імя Шапэна першая прэмія не была ўручана, другая ж падзелена паміж піяністамі Філіпам Гюльяна (Францыя) і Аляксеем Султанавым (злева, Расія).**

*На здымку: у час аб'яўлення рашэння журы.*

*Фота ПАП / ЦАФ-БЕЛТА*

# ПОЛЫМЯ НЕ ТОЛЬКІ САГРАВАЕ

## 110 ГАДОЎ НАЗАД НАРАДЗІЎСЯ ВЫДАТНЫ БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКІ ДЗЕЯЧ, АДЗІН З ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПРАФЕСІЯНАЛЬНАГА ТЭАТРА АЛЕСЬ БУРБІС

НЕ ПЕРШЫ тыдзень Мейшаголы нагадвалі патрывожаны пчаліны вулей. Адзін за адным праводзіліся на базарнай плошчы сходы. Прамоўцы заклікалі адбіраць у паноў зямлю, не плаціць падаткі, не выконваць воінскія павіннасці, праганяць мясцовае начальства, а ўзамен ставіць сваё, з прадстаўнікоў народа выбранае. Нават далёкія ад палітыкі людзі пагаворвалі аб магчымым утварэнні нейкай рэспублікі. І не дзе-небудзь у сталіцы ці іншым буйным прамысловым цэнтры, а ў самых Мейшаголах. Скептыкі, праўда, пачуўшы пра гэта, толькі ўсміхаліся. Маўляў, тут вам не Петраград, нават і не Вільня, да якой не так і далёка.

*Тым не менш, гэты лішні неспакой, жаданне* да ўсяго дайсці самому, пра ўсё даведацца, паруліцца аб лепшай будучыні яскрава пацвяр-джалі, што вестка пра падзеі, якія адбыліся ў Петраградзе і засведчылі пачатак першай рускай рэвалюцыі, хоць і з некаторым спазненнем дайшла і сюды. Хаця не сказаць, каб і дагэтуль тутэйшы люд надта спакойна рэагаваў на тыя ці іншыя змены ў палітычным жыцці. Няхай і нядоўгімі яны былі, але абавязкова ўскалыхвалі мястэчка. Але раней гэты неспакой і актыўнасць абмяжоўваліся распаўсюджваннем лістовак, расклейваннем пракламацый ці, прынамсі, адным-другім мітынгам на той жа цэнтральнай плошчы. Пакрысе імпэт незадаволеных спадаў і ўсё вярталася на свае месцы, рабіў звыклую справу і, здавалася, больш нішто не зможа парушыць раўнамернага ўкладу жыцця. Іншая справа — цяпер...

А пачалося ўсё пасля таго, як у Мейшаголы завітаў чалавек, на якога ці не адразу местачкоўцы звярнулі ўвагу. Тым больш, што чалавек быццам сам напрошваўся на знаёмствы: падыходзіў да людзей, заводзіў гаворку, распытваў, як жывецца, ганіў улады. Ды і мясцовым ад яго перападала. Таму ж земскаму начальству, станавым прыставам. А валаснога старшыню інакш як злачынцам і злодзеем і не называў.

Акрамя таго, незнаёмец кідаўся ў вочы *сваім знешнім выглядам*. Невысокі, бледнаваты — хлапчук, няйначай, а рыжыя валасы на галаве ўжо не надта затрымліваюцца на ёй — вунь ужо якія вялікія залысіны. А яшчэ вельмі ж прываблівае яго голас. Надзіва цвёрды, нейкі ўпэўнены. Калі прамаўляў словы, адразу адчувалася рашучасць. І не столькі адзін хадзіў, колькі са сваімі, местачковымі — Запольскім, Струем, Яруцем... Калі толькі і пазнаёміцца паспелі?! Бадай, праз студэнта Калеснікава... Той жа ў Вільні вучыцца... А мо вучыўся, а цяпер выключаны, бо даўно з Мейшаголаў нікуды не вылазіць. І ўсё каля незнаёмца круціцца.

Гэты самы Калеснікаў і сказаў па сакрэту сябрам, з кім ён рэвалюцыйнай агітацыяй займаецца. Тыя, таксама па сакрэту, паведалі сваім знаёмым. А ў выніку многія ў Мейшаголах ведалі, што ў мястэчка завітаў не абы-хто, а член Цэнтральнага Камітэта Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Яшчэ ў 1902 годзе, калі вучыўся ў віленскай гімназіі, стаў адным з заснавальнікаў мясцовай арганізацыі Грамады.

Бурбіс, ведаючы ад таварышаў па партыі, што ў Мейшаголах моцныя рэвалюцыйныя традыцыі, сам папрасіўся ў мястэчка. Упэўнены быў, што там ён акажацца да месца. Мейшагольцы, сярод якіх аказалася нямала абяздоленага люду, *горача падтрымалі лозунгі* Грамады. У чым Бурбіс і пераканаўся ў час наладжвання мітынгаў. Даводзілася і на плошчы выступаць, і з балкона... карчмы. Ад такой магчымасці таксама не мог адмовіцца.

Аднак гэта ўсё былі подступы Бурбіса да самага галоўнага. Не памыляліся тыя, хто пагаворваў аб утварэнні сваёй, мейшагольскай рэспублікі. Ідэя гэтая зыходзіла ад самога Бурбіса. І ўзнікла яна невыпадкова.

Бурбіс хутка пераканаўся, як шмат у мястэчку незадаволеных мясцовым начальствам, таму і вырашыў узяць у воласці кіраўніцтва ў свае рукі. Прапанову горача падтрымалі яго паплечнікі. І хоць у час сходаў усе яны заклікалі звергнуць уладу шляхам узброенага паўстання, тут усё вырашылі, можна сказаць, мірна і памяркоўна. Валаснаму старшыні, калі ён пабачыў, што ў час чарговага пасяджэння ніхто яго не падтрымлівае, нічога не заставалася, як добраахвотна адмовіцца ад сваіх паўнамоцтваў. Тады і была прапанавана на пасаду старшыні кандыдатура Бурбіса. Новы старшыня адразу абвясціў "Мейшагольскую рэспубліку".

У час свайго кіравання Бурбіс праявіў вялікі дэмакратызм. Любое больш-менш важнае *пытанне вырашалася супольна*. На сходах, а яны праводзіліся часта, нават па некалькі на тыдзень, кожны мог выказацца адносна палітычнага жыцця, сацыяльнага становішча. І так працягвалася з лістапада па снежань 1905 года, калі існавала "рэспубліка".

Ці не найбольш характэрны сход праходзіў 14 снежня. Ён па сутнасці і паклаў пачатак мясцоваму самакіраванню. Як старшыня, Бурбіс праявіў цвёрдасць у адстойванні пазіцыі, і не толькі ўласнай, а і пазіцыі Грамады адносна пытанняў, звязаных і з бягучым момантам, і з задачамі на перспектыву. На тым сходзе, як, дарэчы, і на іншых, прымаліся не звычайныя рэзалюцыі, няхай і ультыматыўнага характару, а аб'яўляліся прыгаворы. Тым разам Бурбіс падрыхтаваў праект двух з іх.

Першы тычыўся палітычнага моманту на тэрыторыі ўсёй Расіі. Бурбіс, у прыватнасці, выступаў супраць выбараў у абвешчаную царскім маніфестам 17 кастрычніка 1905 года Дзяржаўную думу. Узнікшыя праблемы вырашыць, інтарэсы простага люду, найперш сялянства, улічыць, на думку Бурбіса, Устаноўчы сход, склікання якога неабходна дамагацца на аснове ўсеагульнага, роўнага, тайнага і прамога выбарчага права. Устаноўчы сход прыме справядлівыя законы, выбера новы ўрад, распарадзіцца зямлёй, перадаўшы яе кожнаму, хто зможа сам, без эксплуатацыі апрацоўваць яе. Не былі абыдзены пытанні недатыкальнасці асобы, свабоды сходаў, слова, сумлення, друку. Гаварылася пра дзяржаўнае кіраванне на тэрыторыі Беларусі. Віленскаму краю, *лічыў Бурбіс, павінна быць дадзена самакіраванне*, прытым поўнае, з сеймам у Вільні. Прадугледжвалася далейшая дэмакратызацыя жыцця. Вызваляліся ўсе палітычныя вязні, адмаўляліся саслоўі, забаранялася пакаранне смерцю.

І што асабліва цікава сёння, Бурбіс дбаў аб выхаванні свядомых беларусаў. Ён прапаноўваў прыняць законы, у адпаведнасці з якімі дзяржава павінна паруліцца аб усеагульным, бясплатным навучанні дзяцей на роднай мове.

У другім прыгаворы закрануліся мясцовыя пытанні. Улада ранейшага валаснога праўлення распускалася, прызначаліся выбары новага кіраўніцтва, а заадно гаварылася і аб закрыцці на тэрыторыі воласці казённых вінных крам (быццам прыватныя лепшыя), і аб адмене падаткаў і павіннасцяў...

Праз некалькі тыдняў Бурбіс вымушаны быў развітацца з "Мейшагольскай рэспублікай". Пачалося наступленне рэакцыі. Трэба было своечасова знікнуць, каб не трапіць у рукі ўлад, перабрацца ў горад. У які? Вільня адпадала: яго там хутка знойдуць. Падацца ў Пецярбург? Але развітвацца з Беларуссю не хацелася. Бурбіс выбраў Мінск. Адной з прычын такога выбару стала і тое, што ў студзені 1906 года там меўся адбыцца II з'езд Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Збіраліся *вырашыць важнае пытанне — перагледзець* праграму партыі. А гэта акурат тое, што Бурбіса і цікавіла. Калі на І з'ездзе, што праходзіў у 1903 годзе, ён падзяляў погляды тых, хто арыентаваўся на "звяржэнне царскага самадзяржаўя" сумесна з "пралетарыятам іншых нацыянальнасцяў краіны" і выступаў за стварэнне незалежнай дэмакратычнай рэспублікі, дык цяпер пераканаўся: падобная задача хоць і заманлівая, але яна поўнай свабоды беларускаму народу не дасць. Гэтага можна дамагчыся толькі пры стварэнні федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі са свабодным самавызначэннем. На з'ездзе за гэта і прагаласавалі многія дэлегаты. Самавызначэнне прызнавалася з адначаснай культурна-нацыянальнай аўтаноміяй народаў. Асобна агаворвалася неабходнасць аўтаноміі для Беларусі. Прайшло на з'ездзе і патрабаванне, якое Бурбіс выстаўляў яшчэ ў "Мейшагольскай рэспубліцы": было вырашана змагацца за аўтаномію з мясцовым сеймам у Вільні.

Адбыўся з'езд, настаў час пераходзіць да канкрэтных дзеянняў. Нягледзячы на тое, што падводзіла здароўе (яшчэ ў раннім узросце цяжка хварэў), спачываць не збіраўся. А тут *якраз у пачатку 1906 года актывізаваліся* выступленні сталяроў Мінска. Бурбіс вёў сярод іх агітацыю, прымаў актыўны ўдзел у забастоўках. Ці то па ўласнай ініцыятыве, ці атрымаўшы партыйнае заданне, выехаў на Навагрудчыну. *Калі — можна толькі здагадвацца.* Хутчэй, бадай, летам. І вось чаму...

24 жніўня 1906 года Бурбіс быў затрыманы паліцыяй у вёсцы Дольнай тагачаснай Шчорсаўскай воласці. Пры сабе ён меў пашпарт на імя Генрыха Бухавецкага. Не здагадваючыся, хто перад імі, улады абвінавацілі затрыманага ў вядзенні агітацыі сярод сельскагаспадарчых рабочых Навагрудскага павета.

У Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ёсць і матэрыялы наконт гэтага затрымання. Зафіксавана, што "Г. Бухавецкі меў пры сабе чатыры экземпляры "Манифеста ко всему российскому крестьянству", маніфест "К армии и флоту", лістоўку "Да ўсіх вясковых людзей" з дэвізам "Працавіта бедната ўсіх краёў, злучайся!" Апошняя абвінаваўчая "рэч" была выпушчана самой Грамадой, а вось так званыя "маніфесты" падрыхтавалі іншыя партыі. Першы належаў камітэту сацыял-дэмакратычнай фракцыі і камітэту Працоўнай групы Дзяржаўнай думы, Усерасійскаму сялянскаму саюзу і іншым партыям і арганізацыям. Другі — Працоўнай групе і сацыял-дэмакратычнай фракцыі Думы. Тым самым, ведучы рэвалюцыйную дзейнасць, Бурбіс не адмаўляўся ад супрацоўніцтва з барацьбітамі рознай палітычнай арыентацыі. Была пры ім і нейкая шыфраваная запіска, змест якой так і не ўстанавілі.

"Г. Бухавецкім" *зацікавіўся пракурор* Мінскага акруговага суда, які не сумняваўся, што знойдзеныя пры арыштаваным матэрыялы "заклікаюць сялян да адкрытага ўзброенага паўстання супраць урада". Калі пачалося следства, Бурбіс усе абвінавачванні супраць сябе адмаўляў. Па-першае, ён упарта настойваў, што на самай справе з'яўляецца Генрыхам Бухавецкім, прыехаў у Шчорсаўскую воласць як карэспандэнт рэдакцыі "Минской газеты". А па-другое, сцвярджаў, што згаданыя пракламацыі ў яго апынуліся выпадкова. Знайшоў іх на дарозе, хацеў пазнаёміцца (прафесійная цікаўнасць!), і падумаць не мог, наколькі гэта небяспечна. Бурбісу не паверылі, у выніку ён апынуўся ў Навагрудскім турэмным замку, сярод гэткіх жа палітычных зняволеных. Канечне, не тое, што з крымінальнікамі. Але ж — каб было здароўе. Павышаная вільготнасць, няпэўнасць становішча — адчуў сябе зусім блага.

І ўсё ж тагачасныя турмы — не тое, што будучыя сталінскія засценкі. "Г. Бухавецкага" агледзеў турэмны ўрач, прызнаў сухоты. Зняволенаму дазволілі звярнуцца да пракурора Віленскай судовай палаты. Бурбіс у лісце ад 9 верасня 1906 года паведаў пра сваё слабое здароўе і папрасіў перавесці яго ў Мінскую турму, паколькі меркаваў, што там лепшыя ўмовы і можна знайсці неабходныя лекі.

Пракурор пайшоў насустрач, хадайніцтва задаволіў, і Бурбіса перавялі ў Мінск. Магчыма, нават дазволілі самому паехаць туды. Неверагодна? І ўсё ж у царскай Расіі, якую сем дзесяцігоддзяў называлі "турмой народаў", маглі дазволіць сабе і падобныя дэмакратычныя рашэнні. Прынамсі, праз год з лішнім Бурбіса выпусцяць часова на свабоду.

Ды пра гэта — крыху ніжэй, а спачатку пра падзеі, якія мелі месца зімой 1906 года. Бурбіс не толькі жыў ідэямі нацыянальнага вызвалення. Было ў яго і яшчэ адно захапленне — тэатр. Ды і як не захапляцца было, за плячыма ўсяго дваццаць гадоў (нарадзіўся 20 лістапада 1885 года ў Вільні, у сям'і ваеннага

Выставы

# ШТО МОЖА БЫЦЬ У ЧАМАДАНЕ?

Там — частка выставачнага праекта “Манументальна-мінімальна” майстэрні жывапісу і графікі прафесара Дзяржаўнай Мастацкай акадэміі Мюнстэра Уда Шэля (Паўночны Рэйн-Вестфалія). Другая палова праекта пад назвай “Мінімальна” якраз трапіла 15 кастрычніка ў Мінск, змясціўшыся ў невялікія чамаданы. Частка “Манументальна” таксама прыляцела разам з самім прафесарам У. Шэлем, доктарам, гісторыкам мастацтваў Марцінам Гізінгам і дзвюма выпускніцамі мюнстэрскай Акадэміі Хільдэгард Харвікс і Зільвіяй Бушэ, але толькі ў выглядзе каталога рэпрадукцый шматметровых прац. Чамаданы былі “распакаваны” ў музеі Беларускай Акадэміі мастацтваў, якая святкавала ў тыя дні свой юбілей. 17 кастрычніка згодна з планам святкавання, пры шматлюддзі, адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы, нагадаўшае вакзал у час сустрэчы доўгачаканага цягніка.

Цёплыя словы прамоўцаў віталі адкрытасць, суіснаванне на еўрапейскай культурнай прасторы шматграннасці, рознасці падыходаў, рэальныя магчымасці дыскусій і перспектыў супрацоўніцтва. Ва ўступным слове да каталога якраз і гаворыцца аб магчымасці сумеснай працы. За апошні час мы прайшлі шлях у большай ступені толькі да славесных кантактаў, але і такое ў часы майго студэнцтва было нават тэарэтычна немагчыма. Да слова, усходнія суседзі не ініцыіравалі ніводнай гэткай выставы.

Вонкавае знаёмства, натуральна, моладзь мала задавальняла, яна чакае рэальнага выяўлення поглядаў, пэўнага акрэслівання пазіцый. Вось тут яшчэ багата трухлявых бар’ераў, немагчымасцяў. Вельмі рэальны яшчэ адзін бок культурнай сітуацыі, часта схаваны кампліментарнай крытыкай і “надзьмуваемы” на ўсю дыхалку квазімодамі таталітарызму. “Пэцкалі”, “нецікава”, “халтура” і г. д. злятала з вуснаў самазадаволенага гледача ў кулуарах выставы. Але можна зразумець моладзь, яе непазбежны радыкалізм, які шукае належнай прасторы, магчымасцей “счаліцца” ў міжнароднай выставе, а не ў перадкалядным кірмашы. Студэнтаў можна паважаць за нястрачаную творчую амбітнасць, пабудаваную на трывалай тэхніцы, набытай у


*Уда Шэль. 1995.*

беларускай акадэмічнай школе. Што ж да трымальнікаў акцый гіперілюзій былога, то няхай і далей цешацца пырскамі і бурбалкамі захаплення выпадковага замежнага “цаніцеля” ды й тутэйшага, схільнага да “праўды” спецыяліста. Прыгадалася размова мінулага года з мастаком Хайнрыхам Ноем, у якой ён адзначыў негатыўны бок сучаснасці — імкненне да хуткага спажывання, звышзручнасці, да якіх можна хутка прызвычаіцца на ўзроўні элементарнага існавання, убачыць культуру толькі як частку быту. Ці не таму (бывае) так хочацца звычайнаму чалавеку бачыць на сваёй сценцы букецік у слоіку, анёльчыка ў добрай рамцы. Не хочацца яму, відаць, паглыбляцца ў абвостраны пошук мастаком гармоніі, уваходзіць пасля цяжкай працы ў свет вялікіх перажыванняў, уласцівы не толькі майстрам мінулага, але і сучаснасці. Лепш спажываць мастацтва так, як і шніцэль: пад сёрбанне “жыгулёўскага”, уперамеж з размовамі пра падзенне духоўнасці...

Былі на выставе наведвальнікі, якія моўчкі і доўга ўглядаліся ў “германскі падарунак”, час ад часу задавалі цікавыя пытанні, абяцалі прыйсці яшчэ раз. Сама экспазіцыя ўяўляла шырокі тэматычны дыяпазон, падкрэслівала прынцып адукацыі ў майстэрні Удо Шэля праз раскрыццё індывідуальнага бачання, на якім бы годзе навучання студэнт не знаходзіўся.

Маленькая работа для мастака — рэч не другарадная. Яна часцей выступае ў форме справаздачы перад самім сабою, зрэдку робіцца для шырокага публічнага паказу, утрымлівае вакол сябе больш прыватную атмасферу. Таму экспазіцыя ў акадэмічным музеі — авансавы давер амаль незнаёмаму беларускаму гледачу. Міжволі прыгадаліся малыя памеры эскізаў вялікіх майстроў, у якіх яны вывяралі шляхі да дасканаласці сваіх фрэсак і агромністых палотнаў.

У вялікай рабоце мастак прапаноўвае аўтаматычна правіла гульні, скарыстоўвае правакацыйныя эфекты, вядомыя як з традыцый, так і найноўшыя. З часам прынцыпова мала што тут змянілася. Падалося, што адной з навучальных задач было — праз кантраст акрэсліць месца мастака ў творчым працэсе. Выстаўленыя творы, як фігуратыўныя, так і бязрэчавыя, аб’ядноўваліся духам адзінай майстэрні, але можна быць упэўненымі, што вучні не будуць у самастойным шляху пакутаваць ад уплыву выкладчыка, яго ўласнага разумення.

На выставе было багата матэрыялу для падрабязнага аналізу, асобнай лекцыі. Найбольш запамінальнымі аказаліся водгукі будаўнічай пластыкі ў жывапісных вобразах Хільдэгард Харвікс, экспазіцыйны шэраг з якіх сам уяўляў канструктыўную структуру; работы Зільвіі Бушэ, што дэманстравалі ў экспрэсіўнай фігуратыўнай пластыцы і рысы фантастычна-неспакойнага свету; а таксама акварэлі Бэцціны Вехтэр, якія нагадалі творы архітэктараў-канструктывістаў пачатку стагоддзя.

Сам жа прафесар Уда Шэль у сваім экспазіцыйным раздзеле з лёгкасцю маніпуляваў на малых плошчах аркуша фігуратыўнай і нефігуратыўнай пластыкай, магчыма, наўмысна правакуючы супрацьстаянне вокнавых якасцей, выпрабоўваючы на трываласць лагічныя дыстанцыі паміж вобразамі, лініяй, плямай. Вопыт і майстэрства дазваляюць яму не губляць балансу ўласнай індывідуальнасці, без штучнага хвалявання за вынікі арыгінальнага эксперыменту.

Выстава ў акадэмічным музеі данесла да нас толькі асобныя рысы мастацкай адукацыі ў Мастацкай акадэміі Мюнстэра і яе майстэрні прафесара Уда Шэля.

**Міхал БАРАЗНА**


*Зільвія Буш. 1995.*


*Хільдэгард Харвікс. 1995.*

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтарыя — 268-640

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра "ЛіМ"**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6459.
Нумар падпісаны 21.12.1995 г.
Заказ 8240/Г

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

У адным горадзе старыя муры заміналі аднаўленню ратушы. Дык іх знеслі, а тады адбудавалі з сучасных матэрыялаў. “Рэстаўруем ці руйнуем?” — падалі голас жыхары. Каб не было звягі, на фасадах дамоў, што выходзяць на галоўную вуліцу, намалявалі гістарычны сілуэт цэнтра. Цяпер кожны можа ўбачыць, якія былі раней помнікі, а горад зноў набыў сваё непаўторнае аблічча.

●

Нічым не адметны беларускі нос, няма на ім знаку боскага? А колькі нос у мову ўнёс, якія спарадзіў адгалоскі! Не совай носа не ў сваё проса, не твайго носа палоса, дзве дзіркі ў носе — і скончалося, з носа кап і ў рот хап, паднесці фіндос пад нос, не вешай нос на квінту, не дастаць крукам нос, пуза на нос палезла, зрывае нос, капыліць нос, заараць носам, трымаць нос па ветры... Не арліны ў нас і не рымскі нос, а ўсё-ткі адметны.

●

Хай будзе поўнай праўда аб народзе, яго яшчэ калі ўзяліся зводзіць. Скасіла чвэрць апошняя вайна, ды першы пай забрала не яна. Трыццатыя, навек людзьмі праклятыя, адны чакаюць, а другія ўзятыя. Майстры адлову дбаюць аб галовах: “Майстроў мастацтва — за майстрамі слова. Для тых, свядомых, мець на ўзводзе “пушкі”, астатніх — у цяплушкі, у цяплушкі”... “Мы толькі пачынаем нішчыць гнус”, — вялікі Сталін гладзіць чорны вус. О Беларусь, адзіная на свеце, з тваіх сыноў загіне кожны трэці.

●

Бачыў у сне: на прасторы бясконцым людзі ляпілі з гліны сонца. Побач з будоўляю, небаракі, і сабе нарабілі баракі. Ява сон абарвала глыбокі, толькі баракі, баракі навокал.

●

Гісторыя часам спавядаецца ананімна, нашэптвае нешта таленавітаму пяру, і тады невядомы аўтар “Слова аб палку Ігаравым — уласнае імя і ўласнае імя — невядомы аўтар “Сказа пра Лысую гару”.

●

Нашы помнікі відаць з арбіты? Ідзі ты! Зрэшты, што тут крымінальнага, прапаганда ў нас манументальная: штык — з трубу, галава — з тысячу галоў, наваколле — узлётнае поле. Кажаш, і свечачка Богу жаданая? А пірамід намі будаваныя?

●

Хлеба зачарсцвелыя акрайцы, па вадзе балотнай ржа, браканьер у бравага зайца выпаліў з двухствольнага ружжа. Скача шэры, цэлы і жывы, — ствол у дубальтоўкі быў крывы. Болей б нам такой тандэтнай зброі, каб жыло ў лесе ўсё жывое.

●

— Як мала зроблена. — Ды што ты, ён адзін адседзеў тысячу с/г — сталагадзін. — Дык гэта ж тысяча с/р — стала-радкоў, агромністыя далягляды! — Ды каб, а то сталы ў яго с/н — сталы-нарады.

●

Скрануліся ваколіцы, чужынцаў горад поўны, на рынку як на полюсе: куды ні пойдзеш — поўдзень. Віруе геаграфія наркоты, зброі, мафіі.

●

Сённяшняя наша мода— гэта ўжо і мода будучага: як чыёйсьці рэтра.

●

Ці бачылі вы галодную кошачку? Не? А галодных сабак? Колькі хочаш? Уся справа ў пазваночніку — кошка лазіць па сметніцах, а сабака не можа.

●

Ойча наш, калі ты даеш нам хлеб надзённы, чаму б не даць табе з той жа самай нагоды кожнай дзяўчыне — вясельны марш Мендэльсона і астатняе ўсё па прыродзе, толькі — цур! — без разводаў.

●

Чаму муха б'ецца аб шкло — бачыла яго патрушчаным? Не, на волю мкне.

●

“Найвышэйшае шчасце — палёт”, — вучыў арол арлянё. “Што там арол гамоніць?” — і камень зляцеў у прадонне. Бачыць цяпер здаля: дурыць арол арляня.